Пралятары ўсіх краін, злучайцеся!

СУВЯЗЬ САВЕЦКІХ ОРГАНАЎ ПАМІЖ САБОЙ І МАСАМІ—АСНОВА САВЕЦКАГА БУДАЎНІЦТВА.

# БЮЛЕТЭНЬ
## САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ
## БЕЛАРУСКАЕ ССР



26 САКАВІКА 1928 г.
3 (46)

IV-ы год ВЫДАНЬНЯ.

ВЫДАНЬНЕ КІРАЎНІЦТВА
СПРАЎ СНК І ЭКАНАМІЧНАЙ
НАРАДЫ БССР
МЕНСК 1928 г.



Пралятары ўсіх краін, злучайцеся!

СУВЯЗЬ САВЕЦКІХ ОРГАНАЎ ПАМІЖ САБОЙ І МАСАМІ—АСНОВА САВЕЦКАГА БУДАЎНІЦТВА.

# БЮЛЕТЭНЬ

## САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ

## БЕЛАРУСКАЕ ССР



26 САКАВІКА 1928 г.
3 (46)



IV-ы год ВЫДАНЬНЯ.

ВЫДАНЬНЕ КІРАЎНІЦТВА
СПРАЎ СНК І ЭКАНАМІЧНАЙ
НАРАДЫ БССР
МЕНСК 1928 г.




# ЗЬМЕСТ

*Частка афіцыйная.*

---

**У гэтым нумары Бюлетэню заўважаны наступныя памылкі:**

1. Стар. 44, радок 7-ы зьверху, пасьля слоў: „падлічваюцца сумы" прапушчана: „патэнтавага збору".

2. Стар. 45, п. 3, у канцы першага радка прапушчаны словы: „патэнтавага збору 24 руб.", а ў другім радку замест „160 руб." трэба чытаць: „136 руб."

---

## 1. Правілы пра продаж лесу з таргоў з лясных дач Беларускай Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікі, выданыя Эканамічнаю Нарадаю пры СНК БССР

Замест дзейных „Правіл аб продажы лесу па сараўнаваньню і з таргоў“ (З. З. БССР 1925 г., № 41, арт. 350), Эканамічная Нарада пры СНК БССР устанаўляе наступныя правілы пра продаж лесу з таргоў:

1. На таргі ідзе тая драўніна, якая асталася вольнаю пасьля пляпавага разьмеркаваньня і замацаваньня.

2. На таргі дапушчаюцца знаходзячыяся ў межах Союзу ССР дзяржаўныя ўстановы і прадпрыемствы, што знаходзяцца на дзяржаўным або мясцовым бюджэце і на гаспадарчым разрахунку, а таксама каперацыйныя і грамадзкія арганізацы.

3. Час правядзеньня таргоў устанаўляецца Лясным Аддзелам Народнага Камісарыяту Земляробства па прапанове акруговых зямельных аддзелаў аб непрададзеных адзінках.

4. Лес на таргі ідзе паводле ацэначнага кошту, устаноўленага для дзяржаўных прадпрыемстваў пры выдачы ім лесу ў парадку разьмеркаваньня.

5. Лес, які астаўся непрададзеным на першых таргох, можа з дазволу Ляснога Аддзелу Народнага Камісарыяту Земляробства прадавацца акруговымі зямельнымі аддзеламі або лясьнічымі гаспадарчым спосабам ня менш ацэнкі або назначаецца імі на другія таргі з зьніжэньнем ацэнкі да разьмеру, што забясьпечваюць продаж.

6. Аб таргох публікуецца ў найбольш пашыраных газэтах БССР або Саюзу ССР. Аб нязначаных таргох на продаж лесу для мясцовага спажываньня, на агульную суму па лясьніцтву да трох тысяч рублёў і пры кошце кожнай паасобнай гандлёвай адзінкі ня больш трохсот рублёў, публікуецца толькі ў мясцовай газэце і, апроч таго, пасылаюцца апавяшчэньні праз раённыя выканаўчыя камітэты, сельскія саветы і лясную варту зацікаўленым спажыўцом.

7. У публікацыях і апавяшчэньнях аб таргох павінна быць паказана: а) час (год, месяц, дзень і гадзіна) пачатку продажу; б) месца продажу; в) назначаная на продаж па лясьніцтвах плошча або колькасьць пнёў, альбо аб'ёмная колькасьць; г) ацэначны кошт; д) спосаб падліку; е) разьмер застаў; ж) тэрмін (гадзіна), да якога могуць падавацца закрытыя пісьмовыя заявы; і) куды трэба зварочвацца, каб абгледзець пераліковыя ведамасьці і лес ў натуры, дзе можна азнаёміцца з ўмовамі продажу; к) хто мае права купляць і л) спосаб прапанаваньня тарговай набаўкі—пэўнай сумы на ацэнку або ў процантах.

8. Публікацыі і апавяшчэньні аб тэрмінах продажу лесу з таргоў робяцца ня менш, чымся за адзін месяц да пачатку таргоў.

9. Таргі на вялікія търговыя адзінкі з жывым лесам і на матар'ялы, што збываюцца на далёкія рынкі, робяцца пры акруговых зямельных аддзелах, а на малыя търговыя адзінкі (арт. 6)—пры раённых выканаўчых камітэтах. Таргі на продаж мёртвага лесу робяцца пры канцылярыях лясьніцтваў або ў бліжэйшых да месца жыцьця лясьнічага сельскіх саветах.

10. Для продажу лесу з таргоў, час продажу назначаецца з такім разрахункам, каб спажыўцы, ўдзел якіх у таргох чакаецца, мелі магчымасьць прыбыць да кожнага торгу.

11. Таргі робяцца асобныміляснымі търговымі камісіямі. У склад лясных търговых камісій ўваходзяць:

а) на таргох пры акруговых зямельных аддзелах—прадстаўнікі акруговага інспэктарыяту лясоў, акруговага фінансавага аддзелу і акруговай інспэкцыі гандлю;

б) на таргох пры раённых выканаўчых камітэтах—лясны інспэктар-рэвізор або лясьнічы і два прадстаўнікі раённага выканаўчага камітэту (у тым ліку адзін ад фінанансавай часьці раённага выканаўчага камітэту);

в) на таргох пры канцылярыях лясьнічых або пры сельскіх саветах—лясьнічы, памочнік лясьнічага і адзін або два прадстаўнікі сельскіх саветаў.

12. На найбольш вялікія таргі, якія робяцца ў акругах, Лясны Аддзел Народнага Камісарыяту Земляробства і Народны Камісарыят Фінансаў могуць камандыраваць сваіх прадстаўнікоў, пры чым камандыраваныя асобы ўваходзяць у склад търговых лясных камісій ў агульны лік іх членаў.

13. У търговых лясных камісіях старшынёю зьяўляецца прадстаўнік ляснога ведамства.

14. Для правадзейнасьці складу лясных търговых камісій патрэбна прысутнасьць ня менш трох членаў.

15. Назначаныя на таргі адзінкі зьнімаюцца з таргоў ляснымі търговымі камісіямі, калі патрэбна пераацэнка, ў іншых выпадках--загадам Ляснога Аддзелу Народнага Камісарыяту Земляробства.

16. Таргі назначаюцца мяшаныя, г. зн. вусныя і пісмовыя праз падачу пісьмовых закрытых заяў.

Установы і арганізацыі, што падалі пісьмовыя заявы, ня могуць рабіць вусных прапаноў на тыя адзінкі, якія паказаны імі ў закрытай заяве.

17. Асобы, якія хочуць таргавацца праз падачу закрытай пісьмовай заявы, падаюць закрытую і запячатаную сваю заяву не пазьней тэрміну, паказанага ў публікацыі або абвесцы, адрасуючы ў адпаведную лясную търговую камісію.

18. У заяве павінны быть паказаны: а) згода купіць лес на дакладнай падставе ўмоў на продаж лесу; б) тыя търговыя адзінкі, якія купляюцца, паказаўшы супроць кожнай адзінкі словамі запрапанаваную цану, прычым без усялякіх агаворак, падчыстка і папраўка цэн не дазваляецца; в) назва і адрэс купца і яго ўпаўнаважанага, які дзейнічае ад імя купца; г) сума заставы, якая прыкладаецца да заявы, паказаўшы, што прыкладаецца—грошы ці процантавыя паперы і якія, а калі застава ўнесена ў касу Народнага Камісарыяту Фінансаў, то трэба прыкласьці квіток і паказаць яго нумар, дату і ўнесеную суму заставы; д) каму застава павінна быць зьвернута.

Заява павінна быть аплочана гэрбавым зборам або прыкладзена да яе адпаведнае пасьведчаньне аб зьняцьці з данай арганізацыі гэрбавага збору. У канцы павінен быць ясны подпіс заяўніка.

19. Установы і арганізацыі, якія ўдзельнічаюць вусна або пісьмова ў таргох, уносяць у лясную тарговую камісію заставу ў разьмеры 10 проц. запрапанаванай . сумы за лес, што купляецца імі. Застава павінна быць унесена да пачатку таргоў грашмі або каштоўнымі дзяржаўнымі паперамі паводле курсу, што публікуецца Народным Камісарыятам Фінансаў, або павінен быць паданы квіток кас Народнага Камісарыяту Фінансаў аб уносе заставы.

20. Адчыніўшы ў назначаны тэрмін пасяджэньне, лясная тарговая камісія чытае ўмовы продажу і прапануе ўсім асобам, якія хочуць таргавацца вусна, падпісаць умовы на продаж лесу і ўнесьці ўстаноўленую заставу, пасьля чаго пачынаюцца вусныя таргі.

21. Перад пачаткам вусных таргоў прыйманьне пісьмовых заяў спыняецца. Закрытыя пісьмовыя заявы асоб, што таргуюцца, захоўваюцца на відным месцы неразгледжанымі да скончэньня вусных таргоў.

22. Вусныя таргі робяцца на кожную тарговую адзінку асобна.

23. Набаўкі, што прапануюцца асобамі, якія таргуюцца вусна, адзначаюцца ў тарговым лісьце супроць данай тарговай адзінкі. Калі пасьля трохразавай прапановы старшыні ніхто далейшых набавак не прапануе, то асоба, што зрабіла апошнюю набаўку, расьпісваецца на тарговым лісьце аб згодзе пакінуць сабе даную тарговую адзінку і ўносіць дадатковую заставу да вызначанай сумы. Да пачатку пісьмовых таргоў арганізацыя, якая вусна старгавала тарговую адзінку, можа рабіць далейшыя набаўкі „на сябе“, якія набаўкі запісваюцца ў тарговы ліст супроць адпаведных адзінак з расьпіскамі асоб, прапанаваўшых іх.

24. Скончыўшы вусныя таргі і прапановы набавак „на сябе“, старшыня абвяшчае вусныя таргі скончанымі і лясная тарговая камісія распачынае расьпячатваць пісьмовыя заявы на вачох усіх асоб, што таргаваліся. Кожная расьпячатаная заява галосна прачытваецца і зробленыя ў ёй прапановы запісваюцца ў тарговы ліст на адпаведныя тарговыя адзінкі.

25. Тарговыя набаўкі, паводле публікацыі або апавяшчэньня, робяцца на кожную тарговую адзінку ў пэўнай суме або ў проц. адносінах.

26. Калі лясная тарговая камісія прызнае якую-небудзь пісьмовую заяву не правадзейнай, то зробленыя ў ёй прапановы ў тарговы ліст не запісваюцца, а ў журнале аб правядзеньні таргоў адзначаюцца падставы, чаму заява прызнана неправадзейнай.

27. Таргі на продаж паасобнай адзінкі прызнаюцца ажыцьцёўленымі, калі на яе была зроблена хоць-бы адна пісьмовая або вусная прапанова, ня меншая ацэнкі.

28. Кожная адзінка лічыцца старгаванаю тэю арганізацыяю, якая запрапанавала за яе вышэйшую цану. Калі цэны, запрапанаваныя за адну і тую-ж адзінку некалькімі заяўнікамі, роўны, то перавага даецца дзяржаўным арганізацыям перад каперацыйнымі і грамадзкімі арганізацыямі. Калі-ж роўныя цэны былі запрапанаваны толькі дзяржаўнымі установамі або толькі каперацыйнымі і грамадзкімі арганізацыямі, то паміж імі, калі яны прысутнічаюць на таргох, робіцца вуснае спаборніцтва. Калі-ж яны прысутнічаюць ня ўсе або адсутнічаюць, то пытаньне вырашаецца жэрабям.

29. Усе продажы, зробленыя на гэтых таргох на імя аднэй і тэй-жа арганізацыі, лічацца аднэю купляю незалежна ад таго, ці былі яны куплены аднэю ці некалькімі прадстаўнікамі арганізацыі або асобы.



30. Пасьля сканчэньня таргоў заставы, што будуць вольнымі, аддаюцца пад расьпіску ў застаўнай ведамасьці або ў пісьмовай заяве па належнасьці. Іншыя-ж заставы па куплі, што не ажыцьцявілася, або не запатрабаныя зараз-жа здаюцца ў касу Народнага Камісарыяту Фінансаў у дэпазыт належнага лясьнічага.

31. Аб правядзеньні таргоў лясная тарговая камісія складае журнал і дае заключэньне аб спосабе далейшага продажу непрададзеных адзінак. Журналы пасылаюцца на працягу трох дзён ад дня сканчэньня таргоў на таргі, што рабіліся пры раённых выканаўчых камітэтах і лясьніцтвах,—у акруговы зямельны адзел, а на таргі, што рабіліся пры акруговых зямельных аддзелах,—у Лясны Аддзел Народнага Камісарыяту Земляробства.

32. Застаўная ведамасьць, тарговыя лісты, журналы аб правядзеньні таргоў і ведамасьць аб выніках продажу падпісваюцца ўсімі членамі тарговай камісіі.

33. Таргі на продаж лесу зацьвярджаюцца ляснымі тарговымі камісіямі: а) пры лясьніцтвах і пры раённых выканаўчых камітэтах на суму ня больш 3000 р. аднае арганізацыі; б) пры акруговых зямельных аддзелах—на ўсялякую суму.

34. На працягу двох тыдняў ад дня атрыманьня паведамленьня аб зацьверджаньні таргоў (паведамленьне ўручаецца асабіста пад расьпіску або пасылаецца поштаю з зваротнаю расьпіскаю) купец павінен зьявіцца ў канцылярыю лясьнічага для заключэньня дагавору. Калі купец у паказаны тэрмін не зьявіцца, то ўнесеная ім на таргох застава пералічваецца ў даход скарбу і купец губіць права на старгаваныя ім тарговыя адзінкі. Калі купцом будзе куплена лесу ва ўсіх тарговых адзінках у даным лясьніцтве на суму менш 300 руб., то заключаць дагавор не абавязкова пры тэй умове, што ён возьме на працягу гэтых-жа двух тыдняў лесарубачны білет і заплаціць цалкам усе належачыя з яго пляцяжы за лес, заставы для забясьпечаньня вядзеньня правільнасьці апярацый і суму на ачыстку месц рубак.

35. Купец, які набыў лес з таргоў, мае права распараджацца гэтым лесам на што ён сам хоча, аб чым і адзначаецца у лесарубачным білеце, які выдаецца на рукі купцу.

36. Заставы, унесеныя на таргох, астаюцца заставамі для забясьпечаньня правільнасьці вядзеньня апярацый.

Старшыня Эканамічнай Нарады пры СНК БССР **М. Карклін**.

Нам. Кіраўніка Спраў СНК і Эканамічнай Нарады БССР **В. Крывіцкі**.

26 сьнежня 1927 г.

---

## 2. Інструкцыя Вышэйшага Савету Народнай Гаспадаркі БССР

ПРА ПАРАДАК РЭАЛІЗАЦЫІ ЎСТАНОВАМІ І ПРАДПРЫЕМСТВАМІ ЗАПАСАЎ ЛОМУ ЧЫГУНУ І ЖАЛЕЗА.

Паводле пастановы Эканамічнай Нарады БССР за 10 студзеня 1928 г. „Пра рэалізацыю ломаў чорных мэталяў“ (З. З. БССР 1928 г., № 8, арт. 62) Вышэйшы Савет Народнай Гаспадаркі БССР пастанаўляе:

1. Усе дзяржаўныя ўстановы і прадпрыемствы, якія знаходзяцца на тэрыторыі БССР, маюць права рэалізаваць належачы ім і непатрэбны для вытворчасьці лом чорных мэталяў толькі праз дзяржаўнае акцыйнае таварыства „Рудмэтальгандаль“.

2. Усе дзяржаўныя установы і прадпрыемствы на працягу двух месяцаў ад дня выданьня гэтай пастановы павінны выявіць у

сябе колькасьць лому чорных мэталяў, непатрэбных для вытворчасьці, і паведаміць аб гэтым, а таксама аб пунктуальным месцы яго знахаджэньня „Рудмэтальгандаль“.

3. „Рудмэтальгандаль“ пасьля атрыманьня зьвестак ад дзяржаўных установ і прадпрыемстваў аб ломе чорных мэталяў, які ёсьць у іх распараджэньні, павінен арганізаваць прыйманьне яго з такім разьлікам, каб рэалізацыя лому была скончана не пазьней 1-га кастрычніка 1928 г.

4. На далейшы час пасьля гэтага 1927-28 апэрацыйнага году дзяржаўныя ўстановы і прадпрыемствы павінны даваць зьвесткі аб ломе чорных мэталяў, патрэбных для вытворчасьці, які ёсьць ў іх распараджэньні, „Рудмэтальгандлю“ два разы ў год, а іменна: не пазьней 1-га красавіка і 1-га жніўня.

5. „Рудмэтальгандаль“ павінен скончыць прыйманьне лому ад уласьнікоў не пазьней 1-га кастрычніка адпаведнага году.

6. Лом чорных мэталяў „Рудмэтальгандлем“ ад іх уласьнікаў прымаецца за гатоўку паводле устаноўленых загатоўчых цэн „Рудмэтальгандлю“.

Старшыня Вышэйшага Савету Народнай
Гаспадаркі БССР **С. Карп.**

Начальнік Прамыслова-Эканамічнага Кіраўніцтва—
Член Прэзыдыуму ВСНГ БССР **У. Стракоўскі.**

21 лютага 1928 г.

---

## 3. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы і Народнага Камісарыяту Аховы Здароўя БССР

ПРА ЎВЯДЗЕНЬНЕ Ў СІЛУ НА ТЭРЫТОРЫІ БССР АБАВЯЗКОВАЙ ПАСТАНОВЫ НАРОДНАГА КАМІСАРЫЯТУ ПРАЦЫ СССР ЗА 24 ЖНІЎНЯ 1927 г., № 246, „ПРАВИЛА УСТРОЙСТВА И СОДЕРЖАНИЯ ВРЕМЕННЫХ ЖИЛЫХ ПОМЕЩЕНИЙ ДЛЯ РАБОЧИХ И СЛУЖАЩИХ“.

На падставе арт. 25 абавязковай пастановы НК Працы СССР за 24 жніўня 1927 г., № 246, „Правила устройства и содержания временных жилых помещений для рабочих и служащих“ („Известия НК Труда СССР“ 1927 г., № 39) Народны Камісарыят Працы і Народны Камісарыят Аховы Здароўя БССР пастанаўляюць увесьці ў сілу паказаную вышэй абавязковую пастанову на тэрыторыі БССР.

Нам. Народнага Камісара Працы БССР **Р. Алесін.**

Народны Камісар Аховы Здароўя БССР **М. Барсукоў.**

25 лістапада 1927 г.
№ 90.

---

## 4. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы і Народнага Камісарыяту Аховы Здароўя БССР

ПРА ДАПАЎНЕНЬНЕ ПАСТАНОВЫ НАРОДНАГА КАМІСАРЫЯТУ ПРАЦЫ СССР ЗА 24 ЖНІЎНЯ 1927 г., № 246 „ПРАВИЛА УСТРОЙСТВА И СОДЕРЖАНИЯ ВРЕМЕННЫХ ЖИЛЫХ ПОМЕЩЕНИЙ ДЛЯ РАБОЧИХ И СЛУЖАЩИХ“.

Народны Камісарыят Працы і Народны Камісарыят Аховы Здароўя БССР пастанаўляюць ўвесьці наступныя дапаўненьні ў абавязковую пастанову НКПрацы СССР за 24 жніўня 1927 г., № 246, „Пра-

вила устройства и содержания временных жилых помещений для рабочих и служащих“ („Известия НКТруда СССР“ 1927 г., № 39):

1. Тыповыя праекты будынкаў і вызначэньне плошчы забудоўкі павінны падавацца для папярэдняга санітарнага заключэньня ў санітарны нагляд Народнага Камісарыяту Аховы Здароўя і ў органы Народнага Камісарыяту Працы паводле існуючых для гэтага палажэньняў.

2. Адхіленьні ад вызначаных абавязковаю пастановаю НК Працы СССР за 24 жніўня 1927 г., № 246, „Правила устройства и содержания временных жилых помещений для рабочих и служащих“ санітарных норм могуць дазваляцца толькі Народным Камісарыятам Працы і Народным Камісарыятам Аховы Здароўя БССР.

Нам. Народнага Камісара Працы БССР **Р. Алесін.**

Народны Камісар Аховы Здароўя БССР **М. Барсукоў.**

25 лістапада 1927 г
№ 91.

---

## 5. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы і Народнага Камісарыяту Унутраных Спраў БССР

ПРА ЗАХАДЫ ДА РЭГУЛЯВАНЬНЯ РЫНКУ ПРАЦЫ.

У дадатак да пастановы Народнага Камісарыяту Унутраных Спраў і Народнага Камісарыяту Працы БССР за 19 лютага 1925 г. „Аб ускладаньні на раённыя выканаўчыя камітэты і сельскія саветы абавязкаў па нагляданьні за найманьнем на вёсцы масавай рабочай сілы з мясцовага сялянства для працы паза месцам жыцьця“ (З. З. БССР 1925 г., № 16, арт. 128) Народны Камісарыят Працы і Народны Камісарыят Унутраных Спраў БССР пастанаўляюць абавязаць раённыя выкананаўчыя камітэты і сельскія саветы дапамагаць карэспандэнцкім пунктам, што арганізуюцца органамі Народнага Камісарыяту Працы БССР у сельскіх мясцовасьцах, у іх працы па рэгуляваньні адходу сялян на заробкі, у паасобку:

1. Раённыя выканаўчыя камітэты і сельскія саветы павінны даваць работнікам карэспандэцкіх пунктаў памяшканьне для іх працы, маючы на ўвазе тое, што карэспандэнцкія пункты павінны знаходзіцца ў найбольш залюднёных мясцох і дзе найбольш сялян адходзіць на заробкі.

2. Раённыя выканаўчыя камітэты і сельскія саветы павінны дапамагаць карэспандэцкім пунктам у карыстаньні сродкамі сувязі (тэлефонамі і інш.).

3. Раённыя выканаўчыя камітэты і сельскія саветы павінны даваць работнікам карэспандэнцкіх пунктаў зьвесткі аб колькасьці асоб, што пайшлі на заробкі, паводле выданых пасьведчаньняў.

Народны Камісар Працы БССР **К. Бэнэк.**

Нам. Народнага Камісара Унутраных Спраў БССР **Я. Кроль.**

17 лютага 1928 г.
№ 8.

---

Узгоднена з саюзам Мэдсанпрацы

## 6. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы і Народнага Камісарыяту Аховы Здароуя БССР.

ПРА КОНКУРСНЫЯ КАМІСІІ:

Народны Камісарыят Працы і Народны Камісарыят Аховы Здароўя БССР пастанаўляюць зацьвердзіць наступнае палажэньне пра конкурсныя камісіі:

1. Лекарскі пэрсанал і зубныя дактары на вольныя штатныя пасады запрашаюцца гаспадарчымі органамі па конкурсу праз утварэньне конкурсных камісій пры адпаведных рэспубліканскіх і акруговых органах (Народны Камісарыят Аховы Здароўя, акруговыя інспэктарыяты аховы здароўя, Галоўсацстрах, акруговыя страхавыя касы, Камітэт Чырвонага Крыжу і інш.).

*Увага* 1. Часовае замяшчэньне лекароў на тэрмін ня больш 2-х месяцаў, а таксама на вызначаны тэрмін (водпуск, навуковая камандыроўка) робіцца гаспадарчым органам бяз конкурсу па згодзе з прафэсіянальным саюзам Мэдсанпрацы.

*Увага* 2. Мясцовыя гаспадарчыя органы па згодзе з прафэсіянальным саюзам Мэдсанпрацы маюць права распрацаваць сьпіс пасад дактароў і зубных дактароў, назначэньне на якія па мясцовых умовах робіцца на агульных падставах бяз конкурсу.

2. Конкурсныя камісіі складаюцца з старшыні конкурснай камісіі, які назначаецца загадчыкам адпаведнага гаспадарчага органу, і прадстаўнікоў—па аднаму ад прафэсіянальнага саюзу Мэдсанпрацы і органаў Народнага Камісарыяту Працы.

*Увага* 1. У гарадох, калі запрашаецца лекар на пасаду ў лекавую ўстанову, то старшынёю конкурснай камісіі абавязкова назначаецца галоўны лекар гэтай лекавай установы.

*Увага* 2. У склад конкурснай камісіі, што утвараецца не пры органе аховы здароўя, уводзіцца дадаткова з правам пастаноўчага голасу прадстаўнік адпаведнага органу аховы здароўя.

3. Пастановы конкурснай камісіі прымаюцца простаю большасьцю галасоў і зацьвярджаюцца адпаведнымі органамі (Народным Камісарыятам Аховы Здароўя, акруговымі інспэктарыятамі аховы здароўя, Галоўсацстрахам, акруговымі страхавымі касамі і інш.).

Члены конкурснай камісіі, якія не згаджаюцца з пастановаю большасьці членаў камісіі, маюць права дадаць да пратаколу сваю матываваную асобную думку.

*Увага.* Калі загадчык гаспадарчага органу не зацьвярджае ні аднае кандыдатуры, якія прапануюцца конкурснаю камісіяю, то назначаецца другі конкурс альбо пытаньне вырашаецца паводле згоды паміж гаспадарчым органам і прафэсіянальным саюзам Мэдсанпрацы.

4. Калі конкурс не адбыўся, бо ня было заяў альбо ня было падыходзячых кандыдатур паміж асоб, што падалі заявы, то гаспадарчы орган, па згодзе з прафэсіянальным саюзам Мэдсанпрацы,

альбо назначае новы конкурс, альбо назначае на вольную пасаду паводле ўвагі 1 да арт. 1 гэтай пастановы.

5. Конкурсныя камісіі карыстаюцца тэхнічным апаратам адпаведнага гаспадарчага органу і склікаюцца яе старшынёю.

6. Конкурсы паводле згоды паміж гаспадарчымі органамі з органам Народнага Камісарыяту Працы і прафэсіянальным саюзам Мэдсанпрацы могуць абвяшчацца ў агульнасаюзным, рэспубліканскім альбо акруговым масштабе.

7. Права ўдзельнічаць у конкурсе маюць дактары і зубныя дактары, якія працуюць, а таксама і беспрацоўныя, зарэгістраваныя на Біржы Працы.

*Увага.* Пры іншых роўных умовах кандыдатур, намечаных конкурснаю камісіяю, перавага даецца асобам, што працавалі на раёне ня менш трох гадоў.

8. Умовы конкурсу ўстанаўляюцца конкурснаю камісіяю і зацьвярджаюцца загадчыкам адпаведнага гаспадарчага органу.

9. Апавяшчэньне аб конкурсе з паказаньнем пасады, спэцыяльнасьці, умоў працы, тэрміну падачы заяў і іншага падпісваюцца загадчыкам гаспадарчага органу і абвяшчаецца ў друку. Адначасна гаспадарчы орган апавяшчае аб конкурсе мясцовую Біржу Працы і прафэсіянальны саюз Мэдсанпрацы.

10. Усе матар'ялы конкурснай камісіі павінны падавацца гаспадарчым органам для папярэдняга азнаямленьня мясцоваму органу прафэсіянальнага саюзу Мэдсанпрацы і органу Народнага Камісарыяту Працы за тыдзень да конкурсу.

11. Заявы аб жаданьні атрымаць пасаду паводле абвешчанага конкурсу разам з патрэбнымі дакумэнтамі падаюцца ў адпаведны гаспадарчы орган.

*Увага.* Тэрмін падачы заяў устанаўляецца ў залежнасьці ад характару пасады, але ня менш 2-х тыдняў.

12. Паданыя заявы могуць перадавацца на заключэньне камісіі экспэртаў альбо паасобных спэцыялістаў, якія назначаюцца гаспадарчым органам па згодзе з прафэсіянальным саюзам Мэдсанпрацы.

*Увага.* Экспэрты таксама маюць права ўдзельнічаць у пасяджэньні конкурснай камісіі з правам дарадчага голасу.

Народны Камісар Працы БССР **К. Бэнэк.**

Народны Камісар Аховы Здароўя БССР **М. Барсукоў.**

5 сакавіка 1928 г.

№ 11.

---

## 7. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР

ПРА СКАСАВАНЬНЕ ПАСТАНОЎ НКПРАЦЫ БССР ЗА 10 ЛІСТАПАДА 1925 г. „ПРА ТЫПОВЫ ДАГАВОР НА ЛЕСАЗАГАТОЎЧЫЯ РАБОТЫ“ і ЗА 28 КРАСАВІКА 1926 г. „ПРА ТЫПОВЫ ДАГАВОР НА СПЛАЎ ЛЕСАМАТАР'ЯЛАЎ І ДРОЎ“.

Народны Камісарыят Працы БССР на падставе арт. 20 Інструкцыі НК Працы Саюзу ССР за 17-га лютага 1928 г. №107 (газэта „Труд“ за 21-га лютага 1928 г.) пастанаўляе скасаваць пастановы НК Працы БССР за 10-га лістапада 1925 г. „Пра тыповы дагавор на лесазагатоўчыя работы“ (Бюлетэнь СНК БССР 1925 г., № 8) і за 28 красавіка

1926, г. № 48 „Пра тыповы дагавор на сплаў лесаматар'ялаў і дроў“ (Бюлетэнь СНК БССР 1926 г., № 6).

За Народнага Камісара Працы БССР **Я. Мяркулаў.**

Ст. С.-Гасп. інспэктар НК Працы БССР **Л. Лашкевіч.**

8 сакавіка 1928 г.
№ 12.

## 8. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР

ПРА ДЗЯРЖАЎНЫ МІНІМУМ ЗАРАБОТНАЙ ПЛАТЫ НА КРАСАВІК-ВЕРАСЕНЬ 1928 г.

Народны Камісарыят Працы БССР пастанаўляе дзяржаўны мінімум заработнай платы і разьмеркаваньне па паясох, устаноўленае на падставе пастановы НК Працы БССР за 24 студзеня 1928 г., № 5 (Бюлетэнь СНК БССР 1928 г., № 2), пакінуць у сіле на пэрыяд красавік -верасень 1928 г.

За Народнага Камісара Працы БССР **Я. Мяркулаў**

Сакратар Народнага Камісарыяту Працы БССР **А. Круглік**

Узгоднена:
з Цэнтральным Саветам Прафэсіянальных Саюзаў БССР—Старшыня Цэнтральнага Савету Прафэсіянальных Саюзаў БССР **І. Перапечка.**
з Народным Камісарыятам Фінансаў БССР—Адносьнік НК Фінансаў БССР за 7 сакавіка 1928 г., № 2104/24.

10 сакавіка 1928 г.
№ 13.

## 9. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР

ПРА ПАРАДАК УСТАНАЎЛЕНЬНЯ АСОБНЫХ ФОНДАЎ ЗАРАБОТНАЙ ПЛАТЫ ДЛЯ АПЛАТЫ СПЭЦЫЯЛІСТАЎ НА КРАСАВІК-ВЕРАСЕНЬ 1928 г.

Народны Камісарыят Працы БССР пастанаўляе:

1. Асобныя фонды для аплаты спэцыялістаў устанаўляюцца для ўстаноў і прадпрыемстваў, у якіх не праведзена сыстэма дзяржаўнага нармаваньня заработнай платы, сталыя аклады па пасадах паводле калектыўных дагавароў і ня ўведзены асобныя тарыфныя сеткі для спэцыялістаў.

2. Для ўстаноў і прадпрыемстваў, для якіх устанаўляюцца асобныя фонды для аплаты спэцыялістаў, паводле артыкулу 1 гэтай пастановы, на красавік-верасень 1928 г., зацьвярджаюцца асобныя фонды ў тым самым разьмеры, які ўстаноўлен НКПрацы і акруговымі інспэкцыямі працы на кастрычнік 1927 г.—сакавік 1928 г.

3. Установы і прадпрыемствы, для якіх асобныя фонды ня былі устаноўлены на 1-ае паўгодзьдзе 1927-28 г., і тыя, якія лічаць патрэбным павялічыць разьмер асобных фондаў, павінны падаць заяўку з заключэньнем адпаведнага прафэсіянальнага саюзу ў наступным парадку:

а) дзяржаўныя ўстановы і прадпрыемствы і акцыйныя мяшаныя таварыствы рэспубліканскага значэньня—у Народны Камісарыят Працы БССР,

б) дзяржаўныя ўстановы і прадпрыемствы мясцовага значэньня —у акруговыя інспэкцыі працы.

*Увага.* Заяўкі павінны быць пададзены паводле формы, паказанай у пастанове НКПрацы СССР за 24 верасьня 1924 г. № 397/434 („Известия НКТ СССР 1924 г., № 38"), не пазьней 15 красавіка 1928 г.

4. З часу выданьня гэтай пастановы касуецца пастанова НКПрацы БССР за 26 верасьня 1927 г. № 78„ Аб устанаўленьні асобных фондаў для аплаты спэцыялістаў на кастрычнік 1927 г.—сакавік—1928 г.“

Час. вык. аб. Народнага Камісара Працы БССР **Я. Мяркулаў.**

Сакратар Народнага Камісарыяту Працы БССР **А. Круглік.**

13 сакавіка 1928 г.
№ 14.

---

Узгоднена з Цэнтральным Саветам Прафэсіянальных Саюзаў і Народным Камісарыятам Юстыцыі БССР.

## 10. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР

ПРА ЎТВАРЭНЬНЕ ПРЫ ЎСІХ АКРУГОВЫХ ІНСПЭКЦЫЯХ ПРАЦЫ БЮРО НАГЛЯДУ ПА ПРАЦОЎНЫХ СПРАВАХ.

1. Для ўпарадкаваньня нагляду за законнасьцю пастаноў расцэнчана-канфліктных камісій, міравых камэр і пасрэдніцкіх судоў, пры ўсіх акруговых інспэкцыях працы ўтвараюцца акруговыя бюро нагляду па працоўных справах.

2. Да кампэтэнцыі акруговых бюро нагляду па працоўных справах належыць:

а) вырашэньне пытаньняў па скаргах старон і зацікаўленых асоб на пастановы расцэначна-канфліктных камісій, міравых камэр і пасрэдніцкіх судоў і скасаваньне гэтых пастаноў па матывах неадпаведнасьці іх законам;

б) прыйманьне ад старон (аддзельных асоб, груп рабочых і прафэсіянальных саюзаў) скарг на ўвайшоўшыя ў сілу пастановы і рашэньні працоўных сэсій народных судоў і апратэставаньне іх праз памочніка акруговага пракурора па працоўных справах у парадку нагляду.

3. Акруговыя бюро нагляду складаюцца з Ст. Інспэктара Працы (ён-жа зьяўляецца старшынёю), памочніка акруговага пракурора па працоўных справах і прадстаўніка акруговага савету прафэсіянальных саюзаў (у Менску—ЦСПСБ.)

4. Пытаньні ў бюро нагляду вырашаюцца простаю большасьцю галасоў; калі ёсьць асобная думка каго-небудзь з членаў бюро, то пытаньне па яго заяве можа быць на працягу трох дзён перададзена на вырашэньне ў Народны Камісарыят Працы БССР, але выкананьне пастановы акруговага бюро нагляду ў такім выпадку не прыпыняецца.

5. Пададзеныя ў акруговыя бюро нагляду скаргі павінны быць разгледжаны не пазьней пяці дзён ад дня падачы.

6. Акруговыя бюро нагляду па працоўных справах карыстаюцца апаратам акруговых інспэкцый працы.

7. З часу выданьня гэтай пастановы касуецца пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР за 30 мая 1927 г. № 63 „Аб утварэньні

пры Менскім, Віцебскім і Гомельскім аддзелах працы бюро нагляду па працоўных справах“ (Бюлетэнь СНК БССР 1927 г., № 11).

Народны Камісар Працы БССР **К. Бэнэк.**

Сакратар Народнага Камісарыяту Працы БССР **А. Круглік.**

16 сакавіка 1928 г.
№ 15

---

## 11. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР

ПРА ЛІКВІДАЦЫЮ БЮРО НАГЛЯДУ ПА ПРАЦОЎНЫХ СПРАВАХ ПРЫ НАРОДНЫМ КАМІСАРЫЯЦЕ ПРАЦЫ БССР.

(Выдана на падставе пастановы ЦВК і СНК БССР за 22 сьнежня 1927 г. „Пра рэарганізацыю і спрашчэньне савецкага апарату і пра пашырэньне праў мясцовай ўлады“—З. З. БССР 1928 г., № 6, арт. 36).

Народны Камісарыят Працы БССР пастанаўляе:

1. Пастановы Народнага Камісарыяту Працы БССР за 23 студзеня 1926 г. № 4 „Аб бюро нагляду па працоўных справах пры Народным Камісарыяце Працы БССР“ (Бюлетэнь СНК БССР 1926 г., № 2) і за 28 сакавіка 1927 г. „Аб зьмене пастановы Народнага Камісарыяту Працы БССР за 23 студзеня 1926 г., № 4 „Аб бюро нагляду па працоўных справах“ скасаваць і існуючае пры Народным Камісарыяце Працы БССР Бюро Нагляду па працоўных справах ліквідаваць.

2. Функцыі Бюро Нагляду ўскласьці на Тарыфна-Канфліктную Інспэкцыю Народнага Камісарыяту Працы БССР.

Народны Камісар Працы БССР **К. Бэнэк.**

Сакратар Народнага Камісарыяту Працы БССР **А. Круглік.**

16 сакавіка 1928 г.
№ 16

---

Узгоднена з ЦСПСБ і Народным Камісарыятам Фінансаў БССР.

## 12. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР

ПРА ТЭРМІНЫ ВЫПЛАТЫ ЗАРАБОТНАЙ ПЛАТЫ.

На падставе пастановы СНК СССР за 2 лютага 1928 г. „Аб тэрмінах выплаты заработнай платы“ (З. З. СССР 1928 г., № 10, арт. 92) і для разьвіцьця абежніку Народнага Камісарыяту Працы СССР за 11 лютага 1928 г., № 74, „Аб тэрмінах выплаты заработнай платы“ (газэта „Труд“ за 15 лютага 1928 г., № 39), Народны Камісарыят Працы БССР пастанаўляе ўстанавіць наступныя тэрміны выплаты заработнай платы:

1. Заработная плата выплачваецца за прапрацованы час.

2. Ва ўстановах, што знаходзяцца на дзяржаўным і мясцовым бюджэце, заработная плата выплачваецца: а) ва ўсіх функцыянальных установах народнай асьветы—1 і 16 кожнага месяца; б) ва ўсіх іншых функцыянальных установах—2 і 17; в) у народных камісарыятах і прыроўненых да іх установах і акруговых апаратах—3 і 18.

3. У дзяржаўных установах, што знаходзяцца на гаспадарчым разрахунку, у каперацыйных і грамадзкіх установах заработная плата выплачваецца: а) у каперацыйных—31 (30) і 15; б) у гандлёвых—30 (29) і 14; в) у крэдытных, кіруючых прамысловасьцю апаратах, страхавых (Дзяржстрах, Соцстрах) і інш.—29 (28) і 13.

4. У раённых і сельскіх мясцовасьцях ва ўсіх установах заработная плата выплачваецца 1 раз у месяц паміж 20 і 30 кожнага месяца.

5. Калі ўстаноўленыя паказанамі вышэй артыкуламі тэрміны выплаты заработнай платы супадаюць з нерабочым днём, то заработная плата выплачваецца напярэдадні нерабочых дзён.

6. Паказаныя ў гэтай пастанове тэрміны выплаты заработнай платы ўводзяцца ў сілу паступова па згодзе адпаведнай установы з прафэсіянальным саюзам, але не пазьней 1 мая 1928 г.

7. Акруговым інспэкцыям працы пасьля ўзгадненьня з акруговым фінансавым аддзелам, акруговым саветам прафэсіянальных саюзаў, акруговаю інспэкцыяю гандлю і адпаведнымі органамі прамысловасьці, транспару і капярацыі даручаецца на працягу 2-х месяцаў пераглядзець тэрміны выплаты заработнай платы ў прамысловых прадпрыемствах для найбольш раўнамернага разьмеркаваньня сум, што выплачваюцца, на паасобныя дні.

Народны Камісар Працы БССР **К. Бэнэк.**

Сакратар Народнага Камісарыяту Працы БССР **А. Круглік.**

17 сакавіка 1928 г.
№ 17

---

## 13. Абежнік Народнага Камісарыяту Земляробства БССР

ПРА СПЫНЕНЬНЕ ДЗЕЯНЬНЯ АБЕЖНІКУ НАРОДНАГА КАМІСАРЫЯТУ ЗЕМЛЯРОБСТВА БССР ЗА 27-VIII—1925 г. № 29.

*Усім акруговым зямельным аддзелам, раённым выканаўчым камітэтам і зямельным камісіям БССР.*

У сувязі з тым, што ў „Асновах земляўпарадкаваньня і землякарыстаньня“, якія знаходзяцца цяпер на зацьверджаньні Ураду СССР, ёсьць новыя дырэктывы аб арэндзе зямлі, якія адрозьніваюцца ад паказаньняў дадзеных у абежніку Народнага Камісарыяту Земляробства БССР за 27-VIII-1925 г., № 29, прапануецца спыніць дзеяньне гэтага абежніку і да выданьня памянёных „асноў“ і перапрацоўкі ў адпаведнасьці з імі Зямельнага Кодэксу БССР, пры дазваленьні здачы зямлі ў працоўную арэнду і рэгістрацыі новых дагавароў кіравацца палажэньнямі, вызначанымі ў артыкулах 27-37 Зямельнага Кодэксу.

Народны Камісар Земляробства БССР **З. Прышчэпаў.**

Нам. Загадчыка Аддзелу Земляўпарадкаваньня і Дзяржаўнай Зямельнай Маемасьці НКЗ БССР **М. Вашчыла--Вірын.**

Старшыня Асобнай Калегіі Вышэйшага Кантролю па Зямельных Справах пры НКЗ БССР **Я. Лабаноўскі.**

3 сакавіка 1928 г.
№ 2.

---

## 14. Абежнік Народнага Камісарыяту Земляробства БССР

ПРА ТЭРМІНОВЫ РАЗГЛЯД УСІХ ЗЕМЛЯЎПАРАДЧЫХ СПРАЎ.

*Акруговым зямельным камісіям.*

Правядзеньне з посьпехам сельска-гаспадарчых кампаній у значнай частцы залежыць ад сваячаснага разгляду земляўпарадчых спраў і дапушчэньня удзельнікаў гэтых спраў да землякарыстаньня ў новых граніцах.

Дзеля гэтага Народны Камісарыят Земляробства прапануе акруговым зямельным камісіям у працягу красавіка вырашыць без выключэньня ўсе земляўпарадчыя справы, што пададзены ім на вырашэньне. Да работы па вывучэньні, дакладу спраў і афармленьні пастаноў зямельнай камісіі прыцягнуць земляўпарадчыкаў, якія знаходзяцца пры акруговым зямельным аддзеле. Аб выніках разгляду спраў паведаміць у пачатку мая Народны Камісарыят Земляробства.
Разам з гэтым Народны Камісарыят Земляробства папераджае, што за невыкананьне гэтай прапановы вінаватыя будуць прыцягнуты да адказнасьці.

Народны Камісар Земляробства БССР **З. Прышчэпаў.**

Старшыня Асобнай Калегіі Вышэйшага Кантролю
па Зямельных Справах БССР **Я. Лабаноўскі.**

17 сакавіка 1928 г.
№ 4000.

---

## 15. Інструкцыя Народнага Камісарыяту Ўнутраных Спраў БССР

ПРА ЎЖЫВАНЬНЕ ПАСТАНОВЫ САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ БССР ЗА 2 ЖНІЎНЯ 1927 г. „АБ ПАМЯШКАНЬНЯХ, ЯКІЯ ЗАЙМАЮЦЦА ПАШТОВА-ТЭЛЕГРАФНЫМ ВЕДАМСТВАМ“.

*Выдаецца на падставе пастановы Савету Народных Камісараў БССР за 2 жніўня 1927 г. „Аб памяшканьнях, якія займаюцца паштова-тэлеграфным ведамствам“ (З. З. БССР 1927 г., № 33, арт. 172).*

1. З часу выданьня пастановы Савету Народных Камісараў БССР за 2 жніўня 1927 г. „Аб памяшканьнях, якія займаюцца паштова-тэлеграфным ведамствам“, памянёнае ведамства павінна аплачваць занятыя імі памяшканьні на агульных падставах, вызначаных для устаноў, што знаходзяцца на дзяржаўным бюджэце.

2. Заключаныя паштова-тэлеграфным ведамствам з выканаўчымі камітэтамі дагаворы на арэнду памяшканьняў, на падставах пастановы Савету Народных Камісараў БССР за 9 красавіка 1924 г. (Прат. № 8, п. 73) аб бясплатным карыстаньні памяшканьнямі на працягу 6 гадоў, астаюцца ў сіле да сканчэньня тэрміну дагавору, апроч пункта аб бясплатным карыстаньні.

3. Калі выявіцца, што да 2 жніўня 1927 г. паштова-тэлеграфным ведамствам зроблен у занятых ім памяшканьнях капітальны рамонт і рамонт гэты ў момант абгляду памяшканьня яшчэ ня зношан, то кошт ня зношанай часткі гэтага рамонту залічаецца ў суму арэнднай платы. Кошт усяго рамонту і ня зношанай часткі яго ўстанаўляецца асобным актам пры ўдзеле абедзьвюх старон.

4. Дагаворы на далейшую здачу памяшканьняў і паасобных будынкаў паштова-тэлеграфнаму ведамству заключаюцца на агульных падставах.

5. Пры здачы паштова-тэлеграфнаму ведамству паасобных будынкаў паводле ставак, устаноўленых арт. 2 пастановы СНК БССР за 2 жніўня 1927 г. „Аб памяшканьнях, якія займаюцца паштова-тэлеграфным ведамствам“, калі паштова-тэлеграфнае ведамства адмовіцца страхаваць здадзеныя яму будынкі, то яны страхуюцца за рахунак органаў камунальнай гаспадаркі, але акалічнасьць гэта бярэцца пад увагу пры вылічэньні зьніжаных ставак арэнднай платы.

Народны Камісар Унутраных Спраў БССР **А. Сташэўскі.**

Інспэктар Жылічных і Зямельных Спраў Народнага Камісарыяту Унутраных Спраў БССР **Л. Позін.**

22 лютага 1928 г.

---

## 16. Абежнік Народных Камісарыятаў Унутраных Спраў і Юстыцыі БССР

ПРА ПАРАДАК РАЗГЛЯДУ СПРАЎ АБ ЛЯСНЫХ ПАРУШЭНЬНЯХ.

*Усім акруговым выканаўчым камітэтам і акруговым пракурорам.*

Дзеля таго, што ў практыцы ўзьнікае нярэдка пытаньне аб тым, які выканаўчы камітэт павінен ужываць меры адміністрацыйнага ўплыву за лясныя парушэньні, прадугледжаныя 1 ч. арт. 99 Крымінальнага Кодэксу, калі парушнік жыве на тэрыторыі не таго выканаўчага камітату, у ведамстве якога зроблена парушэньне, Народныя Камісарыяты Унутраных Спраў і Юстыцыі БССР растлумачваюць:

1. Як агульнае правіла, справа аб лясным парушэньні павінна разглядацца тым выканаўчым камітэтам, на тэрыторыі якога гэтае парушэньне зроблена.

2. Калі парушнік заўсёды жыве на тэрыторыі не таго выканаўчага камітэту, у раёне якога зроблена парушэньне, і калі пры гэтым для ўжываньня меры адміністрацыйнага ўплыву трэба дакладна высьвятліць маемаснае становішча парушніка, то справа павінна перадавацца на разгляд у выканаўчы камітэт па месцы жыцьця парушніка.

3. У выпадках, паказаных у п. 2, спагнаныя з парушніка штрафныя сумы, а таксама у адпаведных выпадках сумы атрыманыя пры продажы канфіскаванага ляснога матар‘ялу, накіроўваюцца, з вылічэньнем выдаткаў на перасылку, у бліжэйшую касу Народнага

Камісарыяту Фінансаў, якая пасылае іх у тую касу Народнага Камісарыяту Фінансаў, у раёне якой зроблена парушэньне для залічэньня і разьмеркаваньня паводле існуючага парадку.

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі БССР **С. Гохман.**

Нам. Народнага Камісара Ўнутраных Спраў БССР **Я. Кроль.**

27 лютага 1928 г.
№ 33.

---

## 17. Абежнік Народных Камісарыятаў Юстыцыі і Ўнутраных Спраў БССР

ПРА ПАРАДАК НАКІРАВАНЬНЯ СУДАМІ ЗАСУДЖАНЫХ ДЛЯ АДБЫВАНЬНЯ КАРЫ Ў СЕЛЬСКА-ГАСПАДАРЧЫЯ ПАПРАЎНА-ПРАЦОЎНЫЯ КАЛЁНІІ.

*Усім народным судом і мясцом зьняволеньня БССР.*

Для рацыянальнага ўжываньня папраўна-працоўнага ўплыву, злучанага з пазбаўленьнем волі, да зьняволеных з сялян, на падставе арт. 2 Папраўна-Працоўнага Кодэксу БССР, ва ўсіх акругах БССР арганізованы сельска-гаспадарчыя калёніі. Між тым усе суды накіроўваюць асоб, засуджаных на пазбаўленьне волі, у папраўныя дамы, якія разьлічаны на зусім іншы кантынгент зьняволеных, з гэтай прычыны Народны Камісарыят Юстыцыі і Народны Камісарыят Унутраных Спраў БССР прапануюць:

1. Народныя суды ўсіх асоб, засуджаных на пазбаўленьне волі, якія належаць да сялян, на падставе п. „г“ арт. 24 Папраўна-Працоўнага Кодэксу, павінны накіроўваць у бліжэйшыя сельска-гаспадарчыя калёніі для адбываньня вызначанага тэрміну сацыяльнай абароны. Зразумела, што накіроўваць зьняволеных у сельска-гаспадарчыя калёніі павінны толькі тыя народныя суды, раёны якіх знаходзяцца недалёка ад калёній, напрыклад:

а) народныя суды, якія знаходзяцца ў м. м. Узда, Самахвалавічы і Сьмілавічы, накіроўваюць зьняволеных у калёнію „РАСЬСЬВЕТ“ Самахвалавіцкага раёну Менскай акругі (б. маёнтак Пашковічы);

б) у м. м. Койданава, Заслаўль і Астрашыцкі-Гарадок—у калёнію „ЗЬВЯЗДА“ Самахвалавіцкага раёну Менскай акругі (б. маёнтак Строчыца);

в) у г. Барысаве, у м. м. Крупкі і Зембін—у калёнію „Прабуджэньне“ Глівінскага сельскага савету Менскай акругі Барысаўскага раёну (б. м. Слабодка);

г) у м. м. Глуск, Парычы, Клічаў і Жлобін—у калёнію „ЧЫРВОНЫ СЬЦЯГ“ Бабруйскай акругі Міхалеўскага сельскага савету Бабруйскага раёну (быўш. маёнтак Міхалева);

д) у м. м. Прапойск, Чычэвічы, Бялынічы—у калёнію „ЗАРА“, Вішаўскага сельскага савету Магілеўскай акругі і раёну (быўш. маёнтак Няжкова);

е) у м. Ліозна і г. г. Віцебск і Сенна—у калёнію „ДЗЯГІЛЕВА“ Астравенскага сельскага савету Віцебскай акругі і раёну (б. м. Дзягілева);

ж) у г. Віцебску, с. Высачаны, м. Ліозна - у сельска-гаспадарчую фэрму „ХАЦІНІЧЫ“ Віцебскай акругі і раёну (быўш. м. Хацінічы);

з) у г. Гарадку, м. м. Бешанковічах, Шуміліна і Улла—у калёнію „ЛЕСКАВІЧЫ“ Сіроцінскага раёну Віцебскай акругі (быўш. маёнтак Лескавічы);

і) у м. м. Дуброўна, Ляды, Копысь і Талачын—у калёнію „ЮРЦАВА“ Шапкаўскага сельскага савету, Аршанскай акругі і раёну (б. м. Юрцава);

к) у г. г. Слуцку і Копылі, м. м. Старобіна і Грозна—у калёнію „ПУКАВА“ Грэскага раёну Слуцкаай акругі;

л) у Веткаўскім раёне—у калёнію „ВОЛЯ“ Веткаўскага раёну Гомельскай акругі.

На далёкую адлегласьць ужываць гэты спосаб немэтазгодна, бо будуць спатыкацца перашкоды ў сэнсе пасылкі зьняволеных у калёніі.

2. Начальнік кожнай сельска-гаспадарчай калёніі ў зьвязку з гэтым павінен арганізаваць карантын на падставе арт. 27 Папраўна-Працоўнага Кодэксу і мэдыцынскі абгляд, а таксама арганізаваць паводле арт. 28 Папраўна-Працоўнага Кодэксу вывучэньне новапрыбыўшых зьняволеных.

3. Зьняволеныя, якія небясьпечны ў сэнсе ўцёку, альбо адносна якіх будзе выяўлена, што яны шкодна ўплываюць на іншых зьняволеных, павінны зараз-жа накіроўвацца ў адпаведны папраўны дом; хворыя зьняволеныя павінны таксама накіроўвацца ў папраўны дом для лячэньня.

4. Для папярэджаньня ўцёку зьняволеных, начальнікі калёній павінны арганізаваць сталы нагляд.

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі БССР **С. Эднерал.**

Народны Камісар Унутраных Спраў БССР **А. Сташэўскі.**

10 лютага 1928 г.
№ 26.

---

## 18 Абежнік Народных Камісарыятаў Юстыцыі і Фінансаў БССР

### ПРА КВАЛІФІКАЦЫЮ ВЯДЗЕНЬНЯ ПРЫВАТНЫМІ ГАНДЛЯРАМІ ПАДВОЙНЫХ ГАНДЛЁВЫХ КНІГ.

*Усім судовым установам, акруговым прокурорам і фінансавым органам.*

У практыцы нярэдка бываюць выпадкі, калі прыватныя гандляры, якія павінныя весьці рахункаводзтва паводле пастановы СНК Саюзу ССР за 9 лістапада 1926 г. „Аб абавязковым вядзеньні рахункаводзтва гандлёвымі і прамысловымі прадпрыемствамі“ (З. З. СССР 1927 г., № 1, арт. 8), вядуць падвойныя гандлёвыя кнігі: адны, правільныя для сябе і другія, няправільныя, для падатковых органаў.

На пытаньне аб адказнасьці прыватных гандляроў за паказаныя дзеяньні Народныя Камісарыяты Юстыцыі і Фінансаў БССР растлумачваюць, што гэтыя дзеяньні яўна парушаюдь пастанову СНК Саюзу ССР за 9 лютага 1927 г. (арт. арт. 4 і 5), для чаго і паводле арт. 6 той самой пастановы СНК Саюзу ССР гандляры, якія вядуць падвойныя гандлёвыя кнігі, павінны прыцягвацца да адказнасьці ў крымінальным пардку як за парушэньне правіл аб гандлі, г. зн. паводле арт 141 Крамінальнага Кодэксу.

Гэта растлумачэньне Народны Камісарыят Юстыцыі і Народны Камісарыят Фінансаў БССР прапануюць прыняць для кіраваньня і выкананьня.-

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі БССР **С. Гохман.**

Час. вык. аб. Народнага Камісара Фінансаў БССР **М. Кардашэнка.**

21 лютага 1928 г.
№ 29.

---

## 19. Абежнік Народных Камісарыятаў Юстыцыі і Фінансаў БССР

ПРА АДКАЗНАСЬЦЬ ЗА ГАНДАЛЬ БЕЗ ДАЗВОЛУ ХЛЕБНЫМ ВІНОМ.

*Усім судовым установам, акруговым пракурорам і фінансавым органам.*

Пытаньне аб адказнасьці за гандаль без дазволу хлебным віном вырашаецца ня ўсімі судовымі ўстановамі аднастайна: некаторыя суды кваліфікуюць паказанае дзеяньне паводле арт. 140 Крымінальнага Кодэксу, другія-ж лічаць, што яно павінна разглядацца ў адміністрацыйным парадку і накіроўваюць такія справы ў акруговыя фінансавыя аддзелы.

Народныя Камісарыяты Юстыцыі і Фінансаў БССР прапануюць кіравацца наступным растлумачэньнем:

1. Гандаль хлебным віном выклікае адказнасьць у адміністрацыйным парадку, прадугледжаным пастановаю ЦВК і СНК СССР за 23 кастрычніка 1925 г. (З. З. СССР 1925 г., № 75, арт. 564) з наступнымі зьменамі яе (З. З. СССР 1926 г., № 56, арт. 409 і інш.), толькі тады, калі асоба, што гандлюе віном, мае дазвол на гандаль хлебным віном (інструкцыя НКУС, НКФ, НКГ і НКАЗ за 7/1-1926 г.—Бюлетэнь СНК БССР 1926 г., № 1, стр. 50), але ня мае ўстаноўленага патэнту, г. зн., калі дзеяньне данай асобы зьяўляецца толькі парушэньнем акцызных правіл.

2. Калі асоба, што гандлюе хлебным віном, ня мае паказанага вышэй дазволу, то яна прыцягваецца да адказнасьці паводле арт. 140 Крымінальнага Кодэксу, які прадугледжвае іменна збыт сьпіртавых напіткаў без належнага дазволу.

Нам. Народнага Камісара Юстыцы БССР **С. Гохман.**

Час. вык. аб. Народнага Камісара Фінансаў БССР **М. Кардашэнка.**

21 лютага 1928 г.
№ 30

---

Узгоднены з НКП і ЦСПСБ.

## 20. Абежнік Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР

ПРА МЕЖЫ ЗАДАВОЛЕНЬНЯ ІСКАЎ МІЛІЦЫЯНЭРАЎ ЗА НЕСКАРЫСТАНЫЯ ВЫХАДНЫЯ ДНІ Ў 1926-27 БЮДЖЭТНЫМ ГОДЗЕ.

*Усім акруговым і народным судом.*

*Копія акруговым аддзяленьням саюзу савецкіх і гандлёвых служачых.*

Управа Міліцыі і Крымінальнага Вышуку Рэспублікі паведаміла Народны Камісарыят Юстыцыі, што за апошні час ёсьць шэраг выпадкаў, калі міліцыянэры агульнадзяржаўнай і прамысловай міліцыі падаюць у суды да адміністрацыйных аддзелаў грамадзянскія іскі аб выплаце ім за нескарыстаныя выхадныя дні ў 1926-27 бюджэтным годзе за вылічэньнем атрыманай імі кампэнсацыі ў разьмеры 3—4 руб. у месяц, устаноўленай абежнікам Управы Міліцыі Рэспублікі і Цэнтральнага Кіраўніцтва Прафэсіянальных Саюзаў Савецкіх і Гандлёвых служачых за 6 студзеня 1927 г., № 38, і што гэтыя іскі падтрымоўваюцца акруговымі аддзяленьнямі саюзу савецкіх і гандлёвых служачых і здавальняюцца судамі.

Беручы пад увагу, што паводле ўвагі 2-й да артыкулу 4-га „Палажэньня аб службе Рабоча-Сялянскай Міліцыі БССР" (З. З. БССР 1926 г., № 35, арт. 129) работнікам міліцыі і крымінальнага вышуку за працу ў дні адпачынку і ў начны час, калі ім ня былі дадзены іншыя дні адпачынку, даецца права атрымоўваць дадатковую да асноўнага акладу плату пасьля ўзгадненьня гэтага пытаньня з органамі прафэсіянальнага саюзу, што гэтае пытаньне, аб разьмеры і парадку выплаты дадатковай платы ў 1926-27 бюджэтным годзе, вырашана паказаным вышэй абежнік Управы Міліцыі Рэспублікі і Кіраўніцтва Прафэсіянальнага Саюзу Савецкіх і Гандлёвых Служачых за 6 студзеня 1927 г., № 38, і што паводле п. 2-га пастановы ЦВК і СНК за 21 жніўня 1926 г. прамысловая міліцыя ўваходзіць у склад агульнадзяржаўнай міліцыі і адносна праў і абавязкаў падпадае пад дзейнасьць усіх законаў і пастаноў, што існуюць для агульнай міліцыі, Народны Камісарыят Юстыцыі БССР растлумачвае, што міліцыянэры агульнадзяржаўнай, а таксама і прамысловай міліцыі за нескарыстаныя імі выхадныя дні ў 1926-27 бюджэтным годзе ніякай іншай платы, апроч вызначанай абежнікам Управы Міліцыі Рэспублікі і Кіраўніцтва Прафэсіянальнага Саюзу Савецкіх і Гандлёвых Служачых за 6 студзеня 1927 г., № 38, атрымоўваць ня могуць і тыя грамадзкія іскі, якія імі падаюцца ў суды для атрыманьня большых сум, не павінны задавальняцца.

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі БССР **С. Эдкерал.**

19 лютага 1928 г.
№ 31.

---

## 21. Абежнік Народнага Камісарыяту Юстыцыі і Найвышэйшага Суду БССР

ПРА ПАДСУДНАСЬЦЬ СПРАЎ АБ ЗЛАЧЫНСТВАХ ДАПРЫЗЫЎНІКАЎ.

*Усім судовым установам і акруговым пракурорам.*

Пытаньне пра падсуднасьць спраў аб злачынствах, якія робяцца дапрызыўнікамі ў час знаходжаньня іх на навучальных і лягерных зборах, а таксама ў час праходжаньня летняй практыкі пры часьцях Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі выклікае ў су-

довай практыцы сумненьні. З гэтай прычыны Народны Камісарыят Юстыцыі БССР прапануе кіравацца наступным растлумачэньнем.

Паводле арт. 8 Палажэньня аб вайсковых трыбуналах і вайсковай пракуратуры і арт. 1 палажэньня аб вайсковых злачынствах (З. З. СССР 1927 г., № 50, арт. арт. 504 і 505 і 1928 г., № 3, арт. 22) вайсковым трыбуналам падсудны, апроч некаторых іншых катэгорый асоб і спраў, пералічаных у гэтых артыкулах, толькі справы аб злачынствах, якія робяцца вайскоўцамі і вайсковапавіннымі ў час знаходжаньня іх у шэрагах Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі. Пра падсуднасьць спраў аб дапрызыўніках у вышэй паказаных Палажэньнях не спамінаецца. Хоць, паводле арт. арт. 10 і 101 закону аб абавязковай вайсковай службе (З. З. СССР 1928 г., № 3, арт. 21), дапрызыўнікі ў час знаходжаньня іх на навучальных і лягерных зборах, а таксама ў час праходжаньня летняй практыкі пры часьцях РСЧА і лічацца ў шэрагах РСЧА, аднак, вайскоўцамі гэты закон іх ня лічыць, бо паводле арт. 9 таго-ж закону пад вайскоўцамі разумеюцца толькі грамадзяне, якія знаходзяцца на сапраўднай вайсковай службе, дапрызыўнікі-ж, паводле арт. арт. 4 і 7 таго-ж закону, не знаходзяцца на сапраўднай вайсковай службе, пры чым і ў гэтых артыкулах і ва ўсіх іншых данага закону яны спамінаюцца зусім асобна ад вайскоўцаў.

Такім чынам справы аб злачынствах, якія робяцца дапрызыўнікамі, не падсудны вайсковым трыбуналам і павінны разглядацца агульнымі судамі паводле агульных правіл падсуднасьці, з ужываньнем да іх ва ўсіх выпадках агульных норм Крымінальнага Кодэксу, але не Палажэньня аб вайсковых злачынствах.

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі і Пракурора Рэспублікі БССР **С. Гохман.**

Старшыня Найвышэйшага Суду Б ССР **А. Варашылаў.**

21 лютага 1928 г.
№ 32

---

## 22. Абежнік Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР

ПРА ПАРАДАК ПРЫНЯЦЬЦЯ КАСАЦЫЙНЫХ СКАРГАЎ ПА ПРАЦОЎНЫХ СПРАВАХ.

*Акруговым судом копія акруговым пракурорам.*

Паводле арт. 187 ГПК рашэньні паісках аб заработнай плаце павінны неадкладна выконвацца.

Аднак, на практыцы гэтае правіла не заўсёды выконваецца з тае прычыны, што адказчык абскарджвае рашэньне ў касацыйным парадку.

Такім чынам, абскарджваньне рашэньня дае адказчыку магчымасьць адцягнуць яго выкананьне, а магчымасьць адцягваць выкананьне рашэньня, з свайго боку, пабуджае яго абскардзіць рашэньне, у правільнасьці якога ён і сам нават не сумняваецца.

Каб зьнішчыць гэтую зьяву і папярэдзіць выпадкі бязгрунтоўнага абскарджваньня рашэньняў судоў па працоўных справах, Народны Камісарыят Юстыцыі БССР прапануе судом прыймаць ад адказчыкаў касацыйныя скаргі па гэтых справах толькі тады, калі яны

пададуць даведкі аб выкананьні рашэньня ў частцы аднаўленьня на працы і ўнясеньня ў дэпазыт суду прысуджаных грашовых сум або довадаў невыкананьня рашэньня не па віне адказчыка.

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі
і Ст. Пам. Пракурора Рэспублікі БССР **С. Гохман.**

25 лютага 1928 г.
№ 34

## 23. Абежнік Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР.

ПРА ЎЖЫВАНЬНЕ ДАГАВОРУ МІЖ САЮЗАМ СССР І НЯМЕЧЧЫНАЮ АБ ПРАЎНАЙ ДАПАМОЗЕ Ў ГРАМАДЗЯНСКІХ СПРАВАХ.

*Усім акруговым судом, копія акруговым пракурорам.*

Бяручы пад увагу тое, што „Дагавор між Саюзам ССР і Нямеччынаю аб праўнай дапамозе ў грамадзянскіх справах“ (З. З. СССР 1926 г., № 28, арт. 181) супадае па свайму зьместу з аналёгічным дагаворам між СССР і Латвіяю за 2 чэрвеня 1927 г., Народны Камісарыят Юстыцыі БССР прапануе, пры ўжываньні дагавору з Нямэччынаю, кіравацца правіламі, зьмешчанымі ў абежніку Народнага Камісарыяту Юстыцыі № 20 за 27 студзеня 1928 г., выданым пра ўжываньне дагавору з Латвіяю.

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі БССР **С. Гохман.**

1 сакавіка 1928 г.
№ 36.

## 24. Абежнік Народнага Камісарыяту Юстыцыі і Найвышэйшага Суда БССР

ПРА ПРАВА ДЗЯРЖАЎНЫХ УСТАНОЎ ЗАКЛЮЧАЦЬ ДАГАВОРЫ АБ РАБОЧЫМ КРЭДЫЦЕ.

*Усім акруговым судом і пракуратуры.*

У судовай практыцы ўзьнікае пытаньне аб тым, ці маюць права дзяржаўныя ўстановы заключаць дагаворы аб рабочым крэдыце.

Для ўстанаўленьня адзінай практыкі ў гэтым пытаньні, Народны Камісарыят Юстыцыі БССР прапануе наступныя правілы для кіраваньня пры рашэньні пастаўленага пытаньня:

1. Дзяржаўныя ўстановы, якія знаходзяцца на дзяржаўным або мясцовым бюджэце, маюць права заключаць толькі такія дагаворы, якія зьвязаны з дзейнасьцю і задачамі гэтых устаноў.

2. Выдаваць іншыя абавязнасьці ўстановы, якія знаходзяцца на дзяржаўным або мясцовым бюджэце, ня могуць, бо яны ня маюць у каштарысе сродкаў на задаволеньне абавязнасьцяй, не зьвязаных з іх дзейнасьцю.

3. Таму трэба прызнаць, што дзяржаўныя ўстановы, якія знаходзяцца на дзяржаўным або мясцовым бюджэце, ня маюць права заключаць дагаворы і выдаваць гарантыі ў адносінах да сваіх служачых па рабочаму крэдыту.

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі БССР **С. Гохман.**

Час. вык. аб. Старшыні Найвышэйшага Суда БССР **Несьцер.**

1 сакавіка 1928 г.
№ 37.

---

## 25. Абежнік Упаўнаважанага Народнага Камісарыяту Шляхоў СССР пры СНК БССР і Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР.

ПРА ЎЖЫЦЬЦЁ ЗАХАДАЎ ДА ЗМАГАНЬНЯ З ХУЛІГАНСТВАМ НА ЎНУТРАНЫХ ВОДНЫХ ШЛЯХОХ.

*Кіраўніцтвам паўночна-заходніх і дняпроўскіх унутраных водных шляхоў, кіраўніцтвам паўночна-заходніх і дняпроўскіх дзяржаўных рачных параходзтваў, параходным прадпрыемствам, якія эксплёатуюць рачны флёт на тэрыторыі БССР і акруговым пракурорам.*

З тае прычыны, што ў апошні час заўважаюцца на рачных тавара-пасажырскіх і буксырных пара-цеплаходах выпадкі хуліганскіх учынкаў пасажыраў і асоб суднавай каманды, якія здараюцца асабліва пад уплывам сп'яненьня, Упаўнаважаны Народнага Камісарыяту Шляхоў СССР пры СНК БССР і Народны Камісарыят Юстыцыі БССР, для змаганьня з хуліганствам і для аховы парадку і бясьпечнасьці руху на ўнутраных водных шляхох, прапануюць для выкананьня наступныя правілы пра парадак ужыцьця захадаў да часовага ізаляваньня асоб, што хуліганяць, з ліку пасажыраў альбо суднавай каманды:

§ 1. Камандзірам тавара-пасажырскіх і буксырных пара-цеплаходаў, якія плаваюць на ўнутраных водных шляхох на тэрыторыі БССР, у час плаваньня даецца права ўжываць часовае ізаляваньне асоб, што хуліганяць, з ліку пасажыраў і суднавай каманды, пры захоўваньні ўмоў, паказаных у § § 2-8 гэтых правіл.

§ 2. Захады да часовага ізаляваньня могуць ужывацца толькі ў надзвычайных выпадках, калі паводзіны пасажыра ці асоб з суднавай каманды пагражаюць бясьпечнасьці іншых пасажыраў, альбо асоб суднавай каманды, альбо самаму судну, альбо ўпарта парушаюць ўнутраны парадак, ўстаноўлены на судне, і калі няма магчымасьці спыніць хуліганства мерамі пераканаваньня.

§ 3. Ізаляваньне ажыцьцяўляецца праз памяшчэньне асоб, што хуліганяць, у асобную каюту, якая задавольвае санітарным запатрабаваньням.

§ 4. Пры ізаляваньні ня можна зьвязваць рук альбо ног вяроўкамі і рабіць падобныя да гэтых дзеяньні.

§ 5. Аб усялякім выпадку хуліганства, які выклікаў ужыцьцё захадаў да ізаляваньня, камандзір пара-цеплаходу павінен скласьці акт, падпісаны ня менш двума асобамі з пасажыраў альбо прадстаўнікоў суднавага камітэту, паказаўшы ў ім час, месца, і сутнасьць зробленых хуліганскіх дзеяньняў.

§ 6. Часовае ізаляваньне можа цягнуцца толькі да прыбыцьця пара-цеплаходу да бліжэйшай залюднёнай прыстані, дзе ізаляваны разам з копіяю акту, зараз--жа пасьля прыбыцьця, распараджэньнем камандзіра пара-цеплаходу, павінен быць перададзен агэнтам агульнай міліцыі альбо Аб'яднанай Дзяржаўнай Палітычнай Управы для падняцьця супроць вінаватых у хуліганстве крымінальнага перасьледваньня.

§ 7. Калі хто-небудзь з пасажыраў альбо асоб суднавай каманды хуліганіць на пара-цеплаходах у час іх стаянак каля залюднёных прыстаняй, то камандзіры пара-цеплаходаў, ня ўжываючы самастойных захадаў, паведамляюць аб гэтым мясцовым органам агульнай міліцыі альбо Аб'янанай Дзяржаўнай Палітычнай Управы.

§ 8. Дзеяньне гэтага абежніку пашыраецца на тэрыторыю БССР

§ 9. Нагляд за ажыцьцяўленьнем гэтага абежніку ўскладаецца на судназодны нагляд Кіраўніцтваў Унутраных Водных Шляхоў пад агульным кіраўніцтвам пракуратуры.

Нам. Упаўнаважанага Народнага Камісарыяту
Шляхоў СССР пры СНК БССР **А. Іваноў.**

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі і Ст. Памочнік Пракурора
Рэспублікі БССР **С. Гохман.**

31 студзеня 1928 г.
№ 22.

## 26. Пастанова Народнага Камісарыяту Асьветы БССР

НА ПАШЫРЭНЬНЕ ПАСТАНОВЫ НАРОДНАГА КАМІСАРЫЯТУ АСЬВЕТЫ № 28 за 14 СЬНЕЖНЯ 1927 г. НА ЎСЕ ЎСТАНОВЫ, Ў ЯКІХ АДБЫВАЮЦЦА КІНО-СЭАНСЫ

Народны Камісарыят Асьветы БССР пастанаўляе:

1. Пастанову сваю за 14 сьнежня 1927 году № 28 (Бюлетэнь СНК БССР за 20 студзеня 1928 г. № 1 (44) „Пра наведваньне дзяцьмі кіно-тэатраў“ пашырыць на ўсе ўстановы, у якіх адбываюцца кіно сэансы (клюбы, народныя дамы і інш.).

2. Адказнасьць за невыкананьне гэтай пастановы ўскласьці на загадчыка тае ўстановы, дзе адбываюцца кіно-сэансы.

3. Даручыць Галоўліту (па рэпэрткому) сьпісы дзіцячых кіно-фільм, складзены, Навукова-Мэтадалёгічным Камітэтам, перасылаць у Цэнтральны Савет Прафэсіянальных Саюзаў Беларусі (Культаддзел) для абвяшчэньня загадчыкам усіх клюбаў.

4. Даручыць інспэктаром палітасьветы акруговых інспэктарыятаў народнай асьветы сьпісы кіно-фільм, складзеныя Навукова-Мэтадалёгічным Камітэтам, перасылаць усім падпарадкаваным ім установам, у якіх адбываюцца кіно-сэансы.

Нам. Народнага Камісара Асьветы БССР **Б. Вансоўскі.**

Сакратар Народнага Камісарыяту Асьветы БССР **Ю. Савіч.**

24 лютага 1928 г.
№ 61.

## 27. Пастанова Народнага Камісарыяту Асьветы БССР

ПРА ЗАЦЬВЕРДЖАНЬНЕ ПАРАДКУ ПЕРАВОДАЎ І ВЫПУСКАЎ У ШКОЛАХ САЦЫЯЛЬНАГА ВЫХАВАНЬНЯ І НА АГУЛЬНА-АДУКАЦЫЙНЫХ КУРСАХ У 1927-28 НАВУЧАЛЬНЫМ ГОДЗЕ.

Народны Камісарыят Асьветы БССР пастанаўляе зацьвердзіць далучаны да гэтай пастановы парадак пераводаў і выпускаў у 4-х, 7-х і 9-х гадовых школах, школах сялянскай моладзі, школах II-й ступені і агульна-адукацыйных курсах у 1927-28 навучальным годзе.

Нам. Народнага Камісара Асьветы БССР **П. Валасевіч.**

Сакратар Народнага Камісарыяту
Асьветы БССР **Ю. Савіч.**

1 сакавіка 1928 г.
№ 63.

ДАДАТАК.

ПАРАДАК ПЕРАВОДАЎ І ВЫПУСКАЎ У 4-х, 7-х І 9-х ГАДОВЫХ ШКОЛАХ, ШКОЛАХ СЯЛЯНСКАЙ МОЛАДЗІ, ШКОЛАХ II-й СТУПЕНІ, АГУЛЬНА-АДУКАЦЫЙНЫХ КУРСАХ У 1927-28 НАВУЧАЛЬНЫМ ГОДЗЕ.

### I. Агульная частка.

1. У канцы навучальнага году пагрупна, на працягу апошняга тыдню ў першай і другой групах, на працягу двух апошніх тыдняў у трэцяй, чацьвертай, пятай і шостай групах і на працягу трох апошніх тыдняў у сёмай і дзевятай групах, зрабіць падагульненьне ўсяе гадовай працы школы.

*Увага.* Тэрмін, які вызначан на падагульненьне ў 7-х і 9-х групах, поўнасьцю скарыстаць на падрыхтоўку і правядзеньне калёквіумаў у гэтых-жа групах.

### II. Парадак пераводаў.

2. Пры падагульненьні гадовай працы раіцца наступны парадак: у першай, другой, трэцяй і чацьвертай групах правесьці калектыўныя даклады вучняў на пэўную комплексную тэму; у пятай, шостай і восьмай групах—калектыўныя або індывідуальныя даклады на тое ці іншае пытаньне з адпаведнай галіны.

3. Даклады, якія будуць давацца групе, трэба абмеркаваць і зацьвердзіць на пэдагагічнай радзе школы.

4. Пераводзіць з групы ў групу трэба толькі на падставе гадовай працы вучня. Ніякія праверачныя спробы не дазваляюцца.

5. На падагульняючых сходах, апроч кіраўніка групы або выкладчыка адпаведнай галіны, патрэбна там, дзе гэта магчыма, прысутнасьць яшчэ аднаго настаўніка або загадчыка школы, а таксама пажадана прысутнасьць і бацькоў вучняў.

6. Галоўныя запатрабаваньні, якія патрэбны для пераводаў з групы ў групу, гэта:

а) здавальняючае агульнае разьвіцьцё;

б) здавальняючыя посьпехі;

в) наяўнасьць культурных, арганізацыйных і санітарна-гігіенічных звычак.

7. У першай, другой, трэцяй і чацьвертай групах, пры пакіданьні на другі год, трэба кіравацца наступным:

а) слабым агульным разьвіцьцём;

б) нездавальняючымі посьпехамі па двух наступных відах тэхнічных звычак: пісьму і чытаньню, альбо пісьму і лічэньню, альбо чытаньню і лічэньню;

в) адсутнасьць культурных, арганізацыйных і санітарна-гігіенічных звычак.

*Увага.* Калі той ці іншы вучань 3-й і 4-й групы на працягу двух апошніх гадоў сыстэматычна адставаў па аднаму з адзначаных вышэй відаў тэхнічных звычак, то пэдагагічнай радзе даецца права самастойна вырашыць пытаньне, ці пераводзіць гэтага вучня ў наступную групу, ці пакінуць на другі год.

8. У 5-й, 6-й і 8-й групах, пры пакіданьні на другі год, трэба кіравацца:

а) слабым агульным разьвіцьцём;

б) нездавальняючымі ведамі ў дзьвюх галінах, якія праходзяцца ў школе, паводле навучальнага пляну;

в) адсутнасьць культурных, арганізацыйных і санітарна-гігіенічных звычак.

*Увага 1.* Калі той ці іншы вучань на працягу ўсяго апошняга году сыстэматычна адставаў па таму ці іншаму прадмету, то пэдагагічнай радзе даецца права самастойна вырашыць пытаньне, ці пераводзіць гэтага вучня ў наступную групу, ці пакінуць на другі год.

*Увага 2.* Калі той ці іншы вучань адзначаных у пункце 7-м груп адстае ня больш як па аднаму прадмету, то пэдагагічнай радзе даецца права вызначаць яму летнюю працу па гэтаму прадмету з абавязковаю праверкаю перад пачаткам навучальнага году.

9. Усе матар'ялы аб падагульненьні гадовай працы, ў тым ліку і сьпісы вучняў, з адзнакаю аб пераводзе ў наступную групу і аб пакіданьні на другі год, павінны захоўвацца ў справах школы.

## III. Выпускі з школы.

10. Ва ўсіх выпускных групах 1, 2, 3 і 4-х камплектных школ, школ першай ступені і першага канцэнтру, раённых 7-мі годак, другога канцэнтру ўсіх сямігодак, школ сялянскай моладзі, першага і другога канцэнтру дзевяцігодак, агульна-адукацыйных курсаў і школ другой ступені зрабіць калёквіумы.

11. У 1, 2, 3 і 4-х камплектных школах, школах 1-й ступені і першым канцэнтры раённых сямігодак калёквіумы трэба зрабіць:

а) па роднай, а ў школах нацыянальных меншасьцяй і па беларускай мове (пісьмовыя і вусныя);

б) па матэматыцы (пісьмовыя і вусныя;

в) па комплексах (вусныя).

*Увага 1.* Выпускнікам вясковых школ на калёквіумах трэба мець з сабою сшыткі па ўсіх відах працы за апошні год.

*Увага 2.* Вусныя калёквіумы павінны мець характар таварыскай гутаркі. Запытаньні вучням трэба рабіць у простай і яснай форме. Калёквіумы павінны адбывацца ў звычайнай школьнай абстаноўцы.

12. На правядзеньне калёквіумаў у адзначаных школах вызначыць 2—3 дні, ня ўлічваючы часу на падагульненьні.

13. Пры вырашэньні пытаньня аб выпуску вучняў з адзначаных вышэй школ трэба кіравацца тымі-ж паказаньнямі, якія зроблены ў адносінах да пераводаў вучняў адпаведных груп малодшага канцэнтру (гл. п. п. 5 і 6).

14. У выпускных групах 7-мі і 9-ці гадовых школ, школах сялянскай моладзі, школах II ступені і агульна-адукацыйных курсах калёквіумы трэба рабіць па ўсіх галінах навучальнага пляну, апроч ручной працы, фізкультуры, маляваньня і сьпеваў, прычым па матэматыцы, па роднай мове, па расійскай мове, а ў школах нацыянальных меншасьцяй і па беларускай мове, апроч вусных трэба праве сьці і пісьмовыя калёквіумы.

15. Пры правядзеньні вусных калёквіумаў у адзначаных вышэй групах, трэба кіравацца наступнымі правіламі:

а) да пачатку правядзеньня калёквіумаў кожны выкладчык той ці іншай галіны сваячасна павінен вызначыць (з пройдзенага ў выпускной групе матар'ялу) шэраг невялікіх заданьняў. Вызначаныя заданьні зацьвярджаюцца пэдагагічнаю радаю і да пачатку калёквіуму раздаюцца вучням для самастойнай распрацоўкі ў школе і ў доме. На распрацоўку кожнага заданьня ў паасобку, а таксама на падагульненьне ведаў па ўсёй (тэй ці іншай) галіне—вызначыць 2—3 дні.

*Увага 1.* Пэдагагічная рада сама ўстанаўляе парадак прапрацоўкі тэй ці іншай галіны.

*Увага 2.* Заданьні могуць давацца кожнаму вучню асобна, а таксама і групе вучняў па 2—3 асобы.

б) самае правядзеньне калёквіумаў павінна мець наступны характар: кожны вучань (або група вучняў) робіць даклад па вызначанаму яму раней заданьню; настаўнік (камісія) кантрольнымі пытаньнямі праверае якасьць і самастойнасьць выкананьня апрацаванага вучням заданьня з аднаго боку, а з другога—праверка ведаў вучняў і па данаму прадмету наогул.

*Увага 1.* Калёквіумы трэба рабіць у прысутнасьці усяе клясы.

*Увага 2.* Кантрольныя пытаньні могуць ставіцца ня толькі дакладчыку або групе дакладчыкаў, а і ўсёй клясе.

16. Пасьведчаньні аб сканчэньні 7 і 9 гадовых школ, школ II-й ступені і агульна-адукацыйных курсаў трэба выдаваць толькі тым вучням, якія па ўсіх прадметах (вызначаных у навучальным пляне) будуць мець здавальняючыя ацэнкі.

*Увага.* Вучням, якія выявяць нездавальняючыя посьпехі, трэба выдаваць даведкі аб праслуханьні імі курсу, пры гэтым трэба строга трымацца разьдзелу 5-га § 42 статуту адзінай працоўнай школы.

17. У аснову канчатковай ацэнкі ведаў вучняў трэба класьці зьвесткі аб пасьпяховасьць вучня на працягу ўсяго году.

18. Пры выпусках, а таксама і пераводах трэба мець на ўвазе далейшае падняцьце якасьці школьнай працы і граматнасьці вучняў.

19. Паўторныя калёквіумы на восень для вучняў выпускных груп дазваляецца пераносіць у выключных выпадках, пры гэтым ня больш, як па адным прадмеце.

20. Пэдагагічнай радзе даецца права зусім аслабаняць ад калёквіумаў слабых па свайму фізычнаму складу вучняў.

*Увага.* Адзнака аб фізычным складзе таго ці іншага вучня. робіцца школьным доктарам.

21. Атрымаўшы гэтыя правілы, пэдагагічныя рады павінны яшчэ больш узмоцніць працу па індывідуальнай дапамозе тым вучням, якія па тых ці іншых прычынах не пасьпяваюць за сярэднімі вучнямі.

22. Калёквіумы павінны рабіцца ўзвычайнай школьнай абстаноўцы.

23. Калёквіумы для выпускнікоў робяцца камісіямі, якія складаюцца паводле наступнага:

а) у склад камісіі для выпускных груп 3-х і 4-х гадовых школ уваходзяць: загадчык школы і кіраўнік выпускной групы, інспэктар раёну, прадстаўнік сельскага савету, а таксама пажадана прысутнасьць прадстаўнікоў ад раённага камітэту КП(б)Б і ад раённага камітэту ЛКСМБ Старшынёю камісіі зьяўляецца раённы інспэктар;

б) у склад камісіі для выпускных груп 7 і 9 гадовых школ, школ II-й ступені і агульна-адукацыйных курсаў уваходзяць: прадстаўнік ад акруговай або раённай інспэктуры, загадчык школы (ён-жа старшыня камісіі), пастаўнік адпаведнай галіны, прадстаўнік ад вучкому, ад бацькоў, а таксама пажадана прысутнасьць прадстаўнікоў ад акруговага альбо раённага камітэту КП(б)Б, ад акруговага альбо раённага камітэту ЛКСМБ.

24. Камісіі складаюць пратаколы аб праведзеных калёквіумах, у якіх адзначаюцца посьпехі кожнага вучня.

25. Пры выпусках, а таксама і пераводах, апроч Гомельскай акругі, трэба кіравацца праграмамі Народнага Камісарыяту Асьветы БССР, Гомельская акруга ў малодшых групах павінна кіравацца праграмамі Народнага Камісарыяту Асьветы БССР, а ў старэйшых —праграмамі РСФСР з тымі дапаўненьнямі, якія зроблены Народным Камісарыятам Асьветы БССР.

26. У аднакамплектных 3-х і 4-х гадовых школах выпускі рабіць у аб'ёме праграм 3-й групы сямігодкі.

---

## 28. Абежнік Народнага Камісарыяту Асьветы БССР.

ПРА МЕРАПРЫЕМСТВЫ, ЯКІЯ ВЫЦЯКАЮЦЬ З ВЫНІКАЎ ЗЬЕЗДУ РАБОТНІЦ І СЯЛЯНАК-ЧЛЕНАЎ САВЕТАЎ І РАЁННЫХ ВЫКАНАЎЧЫХ КАМІТЭТАЎ.

*Акруговым інспэктарыятам народнай асьветы.*

Для выкананьня і разьвіцьця пастановы Прэзыдыуму Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту за 22 сьнежня 1927 г. „Аб мерапрыемствах, якія выцякаюць з вынікаў зьезду работніц і сялянак-членаў саветаў і раённых выканаўчых камітэтаў“, Народны Камісарыят Асьветы БССР прапануе:

1. Наладзіць праз дэле.— ходы, клюбы, хаты-чытальні, дамы селяніна і ЖАКТ-ы агульна-даступныя лекцыі аб тым, як павінна выхоўваць сваё дзіцё працоўная жанчына.

2. Арганізаваць у гарадох праз ЖАКТ-ы рабочыя клюбы і дашкольныя ўстановы, курсы для мацярок па пытаньнях выхаваньня дзіцяці, паводле далучанай праграмы.

*Увага.* Гэтыя мерапрыемствы ажыцьцяўляюцца за кошт тых арганізацый, пры якіх яны ажыцьцяўляюцца.

3. Лічыць пажаданым у парадку грамадзкай працы дашкольных працаўнікоў арганізаваць праз дзіцячыя сады, дзенныя дзіцячыя прытулкі і пляцоўкі кансультацыі для мацярок па пытаньнях дашкольнага выхаваньня.

4. Побач з разьвіцьцём сеткі на сродкі дзяржавы (дзяржаўны і мясцовы каштарысы), ужыць усе захады да арганізацыі за кошт насельніцтва і грамадзкіх арганізацый дашкольных устаноў, а іменна: а) дзіцячых садоў і дзенных прытулкаў; б) вячэрніх дзіцячых пакояў пры клюбах, ЖАКТ-ах і дзіцячых садох; в) летніх пляцовак у гарадох і сельскіх мясцовасьцях і інш.

5. Ужыць усе захады, каб закон аб самаабкладаньні насельніцтва быў скарыстаны на арганізацыю і павялічэньне часу працы летніх пляцовак, асабліва ў сельскіх мясцовасьцях.

6. Палепшыць кіраваньне і нагляд за дашкольнымі ўстановамі акруговай і раённай інспэктуры.

7. Зьвярнуць увагу на абслугоўваючы пэрсанал дашкольных устаноў, узяўшы цьвёрды курс на камплектаваньне іх працаўнікамі, якія маюць сцэцыяльную пэдагагічную асьвету.

8. Зьвярнуць увагу на ўцягваньне праз піанэрскія і вучнёўскія арганізацыі большага проценту дзяўчат у школы, асабліва ў сельскіх мясцовасьцях, ставячы гэтае пытаньне на сялянскіх сходах.

9. Для правядзеньня належнага ўплыву на безнаглядных дзяцей, ужыць захады да ўцягваньня іх у жыцьцё устаноў сацыяльнага выхаваньня і да правядзеньня з імі адпаведнай выхаваўчай працы (чытка газэт, дзіцячай літаратуры, часопісаў, наладжваньне працы ў майстэрнях, дзе яны ёсьць, экскурсый, фізкультуры і інш).

10. Для больш шпаркага тэмпу ліквідацыі няпісьменнасьці сярод жаночага насельніцтва, зьвярнуць асаблівую ўвагу на дапасаваньне гэтай працы да ўмоў работніцы і сялянкі, для чаго: а) узмоцніць уцягваньне работніц і сялянак на існуючыя лікпункты, улічваючы іх бытавыя ўмовы; б) калі існуючыя лікпункты не прыстасаваны для абслугоўваньня работніц і сялянак, лічыць магчымым арганізацыю асобных лікпунктаў пры дэлегацкіх сходах.

Разам з гэтым Народны Камісарыят Асьветы БССР катэгарычна забараняе скарачаць або скарыстоўваць на іншыя патрэбы сродкі, якія адпускаюцца на дашкольныя ўстановы.

Аб выкананьні гэтага абежніку Народны Камісарыят Асьветы прапануе даць зьвесткі да 1-га чэрвеня 1928 году.

Рэзалюцыі Ўсесаюзнага Зьезду работніц і сялянак-членаў саветаў і раённых выканаўчых камітэтаў і пастановы Прэзыдыуму ЦВК БССР аб мерапрыемствах, якія выцякаюць з вынікаў зьездаў работніц і сялянак-членаў саветаў і раённых выканаўчых камітэтаў разасланы 31 студзеня 1928 г. ў акруговыя і раённыя інспэктарыяты народнай асьветы.

Нам. Народнага Камісара Асьветы **Б. Вансоўскі.**

Сакратар Народнага Камісарыяту Асьветы. **Ю. Савіч.**

14 лютага 1928 г.
№ 11.

ДАДАТАК.

ПЛЯН ГУТАРАК ПА ПЫТАНЬНЯХ ДАШКОЛЬНАГА ВЫХАВАНЬНЯ.

1. Мэты дашкольнай сэкцыі. Што такое дашкольнае выхаваньне, яго мэты, задачы і значэньне для савецкага будаўніцтва:

а) арганізацыя дзяцей і прывіцьцё ім калектывістычных звычак;
б) аздраўленьне дзяцей і прывіцьцё гігіенічных звычак;
в) пашырэньне кругавіду дзяцей праз падвядзеньне іх да правільнага разуменьня акаляючага жыцьця;

г) значэньне дашкольнага выхаваньня для мацяры-работніцы і сялянкі, як спосабу, які аслабаняе яе ад дзяцей у рабочы час і дапамагае вытворчасьці яе працы, а таксама падняцьцю яе культурнага ўзроўню і ўцягненьню ў грамадзкую працу;

д) укараненьне праз дашкольнае выхаваньне новых форм быту ў сям'і.

II. Тыпы дашкольных установ (дзіцячыя сады, дзіцячыя дзенныя прытулакі, пляцоўкі, клюбныя дзіцячыя пакоі, пашырэньне сеткі дашкольных установ за кошт грамадзкіх арганізацый (жылішчнай капярацыі, саюзаў і інш.). Роля дэлегатак у прапагандзе ідэй дашкольнага выхаваньня і ў дапамозе ў арганізацыі дашкольных установ.

III. Дашкольны век, яго асаблівасьці і значэньне выхаваньня ў гэтым веку; уплыў асяродзьдзя на дзіця, дзіцячая бездагляднасьць у сям'і, прычына дзіцячай бяспрытульнасьці, сродкі змаганьня з ёй.

IV. Фізычнае выхаваньне: гігіена памяшканьня, вопраткі, сну, харчаваньня, скуры, значэньне сьвежага паветра, вады і сонца для дзіцяці, боязнь прастуды, правільнае чаргаваньне працы і адпачынку.

*Увага.* Гутаркі IV і V праводзяца лекарам.

V. Прывіцьцё культурна-гігіенічных звычак: мыцьцё твару і рук перад ядою, чыстата вопраткі, чыстата зубоў і інш. Уплыў праз дзіця на сям'ю ў сэнсе палепшаньня гігіенічных умоў дому. Прасачыць, якія гігіенічныя звычкі прывіваюцца дзецям у дзіцячых садох. Меры ўплыву на дзяцей: пакараньне, абяцаньне і інш. Зрабіць кожнай дэлегатцы абсьледваньне двух сям'яў дзяцей дзічага саду паводле анкеты, выпрацаванай кіраўнікам гуртка. Значэньне ўстаноўленага рэжыму ў жыцьці дзіцяці.

VI. Значэньне гульні ў жыцьці дзіцяці дашкольнага веку. Жвавасьць і рухавасьць—адзнака здароўя дзіцяці. Значэньне працы ў выхаваньні, якую працу можна даць дзецям, удзел дзяцей у працы сям'і; імкненьне дзяцей да самастойнасьці і да дасьледваньня. Творчая праца дзіцяці, матар'ялы для яго (алоўкі, папера белая, газэтная, клей, бросавы матар'ял і інш.).Прывіцьцё працоўных звычак. Прасачыць за працаю дзяцей у дзіцячым садзе.

VII. Выхаваньне правільнага разуменьня акаляючага жыцьця праз азнаямленьня дзяцей з зьявамі прыроды і прычынамі гэтых зьяў праз нагляданьне і пасільную працу ў прыродзе, каб вызваліць дзіця ад забабон і веры ў таемнае.

Значэньне апавяданьня і сьпеваў у жыцьці дзіцяці. Якія апавяданьні можна даваць малым дзецям. Як даваць адказы на запытаньні дзяцей. Прасачыць за гэтым у дзіцячым садзе.

VIII. Значэньне грамадзка-палітычнага выхаваньня дзяцей. Знаёмства з жыцьцём працоўных праз гурткі, наведваньне прадпрыемстваў, майстэрань саматужнікаў, сувязь з піянэрамі, савецкімі ўстановамі і г. д., пры гэтым ня трэбаацяжарваць дзіцяці ўражэньнямі, а даваць іх у зразумелай для дзіцяці форме. Сьвяткаваньне рэвалюцыйных і грамадзкіх сьвят. Прасачыць, як гэта праца праводзіцца ў садох.

## Літаратура.

1. Крупская. Дошкольное воспитание в деревне.
2. Нюрына. Дошкольное воспитание и работница.
3. Островская. Дошкольное воспитание и кооперация.
4. Суровцева. Что такое детская площадка и как ее организовать.

5. Зорина. Что такое детский сад и как его организовать.
6. Мать, береги здоровье своего ребенка.
7. Галоўныя моманты дашкольнага выхаваньня.
8. Популярная библиотека в помощь воспатанию ребенка дошкол. в семье. Гос. Изд. 1927г.
9. Гешелина Л. Дайте здоровую пищу ребенку.
10. Гешелина Л. Одевайте ребенка правильно.
11. Гринберг М. Охраняйте сон ребенка.
12. Залкинд И. Приучайте ребенка к чистоте.
13. Иогансон О. Почему ребенок становится суеверным.
14. Иогансон О. Почему ребенок любит играть и трудиться.
15. Красногорская Л. Какое значение имеет для ребенка пример окружающих.
16. Кулишер-Бунцельман. Почему нельзя наказывать детей.
17. Майзель. Как уберечь маленьких детей от болезни.
18. Шабад Е. Как воспитывать детей с 3-х до 8 лет.
19. Шабад Е. Учитесь, как говорить с ребенком и о чем с ним говорить.

---

## 29. Абежнік Народнага Камісарыяту Асьветы БССР

ПРА ЎМОВЫ, ПРЫ ЯКІХ ДАЗВАЛЯЕЦЦА ВЫКЛЮЧАЦЬ ВУЧНЯЎ З НАВУЧАЛЬНЫХ УСТАНОЎ.

*Усім дырэктарам тэхнікумаў, дэканам рабфакаў, загадчыкам двохгадовых пэдагагічных курсаў, акругавым інспэктаром народнай асьветы, загадчыкаў сямі гадавых школ, школ сялянскай моладзі, школ II ступені і агульна-адукацыйных курсаў.*

У сувязі з тым, што наглядаюцца выпадкі выключэньня ў сярэдзіне вучэбнага году з навучальных установ студэнтаў і вучняў па акадэмічнай альбо вытворчай непасьпяховасьці і іншых матывах, Народны Камісарыят Асьветы БССР прапануе для выкананьня наступнае:

1. Студэнты і вучні з навучальнай ўстановы па прычынах нездавальняючых акадэмічных альбо вытворчых посьпехаў могуць канчаткова выключацца толькі ў канцы навучальнага году альбо ў пачатку наступнага для тых асоб, якім на летнія вакацыі быў адкладзен тэрмін для здачы залікаў увосень, апроч адзінай працоўнай школы.

Як апошняе папярэджаньне ў адносінах да асоб, якія акадэмічна непасьпяваюць, можа быць ужыта ў сярэдзіне навучальнага году толькі ўмоўнае выключэньне.

2. Студэнты і вучні з навучальнай установы ў сярэдзіне вучэбнага году могуць выключацца толькі тады:

а) калі студэнт або вучань выявіў з фізычнага альбо псыхофізычнага боку поўную відавочную неадпаведнасьць да працы ў нармальнай школе ці да вывучаемай ў ёй спэцыяльнасьці, прычым гэта неадпаведнасьць будзе пацьверджана лекарскаю экспэртызаю;

б) калі студэнты або вучні дэзарганізоўваюць грамадзка-палітычнае жыцьцё навучальнай ўстановы (дэмаралізуючы ўплыў на тавары-

шоў з грамадзка-палітычнага боку, хуліганскія ўчынкі, сыстэматычнае ненаведваньне заняткаў і г.д.), пры ўмове, што ўсе ўжытыя раней захады выхаваўчага характару з боку пэдагагічнай рады, а таксама і з боку студэнцкіх або вучнёўскіх арганізацый ня далі ніякіх станоўчых вынікаў;

в) калі зробяць злачынства крымінальнага характару (крадзеж, бойка і інш);

г) калі студэнт або вучань хварэе такою хваробаю, якая, паводле лекарскай экспэртызы, зусім не дазваляе яму скончыць навучальную ўстанову і працаваць па спэцыяльнасьці альбо патрабуе лячэньня на больш-менш доўгі час. У апошнім выпадку студэнт або вучань можа атрымаць патрэбны водпуск для лячэньня, але на тэрмін ня больш году.

3. У асобных выпадках пэдагагічная рада можа выклікаць для перагавораў аб ужытых ёю захадах да таго ці іншага студэнта або вучня бацькоў апошняга або яго апякуна, альбо паведаміць бацькоў ці апякуна пісьмова аб ужытых пэдагагічнаю радаю захадах.

4. Пры выключэньні вучня з працоўнай школы трэба наогул строга трымацца пункту „О“ § 33 разьдзелу 3-га і § 49 разьдзелу V-га статуту адзінай працоўнай школы.

Нам. Народнага Камісара Асьветы БССР **Б. Вансоўскі.**

Сакратар Народнага Камісарыяту Асьветы БССР **Ю. Савіч.**

14 лютага 1928 г.
№ 12.

---

## 30. Пастанова Народнага Камісарыяту Аховы Здароўя і Народнага Камісарыяту Унутраных Спраў БССР

### ПРА ПАПЯРЭДНІ САНІТАРНЫ НАГЛЯД У ГАЛІНЕ ЖЫЛІШЧНА-КАМУНАЛЬНАГА БУДАЎНІЦТВА І ДАБРАБЫТУ ЗАЛЮДНЁНЫХ МЕСЦ.

Для санітарнага рэгуляваньня, правядзеньня сталага і сыстэматычнага санітарнага нагляду ў галіне камунальнага будаўніцтва, дабрабыту залюднёных месц і іншых мерапрыемстваў, якія маюць агульна-санітарнае значэньне, Народны Камісарыят Аховы Здароўя і Народны Камісарыят Унутраных Спраў БССР, у разьвіцьцё § 1 п. „а“ і §§ 2 і 3 пастановы СНК БССР „Аб санітарных органах Народнага Камісарыяту Аховы Здароўя БССР“ за 23/IX-1926 г. (З.З. БССР 1926 г., № 37, арт. 137) пастанаўляюць:

1. Будаваньне, капітальны рамонт і эксплёатацыя пабудоў, будынкаў і ўстаноў грамадзкага карыстаньня, што маюць санітарнае значэньне, і мерапрыемствы па дабрабыту залюднёных месц могуць распачынацца толькі пасьля папярэдняга заключэньня мясцовых органаў аховы здароўя аб тым, што ў санітарных адносінах перашкод няма.

2. Да пабудоў, будынкаў, устаноў грамадзкага карыстаньня і дабрабыту залюднёных месц належаць:

а) пабудовы грамадзкага вадакарыстаньня і вадазборы (вадаправоды, грамадзкія студні);

б) пабудовы і мясцы для ўнікненьня, ачысткі і абязшкоджваньня брудных вод і адкідаў (каналізацыя, асэнізацыя, звалачныя мясцы, біалёгічныя ачышчальныя станцыі і інш.);

в) пляніроўка залюднёных месц, насаджэньне дрэва, ўпарадкаваньне рынкаў і грамадзкіх пляцоў, асушэньне забалочаных мясцовасьцяй і інш.;

г) культурна-асьветныя і лячэбна-прафіляктычныя ўстановы і будынкі (школы, клюбы, больніцы, санаторыі, дзіцячыя дамы, дамы адпачынку);

д) будынкі, установы і прадпрыемствы агульнага платнага і дармовага карыстаньня насельніцтвам (пральні, цырульні, гасьцініцы, начлежныя дамы, заежджыя двары, тэатры, кіно і інш.);

е) прадпрыемствы і ўстановы харчавога промыслу: (сталоўкі, піўныя, рэстараны, склады, халадзільнікі, рэзьніцы, малочныя прадпрыемствы і інш.).

*Увага.* Да папярэдняга санітарнага нагляду і заключэньня належаць таксама праекты пабудоўкі камунальных дамоў і рабочых пасёлкаў.

3. Санітарнае заключэньне павінна быць выдана органамі аховы здароўя не пазьней двух тыдняў ад часу падачы адпаведнай заявы альбо паведамленьня.

*Увага.* У асобных выпадках, калі патрэбны складаныя папярэднія санітарныя досьледы, то тэрмін дачы заключэньня можа быць павялічан па ўзаемнай згодзе зацікаўленых установ з органамі аховы здароўя.

4. Органам аховы здароўя, калі ім гэта трэба, пры дачы заключэньняў павінны падавацца патрэбныя пляны і праекты з паясьняльнымі да іх запіскамі.

5. Праекты і пляны, якія разглядаюцца цэнтральнымі савецкімі установамі, павінны падавацца на разгляд з санітарным заключэньнем Народнага Камісарыяту Аховы Здароўя.

6. Будаваньне, кватэрныя рамонты і пераабсталяваньне фабрычна-заводзкіх установ, прадпрыемстваў і майстэрань належыць да папярэдняга санітарнага нагляду санітарнай інспэкцыі Народнага Камісарыяту Працы і санітарных організацый Народнага Камісарыяту Аховы Здароўя паводле палажэньня за 4/VII-1926 г. (разьдзел III „Аб узаемаадносінах органаў НКПрацы і НКАховы Здароўя“).

7. Асобы і ўстановы за невыкананьне гэтых правіл прыцягваюцца да адказнасьці паводле Крымінальнага Кодэксу БССР.

Народны Камісар Аховы Здароўя БССР **М. Барсукоў.**

Народны Камісар Унутраных Спраў БССР **А. Сташэўскі.**

Узгоднена з Народным Камісарыятам Юстыцыі БССР:

Намесьнік Народнага Камісара Юстыцыі **С. Гохман.**

11 лютага 1928 г.

---

## 31. Абежнік Народнага Камісарыяту Фінансаў БССР

ПРА СКАСАВАНЬНЕ АБЕЖНІКУ СВАЙГО ЗА 3 ЧЕРВЕНЯ 1927 г. „АБ ТЛУМАЧЭНЬНІ НЕКАТОРЫХ ПУНКТАЎ ПАСТАНОВЫ ЦВК і СНК СССР за 14-ае СТУДЗЕНЯ 1927 г. АБ СЛУЖБОВЫХ КАМАНДЫРОЎКАХ У МЕЖАХ СССР“ (БЮЛ. СНК БССР № 11 (36) 1927 г.).

*Усім народным камісарыятам, цэнтральным установам БССР.*

*Копіі аддзяленьням дзяржаўнага кантролю пры акруговых фінансавых аддзелах.*

З тае прычыны, што пастановаю СНК БССР за 30 студзеня г. г. (пратакол распарадч. пасяджэньня № 36 п. 451) Народнаму Каміса-

рыяту Працы даручана ў бліжэйшы час выдаць тлумачэньне пра ужываньне закону за 14 студзеня 1927 г. аб службовых камандыроўках, Народны Камісарыят Фінансаў БССР паведамляе, што абежнік яго аб гэтым пытаньні за 3 чэрвеня 1927 г., зьмешчаны ў № 11 Бюлетэню СНК БССР за 1927 г., касуецца.

За Народнага Камісара Фінансаў БССР **М. Кардашэнка.**

Начальнік Кіраўніцтва Дзяржаўнага Фінансавага Кантролю НКФ БССР **П. Матус.**

---

## 32. Інструкцыя Народнага Камісарыяту Фінансаў і Народнага Камісарыяту Унутраных Спраў БССР.

### ПРА ПАРАДАК УТВАРЭНЬНЯ, ЗАХАВАНЬНЯ І ВЫДАТКАВАНЬНЯ СПЭЦЫЯЛЬНЫХ СРОДКАЎ НА ЖЫЛІШЧНАЕ БУДАЎНІЦТВА.

(Выдаецца на падставе п. 4 пастановы Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў БССР за 14 мая 1927 года, (З. З. БССР 1927 г. № 24, арт. 114).

### РАЗЬДЗЕЛ I.

### Агульныя палажэньні.

1. Для захаваньня і пашырэньня жылішчнага фонду, з адлічэньняў па мясцовых бюджэтах, на падставе пастановы Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў БССР за 14 мая 1927 г., утвараюцца ва ўсіх акругах, пачынаючы з 1927-28 бюдж. году, спэцыяльныя сродкі для жылішчнага будаўніцтва.

### РАЗЬДЗЕЛ II.

### Крыніцы, з якіх складаюцца спэцыяльныя сродкі на жылішчнае будаўніцтва, і парадак перадачы іх ў гэтыя сродкі.

2. Спэцыяльныя сродкі на жылішчнае будаўніцтва складаюцца з крыніц, паказаных у арт. 3 пастановы ЦВК і СНК БССР за 14 мая 1927 г.

3. Пад чыстым прыбыткам, паказаным у п. „а“ арт. 3 памянёнай пастановы ЦВК і СНК, ад жылых памяшканьняў, якія экcплёатуюцца беспасрэдна аддзеламі мясцовай (камунальнай) гаспадаркі, трэба разумець тыя сумы даходаў ад гэтых памяшканьняў, якія астаюцца пасьля выплаты ўсіх выдаткаў на іх утрыманьне.

4. Выдаткі на ўтрыманьне жылых памяшканьняў, што эксплёатуюцца аддзеламі камунальнай гаспадаркі, не павінны перавышаць норм, паказаных у дадатку да артыкулу 6 Інструкцыі Народнага Камісарыяту Унутраных Спраў БССР аб ужываньні пастановы ЦВК і СНК БССР аб аплаце жылых памяшканьняў у гарадох БССР (Бюлетэнь СНК БССР 1927 г., № 4, стар. 16).

5. Пры вылічэньні выдаткаў на ўтрыманьне памяшканьняў паводле нормаў, паказаных у арт. 3, кошт будынкаў вызначаецца на падставе Інструкцыі Народнага Камісарыяту Фінансаў БССР за 18 лютага 1926 г. аб інвэнтарызацыі маемасьці мясцовых саветаў.

6. Сумы ў спэцыяльныя сродкі перадаюцца адпаведнымі мясцовымі саветамі, у бюджэты якіх уключаны выдаткі на ўтварэньне спэцыяльных сродкаў.

## РАЗЬДЗЕЛ III.

## Прызначэньне спэцыяльных сродкаў на жылішчнае будаўніцтва.

7. Спэцыяльныя сродкі на жылішчнае будаўніцтва прызначаюцца:

а) на задаволеньне выдаткаў на рамонт жылых памяшканьняў ў гарадох і мястэчках, якія не перададзены жылішчнай капярацыі і эксплёатуюцца беспасрэдна гарадзкімі і местачковымі саветамі або аддзеламі камунальнай гаспадаркі;

б) на задаволеньне выдаткаў на новае жылішчнае будаўніцтва;

в) на выдачу кароткатэрміновых, у межах аднаго бюджэтнага году, пазычак жылішчна-арэнднай капярацыі пры умовах немагчымасьці банкаўскага крэдытаваньня.

## РАЗЬДЗЕЛ IV.

## Парадак правядзеньня па мясцовых бюджэтах, падлічэньня, захаваньня і выдаткаваньня спэцыяльных сродкаў.

8. Усе сумы, якія перадаюцца ў спэцыяльныя сродкі на жылішчнае будаўніцтва, павінны праходзіць праз адпаведныя мясцовыя бюджэты.

9. Для выкана5ньня патрабаваньняў, паказаных у арт. 8 гэтай інструкцыі, трэба ўсе паступаючыя даходы, з якіх утвараюцца спэцыяльныя сродкі, а таксама спэцыяльныя пазычкі на аднаўленьне жылішчнай гаспадаркі, поўнасьцю залічаць у даходную часьць адпаведных мясцовых бюджэтаў, а ў выдатковай часьці паказваць выдатак на утварэньне спэцыяльных сродкаў на жылішчнае будаўніцтва ў сумах роўных адпаведным ад гэтых даходаў адлічэньням, якія робяцца на падставе гэтай інструкцыі, і тым асыгнаваньням, якія мяркуецца адпусьціць з бюджэту на капітальны рамонт і новае будаўніцтва жылых памяшканьняў.

10. Утвораныя паказаным вышэй парадкам спэцыяльныя сродкі знаходзяцца у распараджэньні акруговых выканаўчых камітэтаў і захоўваюцца ў тых касах, у якіх дазваляецца захоўваць сумы мясцовых бюджэтаў, на асобным ад апошніх рахунку.

11. Штогод, адначасна з складаньнем мясцовых бюджэтаў, акруговымі інспэкцыямі камунальнай гаспадаркі складаюцца даходна-выдатковыя каштарысы спэцыяльных сродкаў на жылішчнае будаўніцтва, у даходную часьць якіх уключаюцца ўсе даходныя крыніцы, з якіх складаюцца спэцыяльныя сродкі (арт. 2), а ў выдатковую—усе выдаткі (арт. 7), якія мяркуецца зрабіць у працягу году, за рахунак гэтых спэцыяльных сродкаў.

Матар'ялам для складаньня паказаных каштарысаў зьяўляюцца заявы местачковых і гарадзкіх саветаў, а таксама паданыя ў акруговы выканаўчы камітэт бюджэты або зборы бюджэтаў.

*Увага.* Калі ў працягу году выявяцца новыя даходы спэцыяльных сродкаў, непрадугледжаныя гадовым каштарысам, то могуць складацца дадатковыя каштарысы.

12. Каштарысы спэцыяльных сродкаў на жылішчнае будаўніцтва разглядаюцца і зацьвярджаюцца тым самым парадкам, які існуе

для мясцовых бюджэтаў, і перасылаюцца ў Народны Камісарыят Фінансаў разам з мясцовымі бюджэтамі, як дадатак да яго, а цадатковыя каштарысы—па меры складаньня іх.

13. Спэцыяльныя сродкі на жылішчнае будаўніцтва выдаткоўваюцца акруговымі выканаўчымі камітэтамі ў дакладнай адпаведнасьці з зацьверджанымі каштарысамі.

Спэцыяльныя сродкі акруговымі выканаўчымі камітэтамі могуць выдаткоўвацца толькі праз выдачу беззваротных пазычак адпаведным гарадзкім або местачковым саветам, або кароткатэрміновых зваротных пазычак жылішчна-арэнднай капярацыі.

15. Гарадзкія і местачковыя саветы, атрымаўшы гэтыя пазычкі, залічаюць іх у сваіх мясцовых бюджэтах у даход і адначасна паказваюць выдатак на рамонт або новае будаўніцтва жылішчных памяшканьняў.

16. На даходы і выдаткі спэцыяльных сродкаў акруговыя фінансавыя аддзелы вядуць асобную справаздачнасьць, якая накіроўваецца ў Народны Камісарыят Фінансаў у тэрміны, ўстаноўленыя для справаздачнасьці па мясцовых бюджэтах.

17. На спэцыяльныя сродкі на жылішчнае будаўніцтва пашыраюцца ўсе правілы кантролю, якія існуюць для сум мясцовых бюджэтаў.

Народны Камісар Фінансаў БССР **В. Мікуліч.**

Народны Камісар Унутраных Спраў БССР **А. Сташэўскі.**

25 лютага 1928 г.

---

„Зацьвярджаю“:
Народны Камісар
Фінансаў БССР **В. Мікуліч.**
19 сакавіка 1928 г.

## 33. Інструкцыя Падатковага Кіраўніцтва Народнага Камісарыяту Фінансаў БССР

ПРА ЎЖЫВАНЬНЕ ПАСТАНОЎ ЦВК і СНК БССР ЗА 14 СТУДЗЕНЯ, 11 і 25 ЛЮТАГА і 10 САКАВІКА 1928 г. ПРА САМААБКЛАДАНЬНЕ НАСЕЛЬНІЦТВА (З. З. БССР 1928 г., №№ 7, 9, 10, арт. арт. 37, 71, 76).

### І. Агульныя палажэньні.

§ 1. Пастановы ЦВК і СНК БССР за 14 студзеня, 11 і 25 лютага і 10 сакавіка 1928 г. пра самаабкладаньне насельніцтва пашыраюцца на сельскія мясцовасьці, мястэчкі і тыя сельскія саветы, якія знаходзяцца ў межах гарадоў.

§ 2. (Арт. 1 закону за 14 студзеня 1928 г. і арт. 1 закону за 10 сакавіка 1928 г.). Для задаволеньня мясцовых гаспадарчых, культурна-асьветных, санітарных і дабрабытных патрэб насельніцтва сельскіх мясцовасьцяй, мястэчак і тых сельскіх саветаў, якія знаходзяцца ў межах гарадоў, можа ўстанаўляцца абавязковае для ўсіх грамадзян данага паселішча самаабкладаньне ў межах і ў парадку, прадугледжаных гэтаю пастановаю:

а) на арганізацыю, утрыманьне і абслугоўваньне (будаваньне новых, дабудаваньне няскончаных, пашырэньне, найманьне, капітальны і бягучы рамонт будынкаў, абсталяваньне, апал і асьвятленьне) гаспадарчых, культурна-асьветных і санітарных устаноў мясцовага грамадзкага значэньня: школ, хат-чытальняў, клюбаў, чырвоных куткоў, дзіцячых дамоў, ясьляў і пляцовак, больніц, доктарскіх, фэльчарскіх, вэтэрынарных і агранамічных пунктаў, дамоў для інвалідаў і для састарэлых, начлежных дамоў, лазьняў і хлеба-запасных магазынаў;

б) на ўпарадкаваньне паселішч: капаньне і ўтрыманьне ў парадку студняў, грамадзкіх сажалак, пляцоў, магільнікаў для здохшай жывёлы, плошчаў грамадзкага карыстаньня (выганаў, лугоў), а таксама на ўтрыманьне начных і палявых вартаўнікоў;

в) на правядзеньне новых, утрыманьне і рамонт існуючых дарог, мастоў, грэбляў, перапраў і перавозаў, што маюць мясцовае грамадзкае значэньне;

г) на супроцьпажарныя мерапрыемствы: будаваньне, капітальны і бягучы рамонт і гаспадарчае ўтрыманьне пажарных дэпо і хлявоў, на набываньне і ўтрыманьне супроцьпажарных машын і прылад, на ўтрыманьне пажарных вартаўнікоў;

д) на ўтрыманьне лясьнікоў і лесакультурныя работы ў лясох мясцовага значэньня.

*Увага 1.* Выдаткі на ўтрыманьне ўсіх пералічаных у літ. „а“ гэтага § установ і пэрсаналу іх могуць быць прыняты на самаабкладаньне (поўнасьцю або ў частцы) незалежна ад таго, ці абслугоўваюць гэтыя ўстановы патрэбы аднаго або некалькіх паселішч, або ўсяго раёну, і ці знаходзіліся яны да гэтага часу на мясцовым бюджэце або толькі што ўтвараюцца па самаабкладаньні.

*Увага 2.* Заработная плата пэрсаналу ўстаноў, прынятых на самаабкладаньне, ня можа перавышаць заработнай платы адпаведнага пэрсаналу ў такіх-жа ўстановах, што знаходзяцца на мясцовым або дзяржаўным бюджэце. Іншыя выдаткі на абслугоўваньне ўстаноў, прынятых на самаабкладаньне, павінны вызначацца грунтуючыся на адпаведных нормах па ўстановах, што знаходзяцца на мясцовым або дзяржаўным бюджэце.

§ 3. (Арт. 2 закону за 14 студзеня 1928 г.). Забараняецца самаабкладаньне на патрэбы адміністрацыйнага характару (аплата работнікаў мясцовых органаў улады: раённага выканаўчага камітэту, сельскага савету, міліцыі, сельскіх выканаўцаў і інш., утрыманьне і абсталяваньне для іх памяшканьняў, а таксама канцылярскія, разьездныя і іншыя выдаткі).

§ 4. (Арт. 3 закону за 14 студзеня і закон за 25 лютага 1928 г.). Без асобнага на тое дазволу акруговага выканаўчага камітэтаў, агульны разьмер самаабкладаньня на адзін год ня можа перавышаць 35 проц. сумы сельска-гаспадарчага, падаходнага і прамысловага падаткаў (разам з набаўкаю ў мясцовыя сродкі па падаходным і прамысловым падатках), налічанай з усяго насельніцтва паселішча, мястэчка або сельскага савету гарадзкой мяжы за даны год.

*Увага.* Пры вызначэньні агульнага разьмеру самаабкладаньня бярэцца пад увагу сума налічаных падаткаў на ўсе гаспадаркі, ня вылічаючы з яе скідак і льгот.

Прыклад: На в. Навасёлкі налічана было ў 1927-28 году па сельска-гаспадарчым

| | |
|---|---|
| падатку . . . . . . . . . . . . . . | 1.000 р. |
| па падаходным падатку з набаўкаю ў мясцовыя сродкі . . . . . . . . . . . . . . | 100 р. |
| па прамысловым з набаўкаю ў мясцовыя сродкі | 100 р. |
| Разам . . . . . | 1.200 р.; |

на працягу году з гэтай сумы было зьнята па розных льготах 200 р. Гранічны разьмер самаабкладаньня вызначаецца з 35 проц. ад сумы налічаных падаткаў, гэта значыць з 1.200 руб., і складае 420 рублёў.

§ 5. (Закон за 25 лютага 1928 г. і ўвага да арт. 11 закону за 10 сакавіка 1928 г.). Акруговым выканаўчым камітэтам даецца права ў патрэбных выпадках паводле хадайніцтваў адпаведных раённых выканаўчых камітэтаў падвышаць для паасобных мястэчак і сельскіх саветаў паказаны ў § 4 гранічны разьмер самаабкладаньня.

*Увага.* 1. Раённыя выканаўчыя камітэты павінны паднімаць такое хадатайніцтва тады, калі выдаткі на вызначаныя мэты самаабкладаньня патрабуюць суму, большую за тую, якая вынікае з гранічнага разьмеру, паказанага ў § 4. Такое хадайніцтва акруговы выканаўчы камітэт павінен вырашыць не пазьней, чымся на працягу трох дзён. Пачын хадайніцтва можа ўзяць на сябе і адпаведны сельскі (або местачковы) савет, але хадайніцтва падаецца праз раённы выканаўчы камітэт. Сельскія саветы гарадзкой мяжы паднімаюць адпаведнае хадайніцтва праз акруговы фінансавы аддзел.

*Увага 2.* Паказаны ў §§ 4 і 5 парадак вызначэньня гранічнага разьмеру агульнай сумы самаабкладаньня ня тычыцца раскладу самаабкладаньня на паасобныя гаспадаркі; такі расклад робіцца на падставах паказаных ніжэй (§§ 17—21).

§ 6. (Арт. 4 закону за 14 студзеня 1928 г.). Самаабкладаньне дазваляецца ў грашовай і ў натуральнай форме, а таксама працоўным удзелам.

*Увага 1.* Натуральная форма самаабкладаньня (напрыклад: збожжа, будаўнічыя матар'ялы) дазваляецца толькі ў выключных выпадках і пры тэй абавязковай умове, што натуральныя ўносы можна, або неадкладна рэалізаваць на грошы, або выкарыстаць на мэты самаабкладаньня (напрыклад: будаўнічыя матар'ялы на будаваньне школ). Прадукты, што хутка псуюцца, як уносы па самаабкладаньні не павінны брацца.

*Увага 2.* Працоўны ўдзел у самаабкладаньні дазваляецца толькі тады, калі ён можа быць скарыстаны беспасрэдна на мэты самаабкладаньня (напрыклад: падвоз будаўнічых матар'ялаў на будаваньне школы).

*Увага 3.* (Закон за 11 лютага 1928 г.). Гаспадаркі беднейшых і чырвонаармейскіх сем'яў, з якіх зьнят сельска-гаспадарчы падатак, удзельнічаюць у самаабкладаньні толькі ў працоўнай форме, але па іх уласным жаданьні апошняя можа быць заменена грашмі.

## II. Парадак устанаўленьня самаабкладаньня.

§ 7. (Арт. 5 закону за 14 студзеня 1928 г.). Пытаньні аб устанаўленьні самаабкладаньня паднімаюцца па ініцыятыве сельскага (местачковага) савету, паасобных грамадзян або груп грамадзян і грамадзкіх арганізацый і вырашаюцца на агульных сходах грамадзян, якія склікае сельскі (местачковы) савет. Для ўстанаўленьня самаабкладаньня патрэбна прысутнасьць на агульным сходзе ня менш паловы агульнага ліку грамадзян данага паселішча, што карыстаюцца выбарнымі правамі.

§ 8. Атрымаўшы прапанову аб устанаўленьні самаабкладаньня, сельскі (местачковы) савет павінен неадкладна паставіць гэту прапанову на абмеркаваньне бліжэйшага альбо спэцыяльна скліканага агульнага сходу.

*Увага.* На агульным сходзе можа быць пастаўлена і вырашана пытаньне аб устанаўленьні самаабкладаньня і на іншыя мэты, пералічаныя ў § 2 гэтай інструкцыі, калі яны не прадугледжаны першаю прапановаю ініцыятараў самаабкладаньня.

§ 9. (Увага да арт. 5 закону за 14 студзеня 1928 г.). Калі на першы агульны сход грамадзян па пытаньні аб самаабкладаньні зьявіцца менш паловы агульнага ліку грамадзян, што маюць выбарныя правы, то склікаецца другі агульны сход. Для вырашэньня пытаньняў аб самаабкладаньні на другім сходзе павінна прысутнічаць ня менш аднае трэцяй часткі ўсяго ліку грамадзян, што маюць выбарныя правы.

*Увага.* У такім выпадку другі агульны сход склікаецца сельскім (местачковым) саветам не пазьней, чымся праз сем дзён пасьля першага.

§ 10. Калі сход ня прыме прапанову аб устанаўленьні самаабкладаньня, а ініцыятары апошняга паўтараюць сваю прапанову, то сельскі (местачковы) савет павінен склікаць сход яшчэ ў другі і ў трэці разы. У такіх выпадках для правадзейнасьці сходу захоўваюцца ўмовы § 7 гэтай інструкцыі.

§ 11. (Арт. 6 закону за 14 студзеня 1928 г.). Пытаньне аб увядзеньні самаабкладаньня і ўсе іншыя пытаньні на сходзе аб самаабкладаньні вырашаюцца простаю большасьцю галасоў ґрамадзян, што маюць выбарныя правы.

§ 12. (Арт. 7 закону за 14 студзеня 1928 г.). Калі трэба задаволіць агульную патрэбу двух або некалькіх паселішчаў, якія ўваходзяць у адзін сельскі савет, то пытаньне аб увядзеньні самаабкладаньня можа вырашацца і на агульных сходах грамадзян кожнага паселішча ў паасобку, і на аб'яднаным агульным сходзе грамадзян усіх зацікаўленых паселішчаў, з тым, каб на гэтым аб'яднаным агульным сходзе прысутнічала ня менш паловы агульнага ліку грамадзян, якія карыстаюцца выбарнымі правамі, з кожнага зацікаўленага паселішча. Калі-ж задаволеньне данай грамадзкай патрэбы тычыцца некалькіх паселішчаў, аб'яднаных рознымі сельскімі саветамі, то пытаньне аб увядзеньні самаабкладаньня перадаецца на абмеркаваньне агульных сходаў праз адпаведны раённы выканаўчы камітэт.

*Увага 1.* Пры абмеркаваньні пытаньняў аб самаабкладаньні на адну мэту 2-х або некалькіх паселішчаў, аб'яднаных адным або рознымі селькімі саветамі, а таксама пры абмеркаваньні пытаньняў аб самаабкладаньні на адну мэту насельніцтва цэлага раёну, самаабкладаньне лічыцца прынятым і абавязковым для ўсіх зацікаўленых паселішчаў тады, калі за яго выказалася большая частка грамадзян, што удзельнічалі ў галасаваньні, незалежна ад таго, як абмяркоўвалася пытаньне: на агульным сходзе усіх зацікаўленых паселішчаў або на паасобных сходах кожнага паселішча.

П р ы к л а д: Пытаньне аб будаваньні аднае школы абмяркоўвалася на паасобных сходах трох паселішчаў. У выніку галасаваньня выказалася:

| | За: | Супроць: |
|---|---|---|
| У 1-м паселішчы . . | 80 грамадз. | 100 грамадз. |
| У 2-м паселішчы . . | 70 „ | 70 „ |
| У 3-м паселішчы . . | 200 „ | 50 „ |
| Р а з а м . | 350 грамадз. | 220 грамадз. |

Самаабкладаньне на будаваньне школы прынята і лічыцца абавязковым для ўсіх трох паселішчаў.

*Увага 2.* Калі пытаньне аб самаабкладаньні на адну мэту абмяркоўвалася і прынята на паасобных сходах зацікаўленых паселішчаў, але кожны сход вызначыў розны разьмер самаабкладаньня, то лічыцца прынятым і абавязковым для ўсіх паселішчаў той разьмер, за які галасавала большасьць грамадзян усіх паселішчаў.

Прыклад: Пытаньне аб пабудаваньні маста абмяркоўвалася і прынята на паасобных сходах чатырох паселішчаў, пры чым выказаліся за самаабкладаньне ў наступным процанце да сумы падатку:

| | За 10%: | За 20%: | За 30%: |
|---|---|---|---|
| У 1-м паселішчы | 20 грамадз. | 50 грамадз. | 30 грамадз. |
| У 2-м паселішчы | 10 „ | 80 „ | 50 „ |
| У 3-м паселішчы | 100 „ | 50 „ | 20 „ |
| У 4-м паселішчы | 30 „ | 50 „ | 250 „ |
| РАЗАМ . | 160 грамадз. | 230 грамадз. | 350 грамадзян |

лічыцца прынятым і абавязковым для ўсіх паселішчаў самаабкладаньне ў разьмеры 30 проц. ад сумы падаткаў.

§ 13. (Арт. 9 закону за 14 студзеня 1928 г.). На агульным сходзе павінны быць вырашаны наступныя пытаньні а) мэта самаабкладаньня; б) формы самаабкладаньня (грашовая, натуральная або працоўная); в) агульны разьмер самаабкладаньня; г) крайні тэрмін уносаў на самаабкладаньні, пры чым, калі самаабкладаньне ўстанаўляецца рэгулярнымі ўносамі, то ў пастанове трэба адзначыць тэрмін, на які вызначаецца самаабкладаньне, але ў кожным разе ня больш аднаго году. Усе вырашаныя пытаньні павінны быць запісаны ў пастанове, прынятай агульным сходам, якая падпісваецца прэзыдыумам сходу.

§ 14. Агульны сход можа прыняць самаабкладаньне на патрэбы, якія немагчыма задаволіць за 1 год, ня выходзячы з гранічных разьмераў самабкладаньня. У такім выпадку пастанова аб самаабкладаньні дзейнічае і на будучы час і ня можа быць скасавана, пакуль ня будзе задаволена мэта самаабкладаньня. Але для данага году агульная сума самаабкладаньня ня можа перавышаць гранічнага разьмеру, паказанага ў §§ 4 і 5 гэтай інструкцыі, і вызначаецца сходам з такім разьлікам, каб гранічны разьмер самаабкладаньня ня быў парушаны і каб у вызначаны тэрмін мэта самаабкладаньня была выканана.

Прыклад: Гранічны разьмер самаабкладаньня па зацікаўленых сельскіх (местачковых) саветах складае 3.000 рублёў. Сход прыняў самаабкладаньне на будаваньне больніцы за 5.000 руб. на працягу двух гадоў. Пастанова гэтая дзейнічае да таго часу, пакуль больніца ня будзе пабудавана, але для данага году на будаваньне больніцы можа быць сабрана толькі 3.000 руб.

§ 15. Калі прынятыя мэты самаабкладаньня ня вычэрпваюць гранічнага разьмеру (§§ 4 і 5) то дазваляецца паднімаць і вырашаць

пытаньне аб правядзеньні самаабкладаньня і на іншыя мэты, пералічаныя ў § 2, але з тым, каб гранічны разьмер самаабкладаньня ня быў перавышаны.

Прыклад: Гранічны разьмер самаабкладаньня па вёсцы—500 рублёў. Прынята сходам на будаваньня школы 400 р. Сход можа дадаткова прыняць пастанову аб зборы на папраўку дарогі, але на суму ня больш 100 р.

§ 16. Агульны сход можа прыняць пастанову пра зьняцьце самаабкладаньня з паасобных незаможных гаспадарак.

## III. Раскладка самаабкладаньня.

§ 17. (Арт. 10 закону за 14 студзеня, закон за 11 лютага і закон за 10 сакавіка 1928г.). Не пазьней трох дзён ад дня атрыманьня пастановы агульнага сходу грамадзян паселішча аб самаабкладаньні, сельскі (местачковы) савет з удзелам прадстаўніка сялянскага камітэту узаемадапамогі робіць раскладку агульнай сумы самаабкладаньня паміж паасобнымі гаспадаркамі і грамадзянамі данага паселішча, прычым захоўваюцца наступныя правілы: раскладка робіцца прапарцыянальна суме сельска-гаспадарчага, прамысловага і падаходнага падаткаў, якія плацяцца данаю гаспадаркаю або асобаю на працягу году. Гаспадаркі, з якіх зьнят сельска-гаспадарчы падатак, абкладваюцца прапарцыянальна палове сумы налічанага сельска-гаспадарчага падатку. Саматужнікі сельскіх масцовасьцяй, з якіх зьнят падатак, абкладаюцца па сярэдняй стаўцы гаспадарак, што ня плацяць сельска-гаспадарчага падатку. Саматужнікі і іншыя асобы і гаспадаркі з мястэчак і з сельскіх саветаў гарадзкой мяжы, *што ня плацяць сельска-гаспадарчага, прамысловага і падаходнага падаткаў*, абкладаюцца прапарцыянальна палове сумы падаходнага падатку, які налічваецца па першаму разраду 17-ці разраднай сеткі, паводле таго раскладу па падаходным падатку, да якога адносіцца гаспадарка—асоба.

*Увага 1.* (Увага да арт. 10 закону за 14 студзеня 1928 г.). Грамадзяне, што знаходзяцца на дзяржаўнай або грамадзкай службе і не вядуць самастойнай сельскай гаспадаркі, не прыцягваюцца да самаабкладаньня тады, калі яны не атрымоўваюць беспасрэднай карысьці ад мерапрыемстваў, на якія робіцца самаабкладаньне. Пытаньне аб карыснасьці для іх мэтаў самаабкладаньня вырашае сельскі (местачковы) савет.

*Увага 2.* Савецкія гаспадаркі да ўдзелу ў самаабкладаньні не прыцягваюцца. Калектыўныя гаспадаркі ўдзельнічаюць у самаабкладаньні толькі тады, калі ад мэты самаабкладаньня яны атрымаюць карысьць. Пытаньне аб карыснасьці для іх мэты самаабкладаньня вырашаецца сельскім саветам. Калі калектыўныя гаспадаркі ўдзельнічаюць у самаабкладаньні, то сума самаабкладаньня для іх вылічваецца прапарцыянальна фактычнаму акладу сельска-гаспадарчага падатку, апроч усіх скідак і льгот. Утвораныя пасьля першага студзеня 1927 г. калектыўныя гаспадаркі ў самаабкладаньні ня ўдзельнічаюць.

§ 18. У сельскіх мясцовасьцях раскладка самаабкладаньня робіцца такім чынам.

Падлічваюцца наступныя сумы:

1. Па гаспадарках, з якіх зьнімаецца ўвесь або частка сельска-гаспадарчага падатку па неабкладаемым мінімуме даходаў або скі-

дачным фондзе, падлічваюцца сумы палавін акладаў сельска-гаспадарчага падатку, што быў налічаны з іх.

2. Па іншых гаспадарках, якія плацяць сельска-гаспадарчы падатак, падлічваюцца сумы фактычнага, апроч усіх скідак і льгот, сельска-гаспадарчага падатку, што яны плацяць.

3. Па ўсіх гаспадарках, якія плацяць прамысловы і падаходны падатак або абодвы гэтыя падаткі, падлічваюцца сумы параўнальнага збору пасьля залічэньня патэнтаў і падаходнага падатку з набаўкамі ў мясцовыя сродкі.

4. Па ўсіх гаспадарках саматужнікаў, што ня плацяць ніякіх падаткаў, падлічваюцца сумы сельска-гаспадарчага падатку, якія былі-б з іх налічаны па сярэдняй стаўцы сельска-гаспадарчага падатку на адну незаможную гаспадарку.

*Увага.* Для вылічэньня гэтай сярэдняй стаўкі падлічваецца сума акладаў ва ўсіх гаспадарках, з якіх зьнят сельска-гаспадарчы падатак (па неабкладаемым мінімуме даходаў і скідачным фондзе) і дзеліцца на колькасьць гэтых гаспадарак.

Прыклад: У 20-ці гаспадарках, з якіх зьнят сельска-гаспадарчы падатак па незаможнасьці аклады сельска-гаспадарчага падатку складалі-б 60 руб., гэта значыць 3 р. у сярэднім на 1 гаспадарку. Грунтуючыся на гэтай суме (3 р.), падлічваюцца ўмоўныя сумы падатку з саматужнікаў, якія ня плацяць ніякіх падаткаў.

5. Па асобах, у якіх крыніцаю даходаў зьяўляецца заработная плата, што неабкладаецца сельска-гаспадарчым або падаходным падаткамі, падлічваюцца сумы акладаў сельска-гаспадарчага падатку, які быў-бы налічаны з 15 проц. іх заработнай платы за год.

Прыклад: Асоба, якая жыве ў вёсцы, атрымоўвае 700 руб. у год заработнай платы, што не абкладаецца ні сельска-гаспадарчым, ні падаходным падаткамі. Для раскладкі самаабкладаньня, з гэтай і іншых такіх асоб падлічваецца аклад сельска-гаспадарчых падаткаў, які яны плацілі-б з 15 проц. свае заработнай платы за год. У даным выпадку сельска-гаспадарчы падатак падлічваецца з 105 р. і, пры трох едаках, складае 2 р. 85 к.

6. Па калякты́ўных гаспадарках падлічваюцца сумы фактычнага сельска-гаспадарчага падатку з іх, апроч усіх скідак і льгот.

Сумы падаткаў, падлічаных паводле п. п. 1—6, складаюцца і на іх дзеліцца сума, прынятая да самаабкладаньня; такім чынам вызначаецца пай самаабкладаньня на адзін рубель падаткаў.

Прыклад: Паводле п. п. 1—6 падлічана:

| | |
|---|---|
| 1. З гаспадарак, якія плацяць сельска-гаспадарчы падатак . . . . . . . . . . . . . . . . . . . | 600 руб. |
| 2. З гаспадарак, з якіх зьнят увесь або частка сельска-гаспадарчага падатку . . . . . . . . . . . . . . . | 100 руб. |
| 3. З гаспадарак, якія плацяць прамысловы і падаходны падаткі . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . | 200 руб. |
| 4. З саматужнікаў, якія ня плацяць ніякіх падаткаў . . | 30 руб. |
| 5. З асоб, якія атрымоўваюць заработную плату, што неабкладаецца сельска-гаспадарчым або падаходным падаткамі . . . . . . . . . . . . . . . . . . . | 20 руб. |
| 6. З калякты́ўных гаспадарак. . . . . . . . . . . | 50 руб. |
| РАЗАМ. . . . . . . | 1.000 руб. |

Прынята да самаабкладаньня сума 300 руб.; дзелім яе на 1.000 р. і атрымоўваем 30 кап.; гэта і будзе пай самаабкладаньня на кожны рубель падатку.

Гэты пай ужываецца да акладаў кожнай гаспадаркі, вылічаных паводле п. п. 1—6 гэтага параграфу, і, такім чынам, вызначаецца сума самаабкладаньня для кожнай гаспадаркі.

Сярэдні пай на рубель падаткаў вылічаны па 30 кап. Падлічваем сумы самаабкладаньня для паасобных гаспадарак:

1. Гаспадарка, з якой не зьнімаецца ўвесь або частка сельска-гаспадарчага падатку па неабкладаемым мінімуме даходаў або скідачным фондзе, плаціць 20 руб. сельска-гаспадарчага падатку.
20×30 к.=6 руб. па самаабкладаньні.

2. Гаспадарка, з якой зьнят увесь або частка сельска-гаспадарчага падатку. Палавіна акладу з яе складае 5 рублёў.
5×30 к. =1 р. 50 к. па самаабкладаньні.

3. Гаспадарка плаціць (з набаўкаю ў мясцовыя сродкі) параўнальнага збору 160 руб., падаходнага падатку—102 руб., а разам 262 рублі.
262×30 к.=78 р. 60 к. па самаабкладаньні.

4. З саматужніка, які ня плаціць ніякіх падаткаў, налічана акладу па сярэдняй стаўцы сельска-гаспадарчага падатку для незаможных гаспадарак 3 р.
3×30 к.=90 кап. па самаабкладаньні.

5. 15 проц. гадовай заработнай платы асобы, якая ня плаціць падаходнага альбо сельска-гаспадарчага падатку, налічана (умоўна) 6 руб. акладу сельска-гаспадарчага падатку.
6×30 к.=1 р. 80 к. па самаабкладаньні.

6. З калектыўнай гаспадаркі, апроч усіх скідак належыць сельска-гаспадарчага падатку 50 рублёў.
50×30 к.=15 руб. па самаабкладаньні.

§ 19. У мястэчках і сельскіх саветах гарадзкой мяжы раскладка самаабкладаньня робіцца на тых падставах, што і ў сельскіх мясцовасьцях (§ 18), аднак, з наступнымі зьменамі (арт. 3 закону за 10 сакавіка 1928 г.):

Саматужнікі і іншыя асобы і гаспадаркі, якія ня плацяць сельскагаспадарчага, прамысловага і падаходнага падаткаў, абкладаюцца прапарцыянальна палове сумы падаходнага падатку, што налічваецца з іх па першаму разраду 17-ці разраднай сеткі, паводле таго раскладу па падаходным падатку, да якога адносіцца гаспадарка асобы.

*Увага.* Такім чынам, пры раскладцы самаабкладаньня ў мястэчках і сельскіх саветах гарадзкой мяжы падлічваюцца:

а) з рабочых і служачых, што ня плацяць сальска-гаспадарчага або падаходнага падатку, палавіны тых сум падаходнага падатку, якія налічваліся-б з іх заработнай платы за год па першаму разраду 17-ці разраднай сеткі, паводле таго раскладу, да якога належыць рабочы-служачы.

Прыклад: Супрацоўнік каператыву ў м. Сьмілавічы атрымоўвае заработнай платы 75 рублёў у месяц або 900 руб. у год і не абкладаецца ні сельска-гаспадарчым, ні падаходным падаткам. Па 1-му разраду 17-ці разраднай сеткі адпаведнага раскладу (расклад № 1-а) падаходны падатак з яго гаспадаркі складаў-бы (0,7 проц. ад 900 рублёў) 6 р. 30 к. З гэтай сумы бярэцца палова—3 р. 15 к. і бяруцца пад увагу пры вылічэньні сярэдняга паю па самаабкладаньні, а таксама і сумы самаабкладаньня для данай асобы.

б) З іншых асоб, што ня плацяць ні сельска-гаспадарчага, ні прамысловага, ні падаходнага падаткаў, падлічваецца палавіна тых сум падаходнага падатку, якая налічвалася-б з неабкладаемага мінімуму даходаў па 1-му разраду 17-ці разраднай сеткі паводле адпаведнага раскладу.

Прыклад: Шавец у сельскім савеце гарадзкой мяжы г. Менску ня плаціць ні сельска-гаспадарчага, ні прамысловага і ні падаходнага падатку. З неабкладаемага падаходным падаткам мінімуму даходаў (у даным выпадку 700 руб.) падлічваецца падаходны падатак па 1-му разраду 17-ці разраднай сеткі, паводле адпаведнага раскладу. У даным выпадку гэта складае (па другому раскладу—2,5 проц. ад 700 руб.), г. зн. 17 р. 50 к.; з гэтай сумы бярэцца палавіна—8 р. 75 к. і бярэцца пад увагу, пры вылічэньні сярэдняга паю, самаабкладаньне, а таксама і сумы самаабкладаньня для данай асобы.

§ 20. У зробленай, паводле § § 18 і 19 раскладцы самаабкладаньня па асобных гаспадарак, сельскі (местачковы) савет з удзелам прадстаўніка камітэту ўзаемадапамогі можа зрабіць наступныя папраўкі:

а) павялічыць ня больш як на палову сум самаабкладаньня для паасобных заможных гаспадарак, у якіх аклады па сельска-гаспадарчым, прамысловым і падаходным падатках (з мясцоваю набаўкаю па двух апошніх) перавышаюць сто рублёў на кожную гаспадарку і больш;

б) зьменшыць на палову сумы самаабкладаньня для паасобных гаспадарак, з якіх зьнята частка сельска-гаспадарчага падатку ў парадку неабкладаемага мінімуму даходаў, скідачнага фонду і чырвонаармейскіх льгот;

в) зьняць усю суму самаабкладаньня з паасобных незаможных гаспадарак, з якіх зусім зьнят сельска-гаспадарчы падатак у парадку неабкладаемага мінімуму даходаў, скідачнага фонду і чырвонаармейскіх льгот;

г) зьменшыць або зусім зьняць сумы самаабкладаньня для паасобных калактыўных гаспадарак;

д) зьняць усю або частку сумы самаабкладаньня з паасобных незаможных гаспадарак, якія ня плацяць ні прамысловага, ні падаходнага падаткаў.

*Увага.* Робячы паводле гэтага § папраўкі, трэба захаваць агульную суму самаабкладаньня, вызначаную ў пастанове сходу.

§ 21 (Арт. 11 закону за 14 студзеня 1928 г.). Сельскі савет мае права на падставе хадайніцтваў асобных гаспадарак або асоб замяніць вызначаную агульным сходам форму самаабкладаньня іншаю формаю, напрыклад, замест грашовай—натуральныя ўносы або пра-

цоўны ўдзел. Пры такой замене сельскі савет павінен, галоўным чынам, узяць пад увагу інтарэсы занапалых груп сельскага насельніцтва.

*Увага* 1. Пры вызначэньні формы ўносаў па самаабкладаньні для паасобных гаспадарак сельскі (местачковы) савет павінен кіравацца:

а) пастановаю агульнага сходу аб мэтах і формах самаабкладаньня і патрэбаю ў грашох і ў працы для ажыцьцяўленьня гэтых мэтаў;

б) заяўкамі паасобных грамадзян, пры чым, калі на тую ці іншую форму заявак больш, як патрэбы, то перавага даецца калектыўным і менш платаздольным паасобным гаспадаркам;

в) пазьнейшыя зьмены вызначанай грашовай формы працаю дапушчаюцца толькі ў выключных выпадках у адносінах да паасобных незаможных гаспадарак і з поўным захаваньнем інтарэсаў мэты самаабкладаньня.

*Увага* 2. Гаспадаркі, з якіх зьнімаецца сельска-гаспадарчы падатак, выконваюць самаабкладаньне толькі ў працоўнай форме (увага 3 да § 6), а грашмі толькі па ўласным жаданьні.

§ 22. Пры вызначэньні тэрмінаў уносаў па самаабкладаньні для паасобных грамадзян, сельскі (местачковы) савет павінен кіравацца наступным:

а) для грашовай часткі вызначаецца адзіны для ўсіх грамадзян тэрмін;

б) для працоўнага ўдзелу—тэрміны вызначаюцца ў залежнасьці ад патрэбы працы для ажыцьцяўленьня мэтаў самаабкладаньня;

в) вызначаныя тэрміны, незалежна ад формы ўносаў, ня могуць перавышаць агульны тэрмін прыняты сходам.

§ 23. (Арт. 12 закону за 14 студзеня 1928 г.). Раскладка самаабкладаньня не пазьней тыдня ад дня зацьверджаньня яе сельскім (местачковым) саветам абвяшчаецца насельніцтву праз сельскіх выканаўцаў пад расьпіскі.

*Увага* 1. Апроч таго, сьпіс з раскладкаю самаабкладаньня вывешваецца саветам на відным месцы да агульнага ведама.

*Увага* 2. Грамадзянам, у якіх ёсьць якія-небудзь непаразуменьні, сельскі (местачковы) савет павінен даць вычэрпваючыя растлумачэньні аб спосабах і падставах раскладкі.

§ 24. (Арт. 13 закону за 14 студзеня 1928 г.). На працягу двух тыдняў ад дня абвяшчэньня раскладкі зацікаўленыя грамадзяне маюць права падаць у сельскі (местачковы) савет скаргу на пастанову аб самаабкладаньні наогул, а таксама аб раскладцы.

§ 25. (Арт. 14 закону за 14 студзеня 1928 г.). Пасьля сканчэньня тэрміну, паказанага ў папярэднім §, сельскі (местачковы) савет накіроўвае ў раённы выканаўчы камітэт пастанову агульнага сходу грамадзян аб самаабкладаньні з сваім заключэньнем, раскладку яго і ўсе атрыманыя скаргі.

*Увага.* Сельскія саветы гарадзкой мяжы накіроўваюць гэтыя матар'ялы і скаргі беспасрэдна ў акруговы фінансавы аддзел.

§ 26. (Арт. 15 закону за 14-го студзеня 1928 году). Раённы выканаўчы камітэт можа скасаваць пастанову сходу грамадзян аб самаабкладаньні ў наступных выпадках: а) калі агульны сход грамадзян, які прыняў пастанову аб самаабкладаньні, ня

меў законнай сілы або калі былі дапушчаны значныя парушэньні гэтай інструкцыі; б) калі мерапрыемствы, для ажыцьцяўленьня якіх зроблена самаабкладаньне, не прадугледжаны гэтаю інструкцыяю; в) калі перавышан для данага населішча гранічны разьмер самаабкладаньня.

*Увага.* У адносінах да сельскіх саветаў гарадзкой мяжы права скасаваць пастанову даецца адпаведным акруговым выканаўчым камітэтам па дакладу акруговых фінансавых аддзелаў.

§ 27. (Арт. 16 закону за 14 студзеня 1928 г.). Калі няправільна ўстаноўлена раскладка, то раённы выканаўчы камітэт павінен, незалежна ад таго, ці ёсьць скаргі на раскладку, ці не, зрабіць у іх патрэбныя зьмены.

*Увага.* У адносінах да раскладкі самаабкладаньня па сельскіх саветах гарадзкой мяжы папраўкі робіць адпаведны акруговы фінансавы аддзел.

§ 28. (Арт. 17 закону за 14 студзеня 1928 г.). Калі на працягу двух тыдняў ад падачы сельскім (местачковым) саветам у раённы выканаўчы камітэт (а па сельскіх саветах гарадзкой мяжы—у акруговы фінансавы аддзел) пастановы агульнага сходу грамадзян аб самаабкладаньні яна ня будзе скасавана раённым (акруговым) выканаўчым камітэтам, а таксама калі раённы выканаўчы камітэт (або акруговы фінансавы аддзел) ня зробіць у раскладцы зьмен, то пастанова аб самаабкладаньні і раскладка лічацца зацьверджанымі і зьяўляюцца абавязковымі для ўсіх грамадзян данага паселішча.

§ 29. (Арт. 18 закону за 14 студзеня 1928 г.). Раённы выканаўчы камітэт, адмовіўшы у задаволеньні скаргі, павінен абвясьціць асобе, падаўшай скаргу падставы адмаўленьня. На паказаныя пастановы могуць падавацца скаргі ў акруговы выканаўчы камітэт, пастановы якога зьяўляюцца канчатковымі. Падача скаргі на пастанову раённага выканаўчага камітэту не прыпыняе пастановы аб самаабкладаньні.

*Увага.* Па сельскіх саветах гарадзкой мяжы пастанова акруговага выканаўчага камітэту па скаргах зьяўляецца канчатковаю.

§ 30. (Арт. 19 закону за 14 студзеня 1928 г.). Калі пастанова аб задаволеньні скаргі была вынесена пасьля таго, як раскладка набыла сілу, то сума ўнесеная асобаю, падаўшаю скаргу, альбо спагнаная з яе павінна быць залічана пры новым самаабкладаньні ў даным паселішчы або зьвернута.

## IV. Абавязкі сельскіх (местачковых) саветаў і раённых выканаўчых камітэтаў.

§ 31. (Арт. 21 закону за 14 студзеня 1928 г.). Пасьля ажыцьцяўленьня самаабкладаньня на сельскі (местачковы) савет ускладаюцца наступныя абавязкі: а) устанаўленьне тэрміну ўносу па самаабкладаньні, а таксама тэрміну прыбыцьця грамадзян для працоўнага удзелу, у адпаведнасьці з пастановаю агульнага сходу

аб самаабкладаньні; б) збор, захаваньне і падлік сродкаў і матар'ялаў, якія паступаюць у парадку самаабкладаньня; в) вядзеньне патрэбных закупак і заключэньне дагавораў паводле пастановы агульнага сходу ў адпаведнасьці з дзеючымі законамі; г) кіраваньне ўсімі работамі, якія вядуцца ў парадку працоўнага ўдзелу, разьмеркаваньне паасобных абавязкаў паміж грамадзянамі, назначэньне кіраўнікоў работ, падлік зьяўленьня на працу і зробленай працы; д) распараджэньне ўсёю маемасьцю, якая набываецца за кошт самаабкладаньня, а таксама і грамадзкімі капіталамі, якія складаюцца ў парадку самаабкладаньня.

*Увага.* Калі самаабкладаньне ўстаноўлена для агульных патрэб некалькіх паселішчаў, аб'яднаных рознымі сельскімі саветамі, то абавязкі, паказаныя ў гэтым артыкуле, ускладаюцца на раённы выканаўчы камітэт альбо, па яго даручэньні, на адпаведны сельскі савет.

§ 32. (Арт. 20 закону за 14 студзеня 1928 г.) Нядоімкі па самаабкладаньні спаганяюцца сельскім (местачковым) саветам у адміністрацыйным парадку, які ўстаноўлен для спагнаньня падаткаў.

*Увага.* На нядоімкі па самаабкладаньні налічваецца пеня ў агульным парадку, вызначаным для нядоімак сельска-гаспадарчага падатку.

§ 33. (Увага да арт. 20 закону за 14 студзеня 1928 г.) Калі ў вызначаны тэрмін ня будзе выканана насельніцтвам самаабкладаньне працоўным удзелам, то кошт такіх работ пераводзіцца асобнаю пастановаю сельскага (местачковага) савету на грошы і спаганяецца паводле § 32.

*Увага.* Працоўная форма ўносаў па самаабкладаньні пералічваецца на грошы паводле мясцовых даведачных цэн. Гэтыя цэны вызначае раённы выканаўчы камітэт і пераглядае ня менш аднаго разу ў два месяцы. Пры вызначэньні гэтых цэн трэба браць пад увагу розную кваліфікацыю, спэцыяльнасьць працы і ўдзел цягавай конскай сілы.

§ 34. (Арт. 22 закону за 14 студзеня 1928 г.) Сродкі, атрыманыя ў парадку самаабкладаньня, могуць выдавацца толькі на тыя мэты, якія вызначаны ў адпаведнай пастанове агульнага сходу грамадзян. За парушэньне гэтага правіла вінаватыя прыцягваюцца да крымінальнай адказнасьці.

*Увага.* Забараняецца з сродкаў, атрыманых па самаабкладаньні, аплачваць зьвязаную з самаабкладаньнем працу сельскіх (местачковых) саветаў і раённых выканаўчых камітэтаў.

§ 35. (Арт. 23 закону за 14 студзеня 1928 г.) Сельскі (местачковы) савет дае агульнаму сходу справаздачу аб выдаткаваньні сродкаў, атрыманых у парадку самаабкладаньня, а таксама аб вядзеньні работ у парадку працоўнага ўдзелу грамадзян.

*Увага.* 1. Справаздачу аб работах, зробленых за кошт самаабкладаньня, сельскі(местачковы) савет дае агульнаму сходу не пазьней месячнага тэрміну пасьля скончэньня работ па гэтым самаабкладаньні, а ў канцы бюджэтнага году аб выніках усяго самаабкладаньня.

*Увага.* 2. Калі ажыцьцяўленьне мэты самаабкладаньня патрабуе доўгага часу, то справаздача робіцца не пазьней як кожныя тры месяцы.

*Увага* 3. Судакладчыкам сельскага (местачковага) савету аб выніках самаабкладаньня зьяўляецца рэвізійная камісія.

§ 36. (Арт. 24 закону за 14 студеня 1928 г.). Агульны нагляд за вядзеньнем самаабкладаньня ўскладаецца на акруговыя і раённыя выканаўчыя камітэты. На рэвізійныя камісіі сельскіх (местачковых) саветаў ускладаецца абавязак рэвізаць усю дзейнасьць сельскіх (местачковах) саветаў па вядзеньні самаабкладаньня.

## V, Дабравольнае самаабкладаньне,

§ 37. (Арт. 26 закону за 14 студзеня 1928 г.). Самаабкладаньне насельніцтва на грамадзкія патрэбы ў іншых непрадугледжаных § 2 гэтай інструкцыі выпадках дазваляецца толькі на асновах дабравольнай згоды грамадзян паводле §§ 38—40.

§ 38. (Арт. 27 закону за 14 студзеня 1928 г.). Пастановы аб дабравольным самаабкладаньні могуць прыймацца на сельскіх сходах і на іншых сходах грамадзян з дакладным вызначэньнем мэты, агульнага разьмеру і раскладкі самаабкладаньня паміж асобамі, галасаваўшымі за іх прыняцьце, а таксама парадку выдаткаваньня і кантролю за выдаткаваньнем сродкоў, што паступаюць па самаабкладаньні. Для асоб, якія ня ўдзельнічалі на сходах, а таксама для асоб, якія ўстрымаліся ад галасаваньня або галасавалі супроць прыняцьця пастановы, апошняя не абавякова.

§ 39. (Арт. 28 закону за 14 студзеня 1928 г.) Усе спрэчкі, якія ўзьнікаюць па пытаньнях дабравольнага самаабкладаньня, могуць вырашацца толькі судом. Ужываньне ў такіх выпадках якіх-небудзь мер адміністрацыйнага ўплыву або прымусу не дапушчаецца. Удзел сельскіх саветаў і іншых адміністрацыйна-фінансавых органаў у вядзеньні дабравольнага—самаабкладаньня і ў спагнаньні ўносаў, што належаць з паасобных грамадзян, забараняецца.

§ 40. (Арт. 29 закону за 14 студзеня 1928 г.) Выдаткаваньне сабраных па дабравольным самаабкладаньні сродкаў не на тыя мэты, для якіх збор быў зроблен, караецца ў крымінальным парадку.

§ 41. (Арт. 30 закону за 14 студзеня 1928 г.) Гэтая інструкцыя не пашыраецца таксама на зборы, якія ўстанаўляюцца для сваіх членаў арганізацыямі, што маюць паводле сваіх статутаў або палажэньняў аб іх, права абкладаць сваіх членаў зборамі на задавоherleньне тых ці іншых патрэб. Гэтыя зборы ўстанаўляюцца і атрыманыя сродкі выдаткоўваюцца ў парадку, прадугледжаным або ў спэцыяльным законе або ў статуце ці палалажэньні аб данай арганізацыі.

§ 42. Гэтая аб'яднаная інструкцыя замяняе сабою ўсе раней выданыя інструкцыі па самаабкладаньні, якія з часу выданьня гэтай інструкцыі трацяць сваю сілу.

Пам. Начальніка Падатковага Кіраўніцтва НКФ БССР **К. Рэксьцін.**

Ст. Інспэктар Падатковага Кіраўніцтва НКФ БССР **М. Кірык.**

„Зацьвярджаю":
Народны Камісар Фінансаў БССР **В. Мікуліч.**
6 сакавіка 1928 г.

# 34. Інструкцыя Падатковага Кіраўніцтва Народнага Камісрыяту Фінансаў БССР.

## ПРА ПАРАДАК ПРЫЙМАНЬНЯ, ЗАХАВАНЬНЯ І ВЫДАТКАВАНЬНЯ СРОДКАЎ ПА САМААБКЛАДАНЬНІ І ПРА ПАРАДАК ДАЧЫ СПРАВАЗДАЧ.

### Раскладка (форма № 1).

1. На падставе пастановы грамадзян аб самаабкладаньні сельскі савет разам з прадстаўніком сялянскага камітэту ўзаемадапамогі складае ведамасьць-раскладку паводле формы № 1. Спачатку ведамасьці-раскладкі паказваецца назва вёсак, што прынялі пастанову аб самаабкладаньні, на якія мэты прызначаецца самаабкладаньне, канчатковы тэрмін выплаты ўносаў па кожнай мэце ў паасобку і калі (год, месяц і дзень) была прынята пастанова аб самаабкладаньні.

Далей у раскладцы паказваецца: 1) назва вёскі, 2) нумары платнікаў па чарзе, 3) прозьвішча, імя платніка і імя яго бацькі ці назва ўстановы, якая прыцягваецца да самаабкладаньня; 4) разьмер самаабкладаньня ў грашовай форме для кожнага платніка ў паасобку.

*Увага.* У канцы раскладкі паказваецца, з якога разрахунку зроблена раскладка паміж паасобнымі платнікамі.

### Праверка ведамасьцяй-раскладак.

2. Пасьля таго, як прынятая сума будзе разьмяркована паміж паасобнымі грамадзянамі, падрыхоўваецца па раскладцы агульная сума ў графе 3 і калі агульны падрахунак будзе раўняцца суме, паказанай у пастанове, паводле якой зроблена гэта раскладка, то гэта будзе сьведчыць аб тым, што прынятая сума разьмяркована паміж паасобнымі платнікамі цалкам.

### Подпісы на раскладцы.

3. Раскладка (ф. № 1) павінна быць падпісана старшынёю і сакратаром сельскага савету, а таксама і прадстаўніком сялянскага камітэту ўзаемадапамогі, які ўдзельнічаў у раскладцы.

### Абвяшчэньне раскладкі.

4. Пры абвяшчэньні раскладкі платнікам, апошнія расьпісваюцца ў раскладцы супроць свайго прозьвішча, а асоба, якая абвяшчае раскладку, у канцы ведамасьці павінна адзначыць, калі іменна (месяц і дзень) раскладка гэта абвешчана платнікам.

*Увага.* Калі платнік адмовіцца падпісацца, то аб гэтым адзначаецца на раскладцы супроць прозьвішча гэтага платніка.

### Іменныя сьпісы (ф. № 2).

5. Пасьля зацьверджаньня раскладкі раённым выканаўчым камітэтам сельскі савет складае іменны сьпіс паводле форме № 2 на ўсіх грамадзян сельскага савету, якія прыцягнуты да самаабкладаньня.

6. Іменны сьпіс заводзіцца адзін на ўвесь год, нялічачыся з тым, колькі самаабкладаньняў будзе ў гэтым годзе. У іменным сьпісе таксама, як і ў раскладцы, паказваецца—чарговы нумар па ўсіх вёсках, прозьвішча, імя платніка і імя бацькі; пад разьдзелам калі прынята пастанова аб самаабкладаньні і сума, вылічаная ў рахунак гэтай пастановы" ў тытуле першай вольнай графы паказваецца: дзень, месяц і год, калі пастанова была прынята, а супроць прозьвішча платніка—сума, якая павінна быць заплочана на гэтае самаабкладаньне.

Агульная сума, запісаная ўсім грамадзянам у гэтай графе, павінна адпавядаць агульнаму падліку паводле графы 3 ведамасьці—раскладкі (ф. № 1).

## Дадатковае самаабкладаньне.

7. Калі грамадзяне, якія ўжо будуць запісаны ў іменны сьпіс, у далейшым прымуць пастанову аб новым або дадатковым самаабкладаньні, то новы іменны сьпіс не заводзіцца, а гэтая сума ўносіцца з раскладкі ў вольную графу іменнага сьпісу зараз-жа за першаю сумаю адпаведнага платніка. Грамадзяне, якія прыцягваюцца да самаабкладаньня ў першы раз, запісваюцца ў канцы сьпісу.

## Адзнака аб звароце.

8. Калі грамадзяне, якія заплацілі ўносы па самаабкладаньні, будуць звольнены ад удзелу ў гэтым самаабкладаньні, то ўнесеная сума залічаецца ім у рахунак новага самаабкладаньня, а калі такога ня было—зварочваюцца платніку, аб чым робіцца адзнака ў графе „Увага".

## Адзнака аб зьняцьці самаабкладаньня.

9. Калі з грамадзян, якія яшчэ ня выканалі самаабкладаньня, будзе зьнята ўсё або частка самаабкладаньня, то ў такіх выпадках аб гэтым адзначаецца ў графе „зьнята."

## Агульны падлік самаабкладаньня.

10. У канцы году або пасьля апошняй раскладкі ў графе „разам на суму" супроць прозьвішча кожнага платніка ставіцца агульная сума налічанага самаабкладаньня за год, а ў канцы іменнага сьпісу ў гэтай самай графе пішацца сума, на якую самаабклаліся грамадзяне за ўвесь год.

## Прыйманьне плацяжоў у сельскім савеце.

11. Для прыйманьня грошай, якія ўносяцца грамадзянамі ў парадку самаабкладаньня, сельскі савет вылучае спэцыяльную асобу.

## Сельскія зборшчыкі.

12. Для выгады платнікаў, збор плацяжоў па самаабкладаньні ў далёкіх ад сельскага савету вёсках можа ўскладацца пастановаю сельскага савету на членаў сельскага савету, якія жывуць у гэтых вёсках.

## Выдача квіткоў (ф. № 3).

13. Прымаючы ад платніка ўносы, упаўнаважаны на збор іх павінен напісаць на прызначаных для спагнаньня самаабкладаньня блян-

ках квіткоў (ф. № 3) карэнчык квітку і квіток. Квіток, падпісаны прыймальнікам, выдаецца на рукі платніку, а карэнчык з подпісам на ім платніка астаецца ў кніжцы і зьяўляецца падставаю для адзначэньняў іменных сьпісах платнікаў.

14. Квіткі павінны выпісвацца на кожнага платніка і на кожны ўнос асобна. Таксама адзін квіток выдаецца і тады, калі ўнос робіцца ў мяшанай форме (натураю грашмі, і працаю) або калі робіцца аднадачасна па дзьвюх аб некалькіх мэтах самаабкладаньня.

15. У карэнчыку квітка і ў квітку павінна быць паказана:

а) назва сельскага савету і вёскі, ў якой жыве платнік,

б) дзень, месяц і год прыйманьня плацяжу,

в) прозьвішча, імя і імя бацькі платніка,

г) прынятая сума грашмі і асобна натураю і працаю ў пераводзе на грошы.

16. Як агульнае правіла, квіткі павінны выпісвацца атрамантам, а ў крайнім выпадку, хімічным алоўкам.

## Блянкі квіткоў па самаабкладаньні.

17. Блянкі квіткоў па самаабкладаньні загатаўляюцца загадзя распараджэньнем акруговых выканаўчых камітэтаў, высылаюцца ў сельскі савет праз раённыя выканаўчыя камітэты сшытымі ў кніжкі па 100 аркушаў. Акруговыя выканаўчыя камітэты павінны паклапаціцца аб тым, каб карэнчыкі квіткоў і квіткі былі пранумараваны чарговымі нумарамі. Нумарацыя рэбіцца парадкавая (сквазная) па ўсёй акрузе. На адвароце апошняга карэнчыка квітку ў кожнай кніжцы павінна быць паказана колькі квіткоў знаходзіцца ў гэтай кніжцы.

## Захаваньне і выдача блянкаў квіткоў.

18. Атрыманыя сельскім саветам ад раённага выканаўчага камітэту квіткі павінны дакладна падлічацца і захоўвацца пад адказнасьць старшыні сельскага савету. Квіткі ўпаўнаважаным для збору плацяжоў павінны выдавацца пад расьпіскі, паказаўшы нумар выдадзеных квіткоў.

## Пячатка сельскага савету на квітках.

19. На блянках квіткоў, якія выдаюцца ўпаўнаважаным для збору грошай, павінна ставіцца пячатка сельскага савету; пячатка ставіцца на лінію адрэзу.

## Запіс грошай у грашовую кнігу.

20. Скончыўшы прыйманьне ўносаў за дзень, упаўнаважаны для збору грошай ў сельскім савеце падлічвае, паводле карэнчыкаў выдадзеных квіткоў (ф. № 3), атрыманую ім ад паасобных платнікаў, а таксама і сельскіх зборшчыкаў суму і запісвае яе ў грашовую кнігу (ф. № 4.)

*Увага.* Грашовая кніга павінна быць пранумаравана, прашнуравана і прыпячатана пячаткаю раённага выканаўчага камітэту.

21. Запіс у грашовую кнігу сум, прынятых ад паасобных платнікаў, робіцца агульнымі лічбамі за дзень, прычым у графе 1-й паказваецца чарговы нумар артыкулу з пачатку году, ў другой—калі і ад каго прынята і ў 3—колькі прынята гатоўкаю.

*Увага* 1. У графе 2 замест пералічаных прозьвішчаў платнікаў трэба паказваць толькі нумары выдадзеных квіткоў, напрыклад, прынята самаабкладаньня паводле квіткоў ад № 4324 да 4345 104 р. 89 к.

*Увага* 2. Паступленьні ад сельскіх зборшчыкаў запісваюцца асобнымі артыкуламі ад кожнага зборшчыка.

## Разрахункі з сельскімі зборшчыкамі.

22. Сельскія зборшчыкі сабраныя імі сумы па самаабкладаньні здаюць у сельскі савет не радзей аднаго разу ў тыдзень, а калі зьбярэцца больш 50 руб., то грошы павінны быць здадзены ў сельскі савет не пазьней, як на другі дзень пасьля прыняцьця грошай.

23. Адначасна з перадачаю грошай, сельскія зборшчыкі перадаюць у сельскі савет і ўсе карэнчыкі квіткоў, па якіх імі былі прыняты грошы.

24. Сельскі зборшчык павінен здаць у сельскі савет цалкам усе сабраныя ім сумы, апроч патрачаных паводле рахункаў і расьпісак з дазволу сельскага савету.

## Прыйманьне грошай ад сельскіх зборшчыкаў.

25. Упаўнаважаны для збору грошай у сельскім савеце падлічвае на падставе пададзеных сельскімі зборшчыкамі карэнчыкаў квіткоў агульную суму прынятых ім грошай і патрачаных паводле рахункаў і расьпісак і выяўляе колькі іменна грошай павінен здаць у сельскі савет гэты зборшчык гатоўкаю.

26. Прыймальнік збораў у сельскім савеце, прыняўшы ад сельскага зборшчыка грошы, выпісвае і выдае яму звычайны квіток паводле ф. № 3 з кніжкі спэцыяльна прызначанай для прыйманьня збораў ад сельскіх зборшчыкаў. У квітку павінна быць паказана прозьвішча і імя сельскага зборшчыка, назва вёсак, па якіх плацяжы сабраны, і агульная сума сабраных уносаў, а таксама і нумары карэнчыкаў квіткоў, выдадзеных сельскім зборшчыкам.

## Карэнчыкі квіткоў сельскіх зборшчыкаў.

27. Карэнчыкі квіткоў, пададзеныя сельскім зборшчыкам у сельскі савет, аддзяляюцца ад кніжкі квіткоў (па спэцыяльнай лініі адрэзу), сшываюцца і астаюцца ў сельскім савеце, як апраўдальныя дакумэнты. На першым карэнчыку квітка паказваецца час прыняцьця грошай у сельскім савеце і чаргові нумар артыкулу ў грашовай кнізе, пад якім прынятыя сумы запісаны на прыход.

## Захаваньне сродкаў, прынятых у парадку самаабкладаньня.

28. Усе вольныя грашовыя сродкі па самаабкладаньні сельскі савет павінен уносіць на захаваньне на процантавыя бягучыя рахункі на імя сельскага савету ва ўстановы дзяржаўнага банку або дзяржаўныя працоўныя ашчадныя касы.

29. Калі ўстанова дзяржаўнага банку або ашчадная каса знаходзіцца ў адным месцы з сельскім саветам, то вольныя сродкі па самаабкладаньні перадаюцца туды ў той-жа дзень, калі прыняты грошы ў сельскім савеце, але ў кожным разе, не пазьней як на другі дзень. Калі памянёныя ўстановы знаходзяцца ў іншых паселішчах, то сельскі савет павінен ужываць захады, каб перадаваць туды грошы па магчымасьці часьцей, і не радзей, як адзін раз у тыдзень.

## Запіс у расход грошай, перададзеных на бягучыя рахункі.

30. Сумы, якія будуць унесены сельскім саветам на захаваньне на бягучых рахунках ва ўстановы дзяржаўнага банку або ашчадныя касы, павінны быць выпісаны ў расход па грашовай кнізе (ф. № 4.) Пры гэтым у другой графе кнігі паказваецца—калі, ў якую ўстанову і на кніжку з якім нумарам перададзены грошы на захаваньне. Падставаю для запісу расходу зьяўляюцца квіткі або разрахунковыя кніжкі, выдадзеныя ўстановаю, прыняўшаю грошы на бягучы рахунак.

## Захаваньне разрахунковых кніжак і чэкаў.

31. Разрахунковыя кніжкі і чэкі, атрыманыя сельскім саветам ад устаноў, прыняўшых грошы на захаваньне, захоўваюцца ў сельскім савеце пад адказнасьць старшыні сельскага савету.

## Запіс на прыход грошай, атрыманых з бягучых рахункаў.

32. Сумы, якія будуць атрыманы сельскім саветам з бягучых рахункаў, у дзень атрыманьня іх запісваюцца на прыход у грашовую кнігу (ф. № 4), паказаўшы ў графе 2—з якой ўстановы і па кніжцы з якім нумарам грошы атрыманы.

## Апраўдальныя дакумэнты.

33. На кожную выдачу сродкаў сельскі савет павінен мець расьпіску атрымальніка грошай, у якой павінна быць паказана: год, месяц і дзень, імя і прозьвішча атрымальніка грошай, месца, дзе ён жыве, ад якога сельскага савету грошы атрымоўваюцца, за якую працу або за якія матар'ялы, а таксама на якую мэту гэтыя апошнія былі скарыстаны, агульная сума атрыманых грошай літарамі і лічбамі і подпіс асобы, атрымаўшай грошы.

*Увага*. Пры выплаце грошай за працу некалькім асобам, могуць складацца агульныя раздавальныя ведамасьці, на якіх павінны быць расьпіскі кожнага рабочага.

34. Расьпіскі, рахункі і раздавальныя ведамасьці павінны складацца на кожную мэту самаабкладаньня асобна.

35. Расходы могуць аплачвацца толькі з ведама старшыні сельскага савету, а калі ён атсутнічае, то асобы, што яго замяняе.

## Запіс выдадзенных сум у грашовай кнізе.

36. Расход выдадзеных сум у грашовую кнігу (форма № 4) робіцца асобна на кожны расходны дакумэнт, а калі грошы выдадзены ўпаўнаважаным на вядзеньне работ, то запіс можа быць зроблен агульнаю сумаю па ўсіх дакумэнтах, пададзеных гэтым упаўнаважаным. На кожным расходным дакумэнце павінен быць паказан чарговы нумар артыкулу грашовай кнігі, дзе выдадзеная сума выпісана ў расход.

## Авансы ўпаўнаважаным для будаваньня.

37. Калі за працу па будаваньні або па куплі матар'ялаў расплачваецца ня сам сельскі савет беспасрэдна, а ўпаўнаважаныя, то сельскі савет можа выдаваць апошнім на гэтую мэту патрэбную суму грошай, што завецца авансам.

38. Аванс можа быць выдадзен ня іначай, як пад уласную расьпіску тае асобы, якой аванс выдаецца.

## Падлічэньне ў грашовай кнізе за дзень.

39. Пасьля сканчэньня месяцу ў грашовай кнізе (ф. № 4) у графе прыход і расход падлічваюцца агульныя сумы, прынятыя і асобна выдадзеныя за месяц, пасьля чаго выводзіцца астача грашовых сродкаў на наступны месяц.

40. Астача выводзіцца наступным парадкам: бярэцца сума астачы на пачатак месяцу, да яе дадаецца сума прыходу за гэты месяц і вылічаецца расход. Калі гатоўка будзе раўняцца суме астачы выведзенай ў грашовай кнізе, то гэта будзе сьведчыць аб тым, што запісы ў кнізе і падлік грошай зроблены правільна, у адваротным выпадку, зараз-жа трэба высьвятліць, дзе зроблена памылка, пасьля чаго робіцца папраўка.

## Падлічэньне за год.

41. Пры гадовым заключэньні грашовай кнігі (ф. № 4), г. зн. пасьля таго, як будуць падлічаны прыход і расход за ўвесь год, у наступных за падлікамі радкох ва ўсю шырыню старонкі павінны быць напісаны літарамі лічбы прыходу, расходу і астачы грошай на наступны год. Пасьля гэтага ў грашовай кнізе расьпісваецца старшыня сельскага савету і тая асоба, якая вяла кнігу.

Сума астачы на новы год запісваецца на першай старонцы грашовай кнігі наступнага году ў графе „прыход“.

## Адзначэньне паступленьня ў іменных сьпісах.

42. Па меры паступленьня плацяжоў з карэнчыкаў квіткоў (ф. № 3) робяцца адзнакі ў іменных сьпісах (ф. № 2), для чаго агульная сума грошай, а таксама натуры або працы ў грашовай форме запісваецца супроць прозьвішча платніка ў графе таго месяца, калі квіток быў выдадзен. Пасьля адзнакі ў іменным сьпісе на карэнчыках квіткоў пішацца нумар асабовага рахунку платніка.

## Падлічэньне расходу па мэтах самаабкладаньня.

43. Каб ведаць, колькі і на якую мэту насельніцтва самаабклалася, а таксама, калі і колькі на гэтыя мэты выдаткавана, сельскі савет вядзе сшытак падліку расходаў сум па самаабкладаньні паводле формы № 5.

44. У сшытку (ф. № 5) для кожнай мэты самаабкладаньня адводзіцца некалькі старонак, у залежнасьці ад таго, якія маюць быць выдаткі, а ў тытуле першай старонкі падрабязна паказваецца грунтоўная мэта самаабкладаньня, напрыклад, „на будаваньне мосту праз раку Усу, паміж вёскамі Карпілаўка і Хутар, разьмерам 7 паг. мэтр.; удзельнічаюць у самаабкаданьні вёскі Хутар, Карпілаўка і Юрэвічы“. Далей паказваецца час, калі прынята пастанова і агульная сума, раскладзеная паміж насельніцтвам.

## Падлічэньне дадатковых самаабкладаньняў.

45. Калі на мэту, на якую насельніцтва ўжо самаабклалася раней, і рахунак на гэта ўжо адчынен у сшытку (ф. № 5) будзе зроблена на гэту самую мэту дадатковае самаабкладаньне, то новы рахунак на гэта самаабкладаньне не адчыняецца, а яно запісваецца на

ранейшы рахунак і толькі ў тытуле таго рахунку паказваецца дзень, месяц і год, калі дадатковая пастанова прынята, а ў графе „налічана“—агульная сума, раскладзеная паміж насельніцтвам.

46. На падставе выдатковых дакумэнтаў, паводле якіх выплачаны сельскім саветам грошы па працы, ў сшытку (ф. № 5), у рахунку той мэты самаабкладаньня, на якую зроблен выдатак паводле гэтых дакумэнтаў, паказваецца месяц, дзень і колькі выдаткавана грашмі і натураю ў грашовай форме. Кошт працы, што пайшла на гэту мэту, устанаўляецца па справаздачы ўпаўнаважанага для будаваньня або паводле карэнчыкаў квіткоў (ф. № 3), выдадзеных платнікам пры выкананьні імі сваіх абавязкаў па самаабкладаньні працаю.

## Справаздача сельскага савету.

47. Аб ходзе самаабкладаньня сельскі савет пасылае ў раённы выканаўчы камітэт 1) штомесяц 1 і 16 (за два тыдні з 1 да 15 уключна пасылаецца 16 і з 16 да канца месяца пасылаецца на першы дзень наступнага месяцу) кароткія зьвесткі ў агульных сумах аб тым, колькі з пачатку году да канца справаздачнага пэрыяду налічана і паступіла па самаабкладаньні, а таксама і выдаткавана;

2) паквартальна 7 студзеня, 7 красавіка, 7 ліпеня і 7 кастрычніка—зьвесткі аб ходзе самаабкладаньня за мінулыя тры месяцы паводле формы № 6.

## Зьвесткі паводле ф. № 6.

48. У зьвестках (ф. № 6) паказваецца, колькі паступіла ў парадку самаабкладаньня з пачатку году на ўсе мэты разам грашмі, а таксама натураю і працаю з пераводам на грошы, у паасобку, колькі ў тым ліку паступіла толькі грашмі; падрабязная назва кожнай мэты асобна, на якую робіцца самаабкладаньне; якая сума налічана і асобна выдаткавана з пачатку году на кожную мэту і астача вольных сродкаў, што паступілі па самаабкладаньні да канца справаздачнага пэрыяду.

49. Зьвесткі для складаньня справаздачы сельскі савет бярэ:

а) паступіўшую суму ў парадку самаабкладаньня з карэнчыкаў квіткоў;

б) назву мэт самаабкладаньня, а таксама колькі на кожную з іх вылічана і колькі выдаткавана з сшытку (ф. № 5).

Пры складаньні зьвестак за другі і наступны кварталы да сумы паступіўшай за справаздачны квартал, а таксама і сумы выдаткаванай трэба дадаваць суму, паказаную ў адпаведных графах за папярэдні квартал.

Каб вывесьці астачу вольных сродкаў па самаабкладаньні, трэба з сумы, паказанай ў графе „паступіла“ ў парадку самаабкаданьня з пачатку году грашмі, натураю і працаю, вылічыць агульную суму, выдаткаваную з пачатку году на ўсе мэты разам.

## Справаздача раённага выканаўчага камітэту.

50. Раённыя выканаўчыя камітэты на падставе атрыманных імі справаздач ад сельскіх саветаў пасылаюць ў акруговыя фінансавыя аддзелы:

1) двухтыднёвыя кароткія зьвесткі не пазьней 2 і 17 штомесяц;

2) паквартальныя зьвесткі паводле ф. № 6 не пазьней 10 студзеня, 10 красавіка, 10 ліпеня і 10 кастрычніка.

## Справаздача акруговага фінансавага аддзелу.

51. Акруговыя фінансавыя аддзелы на падставе атрыманых імі ад раённых выканаўчых камітэтаў справаздач складаюць і пасылаюць у Падатковае Кіраўніцтва Народнага Камісарыяту Фінансаў БССР:

1) па тэлеграфу двухтыднёвыя кароткія зьвесткі штомесяц не пазьней 4 і 19;

2) і поштаю квартальныя паводле ф. № 6 не пазьней 15 дня першага за справаздачнымі кварталамі месяца.

52. Усе зьвесткі складаюцца з нарастаючымі ітогамі з пачатку году.

## Падлічваньне сродкаў, які паступілі ад некалькіх вёсак розных сельскіх саветаў.

53. Калі ў самаабкладаньні на адну і тую самую мэту будуць удзельнічаць некалькі сельскіх саветаў, то кожны з гэтых сельскіх саветаў, удзельнічаючы ў гэтым самаабкладаньні, вядзе іменныя сьпісы платнікаў, зьбірае грошы і падлічвае іх звычайным парадкам.

54. Сродкі, сабраныя на мэты, прадугледжаныя агульнаю пастановаю некалькіх сельскіх саветаў, выдаткоўваюцца на належныя мэты распараджэньнямі раённага выканаўчага камітэту.

55. Для разрахаваньня з асобнымі сельскімі саветамі, што ўдзельнічаюць у агульным самаабкладаньні, раённы выканаўчы камітэт вядзе асобныя рахункі для сельскіх саветаў.

У гэткіх рахунках паказваецца мэта самаабкладаньня, належная сума і сумы атрыманыя.

Пам. Начальніка Падатковага Кіраўніцтва
НКФ БССР **А. Рэксьцін.**

ДАДАТАК 1.

### ПРАТАКОЛ АГУЛЬНАГА СХОДУ СЯЛЯН ВЁСКІ НОВАЯ НІВА ХУТАРСКАГА СЕЛЬСКАГА САВЕТУ ЧЕРВЕНСКАГА РАЁНУ АБ САМААБКЛАДАНЬНІ.

Агульны сход склікан па ініцыятыве сельскага савету 14 сакавіка 1928 году ў вёсцы Новая Ніва.

Для кіраваньня сходам большасьцю галасоў выбраны прэзыдум з 5 асоб, у склад якога ўвайшлі наступныя гр-не: Пяхота Зьмітрок, Няборскі Сымон, Крупеня Янка, Мірановіч Хілімон і Хурсік Нічыпар.

Старшынёю сходу быў Пяхота Зьмітрок. Абавязкі сакратара выконваў Хурсік Нічыпар.

Вёска Новая Ніва мае 84 грамадзяніна, якія маюць выбарныя правы; на сход зьявілася 63 грамадзяніна, што маюць выбарныя правы.

Выслухаўшы прапанову старшыні сельскага савету Маўчана Хведара аб патрэбе дабудаваць школу ў нашай вёсцы, на што, паводле вылічэньня сельскага савету патрэбна 830 руб. да тых грошай, якія адпушчаюцца з раённых сродкаў,

### Пастанавілі:

1. Каб скончыць у гэтым годзе будаваньне школы, зрабіць у вёсцы Новая Ніва Хутарскага сельскага савету самаабкладаньне паводле закону за 14 студзеня 1928 г. на суму восемсот трыццаць руб.

2. Даручыць сельскаму савету разам з сялянскім камітэтам узаемадапамогі зрабіць раскладку прынятай сумы паміж паасобнымі гаспадаркамі і грамадзянамі вёскі Новая Ніва.

3. Як агульнае правіла, прыняць, што тэта самаабкладаньне павінна быць унесена грашмі, апроч сельскіх гаспадарак, з якіх зьнят сельска-гаспадарчы падатак, якія павінны адбыць належную суму самаабкладаньня працоўным удзелам.

4. Зьняць самаабкладаньне з прычыны заняпаласьці гаспадаркі в наступных грамадзян—Няборскай Тадоры, Маўчан Юстыны і Пяхоты Пятруку.

5. Крайні тэрмін уносу па самаабкладаньні вызначаецца 1 красавіка 1928 г.

6. Зборшчыкам грошай па самаабкладаньні выбраць Мікалая Пятроўскага.

7. Для дагляду за будаваньнем школы вылучаецца камісія ў складзе Крупені Макара, Чыстап'яна Васіля і Мурашкі Піліпа.

За паказаныя прапановы галасавала 55 асоб, што маюц выбарныя правы, 5 галасавала супроць і 3 устрымалася ад галасаваньня.

Старшыня сходу Зьмітрок Пяхота.

Члены Прызыдыуму: Сымон Няборскі.
Крупеня Янка.
Міранові Хілімон.

Сакратар Сходу Нічыпар Хурсік.

---

ДАДАТАК 2.
Форма № 1.

## Раскладка.

Самаабкладаньня ў ........ вёсцы / сяле ........ раёну
........ акругі, прынятага агульным сходам грамадзян
........ за 192... г. на 192.../2... г. з гранічным тэрмінам выплаты
........ месяца 192... г.

Мэты самаабкладаньня на ........
(пералічаюцца) ........

| №№ па чарзе | ПРОЗЬВІШЧА, ІМЯ І ІМЯ БАЦЬКІ | Размер самаабкладаньня ў грашовай форме Руб. | К. | Расьпіска |
|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | | 4 |
| | | | | |

Увага 1. Раскладка зроблена з разьліку........р. ........к. на адзін рубель абкладаемай сумы.

Увага 2. Раскладка абвешчана насельніцтву........192........г.

Подпісы:

ДАДАТАК 3
Форма № 2

# ІМЕННЫ СЬПІС

Грамадзян .................. сельскага савету .................. раёну .................. акругі, якія ўдзельнічаюць у самаабкладаньні ў 1927-28 бюджэтным годзе.

| №№ па чарзе | Назва вёскі / Прозьвішча, імя і імя бацькі | Калі прынята пастанова аб самаабкладаньні і сума, налічаная паводле гэтай пастановы | | | | | | | | | | Зьнята | | Паступіла: Назва месяцаў | | | | | | | | | | | | | | Усяго паступіла | | Асталося ў нядоімцы на 1-е кастрычніка 192 г. | | Увага |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | „ .... “ 192 г. | | „ .... “ 192 г. | | „ .... “ 192 г. | | „ .... “ 192 г. | | Усяго на суму | | | | Сакавік | | Красавік | | Май | | Чэрвень | | Ліпень | | Жнівень | | Верасень | | | | | | |
| | | Р. | К. | Р. | К. | Р. | К. | Р. | К. | Р. | К. | Р. | К. | Р. | К. | Р. | К. | Р. | К. | Р. | К. | Р. | К. | Р. | К. | Р. | К. | Р. | К. | Р. | К. | |
| | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |

ДАДАТАК 4
Форма № 3

Арт. грашовай кнігі № ..................

КАРЭНЧЫК № ..................

АСОБНЫ РАХУНАК № ..................

.................. сельскага савету .................. паселішча / вёска

„ .... “ .................. 1928 г.

У рахунак самаабкладаньня прынята ад гр-на / установы ..................

грашмі .... р. .... к., натураю .................. (назва прадуктаў і матар'ялаў)

па цане .... р. .... к. на суму .... р. .... к., працаю .................. (назва і колькасьць прац.) на суму

.................. руб. .... к.

Подпіс платніка ..................

Месца пячаткі.

ДАДАТАК 4
Форма № 3

КВІТОК № ..................

АСОБНЫ РАХУНАК № ..................

.................. сельскага савету .................. паселішча / вёска

„ .... “ .................. 1928 г.

У рахунак самаабкладаньня прынята ад гр-на / установы ..................

грашмі .... р. .... к., натураю .................. (назва прадуктаў і матар'ялаў)

па цане .... р. .... к. на суму .... р. .... к., працаю .................. (назва і колькасьць працы). на суму

.................. руб. .... к.

Подпіс прымальніка ..................

ДАДАТАК 5
Форма № 4

# Грашовая кніга

........ сельскага савету ........ раёну ........ акругі

На 192 / 2 год

| № № па чарзе | Калі і ад каго паступіла, каму і куды здана; каму і за што выплачана; №№ карэнчыкаў, квіткоў і іншых дакумэнтаў | Сумы па самаабкладаньні | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | | Прыход | | Расход | |
| | | Руб. | К | Руб. | К. |
| | | | | | |

ДАДАТАК 6
Форма № 5

# Сшытак

асабовых рахункаў расходваньня сум самаабкладаньня ........

сельскага савету ........ раёну ........ акругі

*Пачата* ........ *192 г.*

Рахунак расходваньня сум самаабкладаньня на ........
(паказваецца асноўная мэта самаабкладаньня)

| Прыгавар аб самаабкаданьні | Налічана |
|---|---|
| „ ........ “ ........ 192 .... г. | ........ руб. ........ кап |
| „ ........ “ ........ 192 .... г. | ........ руб. ........ кап. |

## Расходавана

| МЕСЯЦ і ДЗЕНЬ | Грашмі і натураю ў грашовай форме | | Працаю ў пераводзе на грошы | | УСЯГО | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Руб. | Кап. | Руб. | Кап. | Руб. | Кап. |
| | | | | | | |

Дадатак 7

Форма № 6

ЗЬВЕСТКІ

........................ сельскага савету ........................ раёну

........................ акругі аб выкананьні самаабкладаньня

на 1-ы дзень ........................ месяца 192 .... г.
(складаецца паквартальна)

| Паступіла ў рахунак самаабкладаньня з пачатку году | |
|---|---|
| Грашмі, натураю і працаю | У тым ліку грашмі |
| ............ руб. ...... кап. | ............ руб. ...... кап. |

| Назва мэтаў самаабкладаньня | Налічана | Расходавана з пачатку году |
|---|---|---|
| На ............ | | |
| На ............ | | |
| На ............ | | |

Астача вольных сродкаў па самаабкладаньні ў грашавой форме ............ руб. ...... кап.

*Подпісы:*

## 35. Інструкцыя Кіраўніцтва Дзяржаўнага Фінансавага Кантролю пры Народным Камісарыяце Фінансаў БССР

ПРА РЭВІЗІЮ ДЗЕЙНАСЬЦІ СЕЛЬСКІХ САВЕТАЎ ПА ВЯДЗЕНЬНІ САМААБКЛАДАНЬНЯ.

### І. Кампэтэнцыя сельскіх рэвізійных камісій.

1. На сельскія рэвізійныя камісіі ўскладаецца:

а) рэвізія ўсіх этапаў вядзеньня самаабкладаньня;

б) систэматычная рэвізія скарыстаньня паступленьняў ад самаабкладаньняў;

в) пэрыядычная і раптоўная праверка гатоўкі ў касах сельскіх саветаў;

г) сыстэматычны нагляд за паўнатою, сваячаснасьцю падліку ў сельскіх саветах грошай і матар'яльных каштоўнасьцяй.

## II. Рэвізія вядзеньня самаабкладаньня.

2. Рэвізійныя камісіі наглядаюць за ўсімі этапамі праходжаньня самаабкладаньня. Яны сочаць за тым:

а) хто ўнёс на сход пытаньне аб самаабкладаньні: сельскі савет, грамадзкія арганізацыі, група грамадзян, паасобныя грамадзяне;

б) ці не затрымоўваюцца і ці сваячасна ставяцца на абмеркаваньне сходаў заявы аб самаабкладаньні;

в) на якім сходзе (першым або другім) была прынята пастанова аб самаабкладаньні, і калі на другім, то чаму не адбыўся першы сход;

г) ці аформлена належным парадкам пастанова сходу аб устанаўленьні самаабкладаньня і ці вызначаны ў пратаколе мэта, форма і сума самаабкладаньня, а таксама тэрмін самаабкладаньня і тэрмін плацяжоў;

д) ці адпавядаюць мэты, для якіх робіцца самаабкладаньне, мэтам, дазволеным пастановаю ЦВК і СНК БССР за 14 студзеня 1928 г.;

е) наколькі ўстаноўленая сходам сума самаабкладаньня адпавядае разьмерам патрэбы, для якой робіцца самаабкладаньне;

ж) ці правільна, г. зн. ці паводле артыкулаў 9 і 10 інструкцыі, зроблена раскладка агульнай сумы самаабкладаньня на кожнага платніка;

з) ці правільна і ці паводле існуючых мясцовых расцэнак переведзена на грошы раскладка самаабкладаньня, ўстаноўленага ў натуральных адзінках, або ў адзінках рабочай сілы;

і) ці абвясьціў сельскі савет у законны тэрмін насельніцтву пад расьпіскі раскладку агульнай сумы самаабкладаньня паміж паасобнымі гаспадаркамі і грамадзянамі;

к) ці ў законны тэрмін сельскі савет накіраваў у раённы выканаўчы камітэт пастанову сходу аб самаабкладаньні з сваім заключэньнем і які характар гэтага заключэньня;

л) ці былі выпадкі скасаваньня раённым выканаўчым камітэтам пастановы аб самаабкладаньні і ў станоўчым выпадку якія на тое былі прычыны;

м) ці былі ўнесены раённым выканаўчым камітэтам зьмены ў раскладку самаабкладаньня;

н) ці былі скаргі на пастанову аб самаабкладаньні наогул і на неправільную раскладку, колькі такіх скарг было, якое маемаснае становішча скаргнікаў, ці сваячасна пасланы скаргі сельскім саветам у раённы выканаўчы камітэт і ці сваячасна вырашаны яны апошнім;

о) ці прыстасаваны ўстаноўленыя тэрміны плацяжоў да часу выдаткаў на патрэбы, для якіх робіцца самаабкладаньне;

п) ці акуратна і поўна ўносяцца платнікамі належачыя ад іх стаўкі па самаабкладаньні, якую суму складае нядоімка па самаабкладаньні, якое маемаснае становішча нядоімшчыкаў і прычыны няўплаты, ці ўжываюцца сельскім саветам належныя і сваячасныя меры ўплыву на няспраўных платнікаў, прычым, калі выявіцца, што нядоімкі робяцца з прычыны нездавальняючай актыўнасьці сельскага савету, рэвізійныя камісіі ставяць перад апошнімі пытаньне аб патрэбе ўжыць больш рашучы нажым на няспраўных, а калі высьвятліцца, што прычынаю нядоімачнасьці зьяўляецца сапраўдная непла-

таздольнасьць, то рэвізійныя камісіі паднімаюць перад сельскім саветам пытаньне аб мэтазгоднасьці звальненьня іх ад плацяжоў.

## III. Рэвізія скарыстаньня сельскімі саветамі сродкаў ад самаабкладаньня.

3. Асноўнаю задачаю пры рэвізіі выдаткаў павінны зьяўляцца самы ўважлівы нагляд за выдаткаваньнем сродкаў строга па іх беспасрэдным мэтавым прызначэньні.

Калі рэвізійная камісія выявіць, што сродкі скарыстоўваліся на недазволеныя патрэбы, то яна перадае справу ў раённы выканаўчы камітэт для прыцягненьня вінаватых да крымінальнай адказнасьці.

4. Асаблівую ўвагу рэвізійная камісія павінна зварочваць на будаўнічыя і рамонтныя работы, прычым пры рэвізіі будаўнічых або рамонтных работ, рэвізійная камісія ацэньвае мэтазгоднасьці таго, наколькі выгадны той спосаб (падрадны або гаспадарчы) будаўніцтва, якім вядуцца гэтыя работы.

5. Пры рэвізіі будаўнічых або рамонтных работ, што вядуцца падрадным парадкам, рэвізійныя камісіі высьвятляюць выгаднасьць заключаных дагавораў і сочаць за тым, наколькі акуратна, своечасна і дабраякасна выконваюцца ўмовы.

6. Пры рэвізіі будаўнічых або рамонтных работ, што вядуцца гаспадарчым спосабам, рэвізійныя камісіі наглядаюць за тым, наколькі своечасна і выгадна загатаўляюцца будаўнічыя матар'ялы, ці належным парадкам яны захоўваюцца, ці скарыстоўваюцца на тыя мэты, для якіх яны куплены, ці дабраякасны куплены матар'ял і ці ня было браку і псаваньня матар'ялаў пры будаваньні і ці вядзецца будаваньне з належнай хуткасьцю і ў той час, калі рабочыя рукі больш танныя, ці робіцца будаваньне або рамонт у такім разьмеры, які прыняты пастановаю агульнага сходу.

7. Да выкананьня ўсіх іншых работ і таксама да набыцьця абсталяваньня культурна-асьветных і санітарных устаноў за кошт сродкаў ад самаабкладаньня рэвізійныя камісіі падыходзяць з пункту гледжаньня своечаснасьці, выгаднасьці. мэтазгоднасьці вядзеньня работ і куплі рэчаў абсталяваньня.

8. Пры рэвізіі скарыстаньня працоўнай сілы па самаабкладаньні. рэвізійныя камісіі зварочваюць, галоўным чынам, увагу на выяўленьне мэтазгоднасьці яе скарыстаньня парадкам параўнаньня атрыманых вынікаў патрачаным часам і працоўнаю сілаю.

## IV. Рэвізія кас сельскіх саветаў.

9. Рэвізія кас сельскіх саветаў мае на мэце выясьненьне паўнаты і захаванасьці гатоўкі кас.

10. Рэвізіі кас робяцца двоякім парадкам: пэрыядычна, у пачатку кожнага месяца, і раптоўна, пераважна ў пэрыяды найбольшага наплыву паступленьняў.

11. Рэвізію камісіі распачынаюць зрана, у самым пачатку рабочага дня, калі яшчэ не распачыналіся касавыя апярацыі.

12. Пры рэвізіі кас, рэвізійныя камісіі падлічваюць гатоўку і іншыя каштоўнасьці ў касе і параўноўваюць знойдзенае з астачамі, выведзенымі ў грашовай кнізе на дзень рэвізіі.

13. Калі будзе выяўлена неадпаведнасьць гатоўкі касы з гатоўкаю ў кніжцы, то рэвізійныя камісіі выясьняюць прычыны разыхо-

джаньня і патрабуюць, каб знойдзеныя лішнія сумы былі неадкладна запрыходаваны ў кнізе, а недахопы папоўнены асобаю, адказнаю за захаваньне касы. Калі-ж вінаватыя асобы ня згодзяцца з прапановамі камісіі або калі будзе выяўлена іх злая воля, то рэвізійныя камісіі паднімаюць судовае перасьледваньне вінаватых праз раённы выканаўчы камітэт.

14. Для праверкі паўнаты і захаванасьці матар'яльных каштоўнасьцяй, набытых і атрыманых у парадку самаабкладаньня, рэвізійныя камісіі бяруць на выбарку некалькі дакумэнтаў, паводле якіх паступілі найбольш каштоўныя матар'ялы і рэчы (напрыклад, з будаўнічых матар'ялаў—бярвеньні, рэйкі, цьвікі, а з прадметаў абсталяваньня—дарагія апараты, начыньне) і параўноўваюць з іх фактычнасьцю, прычым, калі матар'ялы пашлі ўжо ў работу, то за фактычнасьць можа быць прынята расьпіска асобы, якая вядзе будаўніцтва.

## V. Праверка падліку.

15. Пры рэвізіях касы сельскага савету, а таксама пры чарговых праверках самаабкладаньня, рэвізійныя камісіі павінны ўважліва наглядаць за пастаноўкаю і вядзеньнем падліку ў сельскіх саветах.

16. Рэвізійныя камісіі павінны цікавіцца тым, наколькі поўна і сваячасна кніжны падлік у сельскіх саветах адбівае фактычныя іх прыходныя і расходныя апярацыі.

17. Бяручы на выбарку некалькі карэнчыкаў квітковай кніжкі, рэвізійныя камісіі высьвятляюць, ці ўсе прынятыя ад грамадзян, у парадку самаабкладаньня, сумы, поўнасьцю запісаны ў грашовай кнізе на прыход. Параўнаньнем тых-жа дакумэнтаў з кніжнымі запісамі рэвізійныя камісіі высьвятляюць, ці зроблены ў кнізе запісы сваячасна, г. зн. у той дзень, калі грошы ў сельскі савет фактычна паступілі.

18. Праверка правільнасьці, паўнаты і сваячаснасьці расходных запісаў у кнігах робіцца такім самым парадкам, які і ў папярэднім артыкуле.

## VI Агульныя заўвагі.

19. Чарговыя рэвізіі дзейнасьці сельскіх саветаў, па вядзеньні самаабкладаньня, робяцца не радзей аднаго разу ў квартале, г. зн. у студзені за 1-шы квартал, у красавіку—за 2-гі, у ліпені—за 3-ці, ў кастрычніку—за 4-ты.

20. Аб выніках рэвізіі зразу, пасьля яе сканчэньня і не пазьней трох дзён, рэвізійнымі камісіямі складаюцца акты, якія падпісваюцца рэвізійнаю камісіяю і прысутнымі пры рэвізіі членамі сельскага савету.

21. На працягу тыдня пасьля афармленьня актам праведзенай рэвізіі, рэвізійныя камісіі робяць даклад на пасяджэньні сельскага савету аб выяўленых недахопах, непарадках і парушэньнях, высоўваючы свае прапановы для зьнішчэньня іх у далейшым і вызначаючы пэўны тэрмін для правядзеньня сельскімі саветамі запрапанаваных мерапрыемстваў.

22. Калі сельскі савет ня згодзіцца з прапановамі рэвізійнай камісіі, то рэвізійная камісія перадае спрэчныя пытаньні на вырашэньне раённага выканаўчага камітэту.

23. Скончыўшы работы па кожным самаабкладаньні, рэвізійная камісія скарыстоўвае сабраны рэвізійны матар'ял для судакладу на агульным сходзе па дакладу сельскага савету.

24. Таксама пасьля сканчэньня бюджэтнага году ў месячны тэрмін, г. зн. не пазьней лістапада месяца, рэвізійныя камісіі на агульным сходзе робяць справаздачы аб выніках рэвізіі праведзеных за мінулы год самаабкладаньняў і аб выніках рэвізіі скарыстаньня за гэты-ж час сродкаў ад самаабкладаньня.

25. Даючы рэвізійную ацэнку правядзеньня кожнага паасобнага самаабкладаньня і за год ацэнку ўсяе дзейнасьці сельскага савету па правядзеньні ўсіх відаў самаабкладаньня, рэвізійная камісія будуе сваю справаздачу, прадугледжаную двума папярэднімі артыкуламі гэтай інструкцыі, прыблізна па наступнай праграме: а) колькі павінна было паступіць ад самаабкладаньня на кожную паасобную патрэбу, б) колькі фактычна паступіла, в) калі было недапаступленьне, то што зьявілася перашкодаю, г) ці зроблена тое, на што рабілася самаабкладаньне і ці ў такім разьмеры, як меркавалася, д) калі не дароблена, то чаму, е) наколькі гаспадарліва і эканомна выдаткоўваліся сродкі, ж) якія найбольш істотныя і вялікія недарэчнасьці і парушэньні былі выяўлены, з) якія прапановы былі высунуты рэвізійнымі камісіямі для ўпарадкаваньня справы самаабкладаньня і выдаткаваньня сродкаў, як гэтыя прапановы выкананы і якія вынікі.

Час. вык. абав. Начальніка Кіраўніцтва Дзяржаўнага Фінансавага Кантролю пры Народным Камісарыяце Фінансаў БССР **А. Ільлясэвіч.**

6 сакавіка 1928 г.

---

## 36. Пастанова Народнага Камісарыяту Гандлю БССР

ПРА АБВЯШЧЭНЬНЕ ВЫПІСУ З ПАСТАНОВЫ Н. К. ГАНДЛЮ СССР ЗА 8/XII-1927 г. № 294 ПРА ЎСТАНАЎЛЕНЬНЕ ГУРТАВОЙ ЦАНЫ НА ПЛУГ „ХР5" БЕЛАХАЛУНІЦКАГА ЗАВОДУ.

Народны Камісарыят Гандлю БССР гэтым абвяшчае для ведама і кіраваньня дзяржаўных і кааперацыйных арганізацый выпіс з пастановы Народнага Камісарыяту Гандлю СССР № 294 за 8/XII-1927 году:

„I. Устанавіць гуртова-адпускную цану на плуг „ХР5" Белахалуніцкага заводу з калясом і запасным лемяхом 13 р. 50 к.

2. Гэтую пастанову ўвесьці ў сілу з моманту яе апублікаваньня і пашырыць на ўсе раней заключаныя ўгоды ў частцы прадукцыі, ня зданай да паказанага тэрміну".

Нам. Народнага Камісара Гандлю БССР **М. Брыскін.**

Сакратар Н. К. Гандлю БССР **З. Маза.**

7 студзеня 1928 г.

---

## 37. Пастанова Народнага Камісарыяту Гандлю БССР

ПРА АБВЯШЧЭНЬНЕ ВЫПІСУ З ПАСТАНОВЫ Н. К. ГАНДЛЮ СССР ЗА 14/XII-1927 г. № 300 ПРА УСТАНАЎЛЕНЬНЕ ЦЭН НА СОЛЬ.

Народны Камісарыят Гандлю БССР гэтым абвяшчае для ведама і кіраваньня выпіс з пастановы Народнага Камісарыяту Гандлю СССР за 14/XII-1927 г., № 300, пра ўстанаўленьне цэн на соль:

„1. Устанавіць наступную наменклатуру выварачных солей Славянскай групы заводаў і продажныя цэны Солесындыкату франко-вагон-промысел:

I. Група. Соль выварачная славянская—14 р. 72 к. за тону.

*Увага.* У 1 групу ўключаюцца: соль скавародная; вакуўм лежалая Укрсольтрэсту, і вакуум лежалая „Химугля".

II. Група. Соль харчовая—вакуум—19 р. 25 к. за тону.

*Увага.* У II групу ўключаюцца: соль вакуум сушаная Укрсольтрэсту і соль вакуум сушаная „Химугля".

III. Група. Соль прыма—вакуум (для прамысловасьці)—22 р. 59 к. за тону.

*Увага.* У III групу уключаецца: соль вакуум сушаная Укрсольтрэсту з спэцыяльнаю адгрузкаю з пад цечы апарату.

2. Пералічаныя вышэй цэны набываюць сілу з 10 сьнежня 1927 г. і пашыраюцца на ўсе раней заключаныя ўгоды у частцы нязданай да 10 сьнежня солі.

У межох дагаворных з Укрсольтрэстам і „Химуглем" на 1927-28 аперацыйны год колькасьцяй выварачных солей—Солесындыкату даецца права адгрузкі па свайму погляду любога гатунку солі кожнай з пералічаных груп."

Нам. Народнага Камісара Гандлю БССР **М. Брыскін.**

Сакратар Н. К. Гандлю БССР **З. Маза.**

7 студзяня 1928 г.

---

## 38. Пастанова Народнага Камісарыяту Гандлю і Народнага Камісарыяту Ўнутраных Спраў БССР.

ПРА ЗЬМЕНУ п. 5 СВАЕ ПАСТАНОВЫ ЗА 31 КАСТРЫЧНІКА 1927 г. № 58 „АБ УЖЫВАНЬНІ ТОЛЬКІ МЭТРЫЧНЫХ МЕРАК У ГАНДЛІ ПРЫ РАСЦЭНКАХ І ПРОДАЖЫ ТАВАРАЎ".

Народны Камісарыят Гандлю і Народны Камісарыят Унутраных Спраў БССР пастанаўляюць зьмяніць п. 5 свае пастановы за 31 кастрычніка 1927 г. № 58 „Аб ужываньні толькі мэтрычных мерак у гандлі пры расцэнках і продажы тавараў" (Беларускі Камэрц. Бюлетэнь за 5/X-І 1927 г., № 85, і Бюлетэнь СНК БССР № 18 за 1927 г.) запісаўшы яго ў наступнай рэдакцыі: „5. За невыкананьне паказанай вышэй пастановы вінаватыя прыцягваюцца да адказнасьці: службовыя асобы паводле арт. 106 Крым. Код., а прыватныя ў адміністрацыйным парадку".

Нам. Народнага Камісара Гандлю БССР **М. Брыскін.**

Нам. Народнага Камісара Ўнутраных Спраў БССР **Я. Кроль.**

17 лютага 1928 г.
№ 16.

---

## 39. Пастанова Народнага Камісарыяту Гандлю БССР

ПРА ЎСТАНАЎЛЕНЬНЕ ГРАНІЧНЫХ ГУРТОВЫХ ЦЭН НА ХЛЕБ.

На падставе п. п. „м“ і „о“ арт. 4 Часовага Палажэньня аб Народным Камісарыяце Гандлю БССР і загаду Народнага Камісарыяту Гандлю СССР за 18/I-1928 г. № 6/231, Народны Камісарыят Гандлю БССР, для зьмены п. „а“ свае пастановы № 2 за 8/II-1927 г. і п. 1-га пастановы № 3 за 15/II-1927 г., пастанаўляе:

1. Устанавіць наступныя гранічныя гуртовыя цэны на хлеб франко-вагон ст. назначэньня Беларусі для не льнаводных Бабруйскай, Гомельскай, Мазырскай і Менскай акруг:

а) на жыта . . . 7 р. 10 к. за цэнтнер нэто

б) жытнюю муку звычайнага памолу 8 р. 50 к. за цэнтнер з мяшком,

в) жытнюю абойную муку . . 9 р. 10 к. „

2. У адносінах да льнаводных Віцебскай, Полацкай, Аршанскай і Магілеўскай акруг цэны на хлеб астаюцца паводле пастаноў Народнага Камісарыяту Гандлю БССР № 2 за 2/II-1927 г. і № 3 за 15/II-1927 г.

3. Гэтая пастанова набывае сілу з 20 студзеня 1928 г.

Нам. Народнага Камісара Гандлю БССР **М. Брыскін.**

Сакратар Народнага Камісарыяту Гандлю БССР **З. Маза.**

20 студзеня 1928 г.
№ 9.

---

## 40. Пастанова Народнага Камісарыяту Гандлю БССР

ПРА ЎСТАНАЎЛЕНЬНЕ ГРАНІЧНА-МАКСІМАЛЬНАЙ ПЛАТЫ ЗА ПАМОЛ ПШАНІЦЫ Ў АДНАГАТУНКОВУЮ ТАВАРНУЮ МУКУ ВЫХАДАМ 80 проц.

Паводле п. „м“ арт. 4 Часовага Палажэньня аб Народным Камісарыяце Унутранага Гандлю БССР (З. З. БССР 1924 г., № 25-26, арт. 227) і п. 3 пастановы СПА за 28/X-1927 г. (пр. 351), Народны Камісарыят Гандлю БССР, у дапаўненьне да свае пастановы № 53 за 14 верасьня 1927 г. „Аб гранічна-максімальных таксах за памол таварнага зярна“ (Беларускі Камэрцыйны Бюлетэнь за 20/IX-1927 г., № 72, і Бюлетэнь СНК БССР за 31/X-1927 г., № 16), пастанаўляе:

1. Устанавіць для дзяржаўнага, каперацыйнага і прыватнага мукамольля гранічна-максімальную плату за перамол пшаніцы вільготнасьцю да 16 проц. (уключна), якая перапрацоўваецца для дзяржаўных і каперацыйных хлебагандлюючых арганізацый у таварную аднагатунковую муку выхадам 80 проц.: на паравых, нафтавых і іншых мэханічных млынох па 1 р. 41 к. за цэнтнер і на вадзяных —1 р. 26 к. за цэнтнер.

2. Калі вільготнасьць пшаніцы перавышае 16 проц., то паказаная ў п. 1 гэтай пастановы памольная плата падвышаецца да наступных разьмераў:

| Процант вільготнасьці. | Шкала падвышэньня памольнай платы па млынох за цэнтнер | | |
|---|---|---|---|
| | Каэфіц. падвыш. памольнай платы. | На паравых, нафтавых і іншых мэханічных млынох. | На вадзяных млынох |
| Больш. 16% да 16,5% | 1,04 | 1 р. 46 к. | 1 р. 31 к. |
| „ 16,5% да 17% | 1,09 | 1 р. 53 к. | 1 р. 37 к. |
| „ 17% да 17,5% | 1,14 | 1 р. 60 к. | 1 р. 43 к. |
| „ 17,5% да 18% | 1,21 | 1 р. 70 к. | 1 р. 52 к. |

*Увага.* Плата за пераапрацоўку пшаніцы, вільготнасьць якой перавышае 18 проц., устанаўляецца па згодзе паміж мукамольлем і памольцамі.

3. Гэта пастанова набывае сілу з моманту яе апублікаваньня.

4. Вінаватыя ў парушэньні гэтай пастановы прыцягваюцца да адказнасьці паводле арт. 141 Крым. Кодэксу.

Нам. Народнага Камісара Гандлю БССР **М. Брыскін.**

Сакратар Народнага Камісарыяту Гандлю БССР **К. Верамейчык.**

5 лютага 1928 г.
№ 23.

---

## 41. Пастанова Народнага Камісарыяту Гандлю БССР

ПРА ЗЬМЕНУ СТАНДАРТАЎ НА ПЕЧАНЫ ХЛЕБ, ЎСТАНОЎЛЕНЫХ НАРОДНЫМ КАМІСАРЫЯТАМ ГАНДЛЮ БССР 31 КАСТРЫЧНІКА 1927 Г. ДЛЯ ГОР. МЕНСКУ.

Для замены п. п. 1 і 2 пастановы Народнага Камісарыяту Гандлю БССР за 31 кастрычніка 1927 г. № 57 „Аб устанаўленьні ў гор. Менску стандартаў на печаны жытні і пшанічны хлеб“ (апублікаваный у Беларускім Камэрц. Бюлетэні за 5/XI-1927 г., № 85, і Бюлетэні СНК БССР за 20/XII-1927 г., № 18), Народны Камісарыят Гандлю БССР, на падставе п. п. „в“ і „м“ арт. 4 Часовага Палажэньня аб Народным Камісарыяце Гандлю БССР і загаду Народнага Камісарыяту Гандлю СССР за 10/I-1928 г., № 6460/1677, п а с т а н а ў л я е:

1. Устанавіць у гор. Менску для ўсіх дзяржаўных, каперацыйных і прыватных хлебапякарных прадпрыемстваў наступныя стандарты на нарміраваныя гатункі пшанічнага хлеба:

а) першы гатунак—штучны (францускія булкі, батоны, пляцёнкі, кайзеркі, рагалікі і здоба) выпякаецца з мукі 1-га гатунку ў колькасьці 67 проц. і 2-га гатунку ў колькасьці 33 проц. з дабаўленьнем ня менш 2,5 проц. цукру. Зольнасьць мешаніны павінна складаць ня больш 0,63 проц.;

б) другі гатунак—вагавы (калачы, пляцёнкі і баранкі) выпякаецца з мукі 1-га гатунку ў колькасьці 25 проц. і 2-га гатунку ў колькасьці 75 проц. Зольнасьць мешаніны павінна складаць ня больш 0,74 проц.;

в) трэці гатунак—вагавы (калачы і пляцёнкі)—выпякаецца з пшанічнай мукі аднагатунковага памолу выхадам ня меньш 80 проц. Зольнасьць ня больш 1 проц.

2. Стандарты, ўстаноўленыя Народным Камісарыятам Гандлю БССР пастановаю за 31 кастрычніка 1927 г. для жытняга хлеба, а таксама тэхнічныя ўмовы і нормы вагі вагавога і штучнага жытняга і пшанічнага хлеба пакінуць бяз зьмен, апроч норм порыстасьці жытняга хлеба, якія ўстанавіць як мінімальныя:

а) для жытняга простага і заварнога замест 36 проц.—40 проц.,

б) „ вышэйшага і палепшанага гатункаў замест 40 проц.—42 проц.

3. Паказаныя ў гэтай пастанове зьмененыя стандарты ўвесьці ва ўсіх дзяржаўных, капэрацыйных і прыватных хлебапякарных прадпрыемствах г. Менску з 12 лютага 1928 г.

4. Дзяржаўная Хлебная Інспэкцыя і Менскі Акругова Інспэктар Гандлю павінны наглядаць за якасьцю хлеба, што выпякаецца памянёнымі ў п. 3 гэтай пастановы прадпрыемствамі, і адпаведнасьцю яго ўстаноўленым стандартам.

5. Вінаватыя ў парушэньні гэтай пастановы прыцягваюцца да адказнасьці: службовыя асобы паводле арт. арт. 106 і 141 Крым. Код., а прыватныя асобы паводле арт. 141 Крым. Кодэксу.

Нам. Народнага Камісара Гандлю БССР **М. Брыскін.**

Сакратар Народнага Камісарыяту Гандлю БССР **З. Маза.**

8 лютага 1928 г.
№ 13.

---

## 42. Пастанова Народнага Камісарыяту Гандлю БССР

ПРА РЭГУЛЯВАНЬНЕ ЗАГАТОВАК ПУШНІНЫ І ФУТРАВАГА СЫРЦУ.

Для рэгуляваньня загатовак пушніны і футравага сырцу, на падставе п.п. „в“ і „м“ арт. 4 і п. „г“ арт. 7 Часовага Палажэньня аб Народным Камісарыяце Гандлю БССР (З. З. БССР 1924 г., № 25-26, арт. 227), Народны Камісарыят Гандлю БССР пастанаўляе:

1. Дзяржаўныя і капэрацыйныя арганізацыі, якія прыбываюць у БССР для загатоўкі пушніны і футравага сырцу на вываз за межы БССР, павінны рэгістравацца ў Народным Камісарыяце Гандлю БССР і ў яго мясцовых органах (у акруговых інспэктароў гандлю).

2. Усе мясцовыя прыватныя асобы, а таксама тыя, што прыбываюць з іншых месц у БССР, якія займаюцца скупкаю пушніны і футравага сырцу на тэрыторыі БССР, павінны рэгістравацца ў акруговых інспэктароў гандлю, маючы пры сабе патэнты адпаведных разрадаў.

3. Загатоўка, скупка і гандаль пушнінаю і футравым сырцом асобамі, не зарэгістраванымі ў органах Народнага Камісарыяту Гандлю БССР, бязумоўна забараняецца.

4. Нагляд за выкананьнем гэтай пастановы ўскладаецца на органы Рабоча-Сялянскай Міліцыі.

5. Вінаватыя ў парушэньні гэтай пастановы прыцягваюцца да адказнасьці: службовыя асобы паводле арт. 106 і прыватныя асобы паводле арт. 141 Крымін. Кодэксу.

6. Гэтая пастанова ўваходзіць у сілу з 10 сакавіка 1928 г.

Нам. Народнага Камісара Гандлю БССР **М. Брыскін.**

Сакратар Народнага Камісарыяту Гандлю БССР **К. Верамейчык.**

28 лютага 1928 г.
№ 19.

---

## 43. Пастанова Народнага Камісарыяту Гандлю БССР

АБ ЗАБАРОНЕ ВЫВАЗУ ЦЭГЛЫ З МЕЖАЎ БССР.

У зьвязку з недахопам цэглы для надыходзячага будаўнічага сэзону, Народны Камісарыят Гандлю БССР, на падставе п. п. „в" і „о" арт. 4 Часовага Палажэньня аб Народным Камісарыяце Гандлю, пастанаўляе:

1. Забараніць усім дзяржаўным і капэрацыйным арганізацыям усякі вываз цэглы з межаў БССР без спэцыяльнага дазволу ў кожным паасобным выпадку Народнага Камісарыяту Гандлю БССР.

2. Вінаватыя ў парушэньні п. 1 гэтай пастановы прыцягваюцца да адказнасьці, на падставе арт. 141 Крымінальнага Кодэксу.

Нам. Народнага Камісара Гандлю БССР **М. Брыскін.**

Сакратар Народнага Камісарыяту Гандлю БССР **К. Верамейчык.**

15 сакавіка 1928 г.
№ 26.

---

## 44. Рэзалюцыі V Усебеларускага Зьезду Сялянскіх Таварыстваў узаемадапамогі.

А. ПА ДАКЛАДУ АБ ЧАРГОВЫХ ЗАДАЧАХ ПРАЦЫ НА ВЁСЦЫ І РОЛІ КАМІТЭТАЎ СЯЛЯНСКІХ ТАВАРЫСТВАЎ УЗАЕМАДАПАМОГІ Ў ГЭТЫХ ЗАДАЧАХ.

1. Выслухаўшы даклад т. Гарбуза аб чарговых задачах партыі Савецкай Улады па працы на вёсцы і ролі ў гэтай працы камітэтаў сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі V Усебеларускі Зьезд Сялянскіх Таварыстваў Узаемадапамогі адзначае, што XV Зьезд УсеКП(б) і XI Зьезд КП(б)Б у сваіх пастановах яскрава і правільна вызначылі агульны кірунак, а таксама і канкрэтныя шляхі разьвіцьця народнай гаспадаркі СССР і БССР.

2. Асабліва выразна пастаўлены XV Зьездам УсеКП(б) і XI Зьездам КП(б)Б задачы чарговай працы на вёсцы і вызначаны канкрэтныя шляхі сацыялістычнага перабудаваньня вёскі на падставе яе капераваньня, калектывізацыі і пераводу сельскай гаспадаркі на вышэйшую тэхнічную базу (культурная рэвалюцыя). Задачы падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі для гэтага, у кірунку практычнага ажыцьцяўленьня гэтых задач усіх кадраў актыву вёскі, а таксама шырокага ўздыму актыўнасьці і самадзейнасьці вясковай беднаты і серадняцтва.

3. Паказанымі вышэй партыйнымі зьездамі былі падкрэсьлены задачы і дадзены дырэктывы для яшчэ большага змаганьня з узросшымі ў апошнія гады кулацкімі элемэнтамі на вёсцы, у першую чаргу праз арганізаваны адпор вясковай беднаты і серадняцтва, праз яшчэ большае ўзмацненьне сувязі рабочай клясы з гэтымі пластамі сялянства.

4. Адзначаючы вялікую важнасьць усіх гэтых задач і разам з тым улічваючы тыя вялікія цяжкасьці і перашкоды, якія сустракаюцца на шляху практычнага іх ажацьцяўленьня, Зьезд заклікае ўсе нізавыя камітэты сялянскіх т-ваў узаемадапамогі і ўвесь сялянскі актыў да дружнай і сыстэматычнай працы пад кіраўніцтвам партыі і Савецкай улады, дапамагаючы хутчэйшаму і больш поўнаму ажыцьцяўленьню ўсіх гэтых мерапрыемстваў.

## Зьезд пастанаўляе:

1. Цэнтральны і ўсе раённыя і сельскія камітэты сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі зараз-жа, пасьля сканчэньня працы Зьезду, павінны распрацаваць і вызначыць канкрэтныя мерапрыемствы для большага ўдзелу камітэтаў узаемадапамогі ў агульным каперацыйным будаўніцтве на вёсцы, асабліва па лініі сельска-гаспадарчай капярацыі, у арганізацыі вытворчых і спэцыяльных яе відаў (сельска-гаспадарчыя арцелі, т-вы супольнай апрацоўкі зямлі, машынныя, насенныя, мэліарацыйныя, торпавыя, малочныя і інш. аб'яднаньні), ва ўдзеле ў земляўпарадчай працы, у працы па падняцьці культурчасьці сельскай гаспадаркі і яе інтэсыфікацыі.

2. Зьезд абавязвае ўсе камітэты таварыстваў узаемадапамогі яшчэ больш упарта разгортваць працу па большаму аказаньню ўзаемадапамогі вясковай беднаце, асабліва поўна і мэтазгодна скарыстоўваць бядняцкія крэдыты і накіроўваць дапамогу, галоўным чынам, па шляху калектывізацыі сельскай гаспадаркі.

3. Усе нізавыя камітэты ўзаемадапамогі павінны зьвярнуць асаблівую ўвагу на значна большае, чымся да гэтага часу, разгортваньне арганізацыйна-культурна-масавай работы на вёсцы, увёўшы яе ў сыстэму і паставіўшы яе аднэю з цэнтральных задач у працы камітэтаў, а таксама больш увязаць сваю штодзённую практычную культурна-масавую працу з культурнымі ўстановамі.

4. Камітэты сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі павінны шчыльней увязваць сваю штодзённую працу з партыйнымі, камсамольскімі, савецкімі, каперацыйнымі і грамадзкімі арганізацыямі на вёсцы і дамагацца ад іх большай ўвагі і дапамогі ў працы камітэтаў узаемадапамогі.

5. Адзначаючы вялікую перагрузку працаўнікоў раённых камітэтаў узаемадапамогі часовымі савецкімі, каперацыйнымі і іншымі работамі, асабліва кампаніямі, што адбіваецца на іх беспасрэднай працы, даручыць Цэнтральному Камітэту Сялянскіх Таварыстваў Узаемадапамогі ўжыць захады для разгрузкі раённых работнікаў камітэтаў сялянскай узаемадапамогі, тым самым даць магчымасьць ім больш займацца беспасрэдным выкананьнем пастаўленых задач перад камітэтамі узаемадапамогі.

Старшыня Зьезду Сялянскіх Таварыстваў Узаемадапамогі
**Л. Адзінцоў.**

Сакратар Зьезду Сялянскіх Таварыстваў Узаемадапамогі
**П. Стрыкаў.**

18 сакавіка 1928 г.

## Б. ПРА СПРАВАЗДАЧУ ЦЭНТРАЛЬНАГА КАМІТЭТУ СЯЛЯНСКІХ ТАВАРЫСТВАЎ УЗАЕМАДАПАМОГІ БССР.

Выслухаўшы справаздачу Цэнтральнага Камітэту Сялянскіх Т-ваў Узаемадапамогі аб працы, становішчы і далейшых задачах камітэтаў сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі, V Усебеларускі Зьезд Сялянскіх Т-ваў Узаемадапамогі адзначае:

I. За апошнія два гады ў працы камітэтаў сялянскіх таварыстваў ўзаемадапамогі ёсьць наступныя дасягненьні:

а) значна ахоплена сялянскімі камітэтамі ўзаемадапамогі сялянства (каля 80 проц.);

б) насенны натуральны фонд павялічыўся ў параўнаньні з 1925 г. на 164 проц., а грашовы фонд павялічыўся за гэты час на 174 проц.;

в) вытворчыя прадпрыемствы камітэтаў сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі павялічыліся на 40 проц. і пракатныя пункты на 310 проц.;

г) бяднейшым гаспадаркам і наогул гаспадаркам членаў т-ваў узаемадапамогі ў працягу двух гадоў выдадзена ўзваротных пазычак 118.452 гаспадаркам (насеньнем 395.495 пуд. і грашмі 163.914 руб.) і беззваротнай дапамогі 5.211 гаспадаркам (насеньнем 3.205 пуд. і грашмі 22.606 руб.).

д) была праведзена рацыяналізацыя і патаньненьне апарату Цэнтральнага Камітэту Сялянскіх Таварыстваў Узаемадапамогі і акруговых камітэтаў сялянскіх т-ваў узаемадапамогі і наладжана беспасрэдная сувязь Цэнтральнага Камітэту Сялянскіх Таварыстваў Узаемадапамогі з раённымі камітэтамі сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі, што прыблізіла сувязь з нізавою сеткаю камітэтаў сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі.

II. Побач з дасягненьнямі ў працы камітэтаў сялянскіх т-ваў узаемадапамогі ёсьць і шэраг недахопаў:

а) недастаткова наладжана па ўсёй сыстэме сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі праверка выкананьня дырэктыў і сувязь з савецкімі, капэрацыйнымі і грамадзкімі арганізацыямі на вёсцы;

б) вельмі слаба спаганяліся членскія ўносы, прычым процант спагнаньня за 1926-27 год значна зьменшыўся ў параўнаньні з 1925-26 годам (у 1925-26 г.—25 проц., а ў 1926-27 г.—19 проц.), канкрэтнай-жа працы ў гэтым кірунку ў большасьці выпадкаў камітэты не вялі, а таксама слаба спаганяліся выдадзеныя пазычкі;

в) склад старшынь сельскіх камітэтаў падобран у значнай частцы непрацаздольны, сельскія ўпаўнаважаныя за рэдкім выключэньнем працаю зусім ня цікавяцца, сама праца сельскіх камітэтаў у большасьці праходзіць бесплянава і без актыўнага ўдзелу членаў сялянскіх т-ваў узаемадапамогі, у выніку чаго пераважная частка сельскіх камітэтаў працуе нездавальняюча;

г) справаводства і рахункаводства ў большай частцы сельскіх камітэтаў не наладжана, вядуць яго самі старшыні камітэтаў, а сель-

скія саветы да гэтага часу яшчэ ў большасьці выпадкаў не дапамагаюць ім у гэтай працы;

д) зямельныя і сенажатныя вучасткі сельскіх камітэтаў здаюцца ў большасьці выпадкаў у арэнду, а калі і апрацоўваюцца самімі камітэтамі, дык без усякіх культурных пачынаньняў і, як правіла, горш чымся ў сялян. Грамадзкая апрацоўка вучасткаў таксама практыкуецца толькі ў адзіночных выпадках, а часьцей за-ўсё ўжываецца наймовая праца;

е) працоўна-гужавая дапамога беднаце ў грамадзкім парадку робіцца вельмі нязначна, хаця тут ёсьць значныя магчымасьці, і практыка паасобных сельскіх камітэтаў сьведчыць, што пры пэўным стараньні ў гэтым кірунку можна шмат чаго зрабіць;

ж) культурная праца, асабліва масавая, апроч выпіскі асобнымі камітэтамі сялянскіх газэт і некаторай матар'яльнай дапамогі вучням, піанэрскім атрадам, не вядзецца;

з) раённыя выканаўчыя камітэты сыстэматычна скарыстоўвалі працаўнікоў раённых камітэтаў сялянскіх т-ваў узаемадапамогі на савецкай працы, што шкодзіла працы камітэтаў сялянскіх т-ваў узаемадапамогі.

III. У далейшай працы Зьезд Сялянскіх Т-ваў Узаемадапамогі пастанаўляе ажыцьцявіць наступныя практычныя мерапрыемствы:

1. Цэнтральны Камітэт Сялянскіх Т-ваў Узаемадапамогі, акруговыя ўпаўнаважаныя сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі і раённыя камітэты павінны зьвярнуць асаблівую ўвагу на палепшаньне кіраваньня раённымі і сельскімі камітэтамі, асабліва на жывое кіраваньне, для чаго пры абглядзе камітэтаў больш падрабязна і дакладна вывучаць становішча сельскіх камітэтаў сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі, дапамагаючы наладжваць арганізацыйна-масавую, гаспадарчую і тэхнічную працу, для чаго рабіць абгляды і інструктаваньне раённых і сельскіх камітэтаў з такім рахункам, каб у працягу году кожны раённы і сельскі камітэт сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі абавязкова быў абгледжан і інструктаван ня менш 2 разы.

2. Зьезд прапануе камітэтам селянскіх т-ваў узаемадапамогі ў далейшым зьвярнуць асаблівую ўвагу на арганізацыйна-масавую працу з тым, каб сялянскія т-вы ўзаемадапамогі сапраўды сталі масавую аўтарытэтнаю арганізацыяю ў вачох сялянства, для чаго камітэтам сялянскіх т-ваў узаемадапамогі для ўзмацненьня большай сувязі з сялянствам ня менш двух разоў у год рабіць справаздачы аб працы апошніх на сходах членаў т-ваў, уцягваючы іх у практычную штодзённую працу камітэтаў.

3. Зьезд Сялянскіх Т-ваў Узаемадапамогі лічыць, што галоўнаю задачаю камітэтаў сялянскіх т-ваў узаемадапамогі зьяўляецца спагнаньне членскіх уносаў і задоўжанасьці па пазычках, а таму прапануе камітэтам сялянскіх т-ваў узаемадапамогі зьвярнуць на гэтую галіну працы асаблівую ўвагу і ўстанавіць у гэтай справе цьвёрдую таварыскую дысцыпліну сярод членаў т-ваў узаемадапамогі па своечасным спагнаньні членскіх уносаў і задоўжанасьці, прычым да членаў, якія адмаўляюцца ад выплаты членскіх уносаў, ужываць захады таварыскага ўплыву на сходах членаў праз выгаворы, папярэджаньні аб выключэньні з таварыства, выключэньне на тэрмін ад аднаго да трох месяцаў і праз выключэньне зусім з таварыства.

Камітэты сялянскіх т-ваў узаемадапамогі павінны сачыць за правільным скарыстаньнем выданай пазычкі, напрыклад, калі пазычка выдадзена на куплю каня, каровы, альбо сельска-гаспадарчых машын дык трэба, каб выдадзеная пазычка пашла толькі на адзначаную мэту, а таксама дабівацца сваячаснага звароту пазычкі.

4. Зьезд прапануе сялянскім т-вам узаемадапамогі і іх выканаўчым органам браць больш актыўны ўдзел у перавыбарных кампаніях саветаў і высоўваць найбольш актыўных аўтарытэтных беднякоў, якія праявілі сябе на грамадзкай працы па лініі ўзаемадапамогі, на працу ў савецкія органы і ўстановы, падлічаючы высунутых асоб.

5. Лічыць, што другою галоўнаю задачаю камітэтаў сялянскіх т-ваў узаемадапамогі зьяўляецца каапераваньне бядняцка-серадняцкіх гаспадарак. Зьезд прапануе сялянскім т-вам узаемадапамогі і іх выканаўчым органам браць актыўны удзел, апроч каапераваньня, праз унясеньне паёў, у беспасрэднай арганізацыі калектыўных аб'яднаньняў, а іменна: сельска-гаспадарчых, мэліарацыйных, малочных, торпавых, машынных і інш. т-ваў і арцеляй, уцягваючы ў іх у першаю чаргу беднякоў, дапамагаць у гэтай справе сельскім саветам, зямельным органам і каапэрацыйным арганізацыям.

6. У сувязі з значным абнаўленьнем пасьля перавыбарнай кампаніі сельскіх упаўнаважаных, складу сельскіх і раённых камітэтаў, Зьезд прапануе Цэнтральнаму Камітэту і акруговым упаўнаважаным, а таксама і раённым камітэтам зьвярнуць асаблівую увагу на працу з гэтым актывам, для чаго рабіць спэцыяльныя нарады па асобных пытаньнях работы, уцягваючы ўсіх у практычную штодзённую працу т-ваў узаемадапамогі, асабліва жаночы актыў.

7. Зьезд прапануе сялянскім т-вам узаемадапамогі і іх выканаўчым органам палепшыць працу на вытворчых прадпрыемствах, для чаго ўжыць захады да падняцьця працоўнай дысцыпліны, паляпшэньня якасьці вырабаў і патаньненьне іх, адначасна вывучаючы магчымасьці далейшай арганізацыі прадпрыемстваў, дапаможных сельскай гаспадарцы і накіраваных на паднясьце яе, а іменна: цагелен, млыноў, чарапічных, бятонных заводаў і інш., узгадняючы гэтае пытаньне з сельскімі саветамі, раённымі выканаўчымі камітэтамі і акруговымі пляновымі камісіямі.

8. Зьезд прапануе сялянскім т-вам узаемадапамогі і іх выканаўчым органам пракатныя пункты папоўніць патрэбнаю колькасьцю сельска-гаспадарчых машын, адначасна вядучы працу па арганізацыі новых пракатных пунктаў, пры чым у далейшым узяць курс на арганізацыю з іх машынных т-ваў з перадачаю апошніх у сыстэму сельска-гаспадарчай кааперацыі.

9. Членскія ўносы, якія ў большасьці сялянскіх т-ваў узаемадапамогі ўстаноўлены па 20 к. з дзесяціны сенапахаці аднолькава для ўсіх членаў, не адрозьнівалі маемаснага становішча членаў сялянскіх т-ваў узаемадапамогі беднякоў ад серадняков і заможных, для ўнясеньня большай яскравасьці і прагрэсыўнасьці ў сыстэму налічэньня членскіх уносаў і спрашчэньня яе, Зьезд лічыць патрэбным на далейшы час устанавіць членскія ўносы ў разьмеры 5 проц. ад налічанага сельска-гаспадарчага падатку, што-ж датычыцца гаспадарак, якія не абкладаюцца сельска-гаспадарчым падаткам, даручыць Цэнтральнаму Камітэту Сялянскіх Таварыстваў Узаемадапамогі вырашыць гэтае пытаньне ў тэрміновым парадку і даць належныя тлумачэньні мясцом, прычым налічэньне членскіх уносаў па новаму прынцыпу правесьці на 1928-29 гаспадарчы год, вядучы да пачатку гэтага году рашучую працу па спагнаньні задоўжанасьці за мінулыя гады.

10. Зьезд абавязвае сялянскія т-вы ўзаемадапамогі і іх выканаўчыя органы выканаць дырэктыву Прэзыдыуму Цэнтральнага Камітэту Сялянскіх Таварыстваў Узаемадапамогі аб падліку беднаты для большага абслугоўваньня яе ўсімі відамі свае працы, дачы дзяржаўных льгот і для правядзеньня іншых мерапрыемстваў, накіраваных на падняцьце і разьвіцьцё сельскай гаспадаркі.

11. Бяручы пад увагу тое, што праца рэвізійных камісій мае вельмі вялікае значэньне на спыненьне растрат і бесгаспадарлівасьці, на палепшаньне працы і на падняцьце аўтарытэту камітэтаў сялянскіх т-ваў узаемадапамогі, Зьезд прапануе Цэнтральнаму Камітэту, акруговым упаўнаважаным і раённым камітэтам зьвярнуць асаблівую ўвагу на ажыўленьне працы рэвізійных камісій з тым, каб апошнія рабілі рэвізіі і справаздачы перад выбаршчыкамі рэгулярна два разы ў год.

12. Зьезд прапануе выканаўчым органам сялянскіх т-ваў узаемадапамогі шырэй паставіць працу па ўзаемадапамозе бедняцкім гаспадаркам членаў т-ваў узаемадапамогі праз выдачу насенных, грашовых пазычак, асабліва ў час пасеўных кампаній, і практыкаваць працоўна-гужавую дапамогу вясковай беднаце, сем'ям чырвонаармейцаў, удовам і інвалідам, асабліва ў вясеньнюю і асеньнюю пасеўную кампаніі, а таксама і ў рабочы час, увязваючы гэту працу з партыйнымі і камсамольскімі арганізацыямі і сельскімі саветамі.

13. Зьезд прапануе сялянскім т-вам узаемадапамогі і выканаўчым органам зямельна-сенажатныя вучасткі апрацоўваць на аснове грамадзкасьці самімі камітэтамі, ужываючы культурныя мэтады апрацоўкі, мінэральнае і зялёнае ўгнаеньне, пры ўдзеле і дапамозе агранаміі, і дабіваючыся, каб гэтыя вучасткі маглі стаць узорнымі для членаў т-ва ўзаемадапамогі.

14. Адзначаючы мерапрыемствы па арганізацыі пры раённых і сельскіх камітэтах насенных натуральных фондаў, патрэбных для задавальненьня бедняцкіх гаспадарак, вельмі важных у час пасеўных кампаній, Зьезд прапануе сялянскім т-вам узаемадапамогі і іх выканаўчым органам зьвярнуць асаблівую ўвагу на павялічэньне насенна-натуральнага фонду з такім разрахункам, каб у працягу бліжэйшых пяці гадоў кожны раённы камітэт меў 2000 п. насеньня, а сельскі камітэт—1000 пуд.

15. Зьезд адзначае, што да гэтага часу праца салянскіх т-ваў узаемадапамогі і іх выканаўчых органаў ня мела папулярызацыі ў друку, ня глядзячы на тое, што ў іх працы ёсьць такія моманты, якія трэба было-б абмеркаваць праз друк, сярод шырокіх колаў членаў сялянскіх т-ваў узаемадапамогі, як з добрага практычнага боку, таксама і адмоўных бакоў працы. Зьезд зварочваецца да камітэцкіх працаўнікоў і сельскіх карэспандэнтаў высьвятляць працу камітэтаў ў мясцовым, а таксама і цэнтральным друку.

16. Бяручы пад увагу тое, што большасьць сельскіх камітэтаў да гэтага часу яшчэ не перайшлі на плянавую і каштарысную працу, а таксама наглядаецца яшчэ вырашэньне пытаньняў аднымі старшынямі сельскіх камітэтаў, Зьезд прапануе канчаткова зьнішчыць гэтую зьяву і ўсім камітэтам весьці сваю працу ў плянавым парадку, складаючы гадовыя і квартальныя пляны працы і прыхода—расходныя каштарысы і правераць кожны раз пры абсьледваньні і разглядзе дакладаў камітэтаў выкананьне плянаў і каштарысаў.

Усе пытаньні камітэтаў, якія патрабуюць калектыўнага вырашэньня, павінны абмяркоўвацца на пасяджэньнях прэзыдыумаў, а больш важныя—на пленумах і нарадах, пры чым пасяджэньні сель-

скіх камітэтаў, прэзыдыумаў раённых і Цэнтральнага камітэтаў рабіць адзін раз кожныя два тыдні і пленумы Цэнтральнага Камітэту адзін раз у год, раённы камітэт—2 разы ў год і нарады старшынь сельскіх камітэтаў, рэвізійных камісій і жанчын, што працуюць у камітэтах—па меры патрэбы, але ня менш двух раз у год, нарады сельскіх упаўнаважных—4 разы ў год.

17. Біручы пад увагу тое, што з рэарганізацыяю акруговых камітэтаў разьездныя сродкі амаль што скарочаны да мінімуму, што не дае магчымасьці рэгулярна абглядаць раённыя і сельскія камітэты, а таму Прэзыдыум Цэнтральнага Камітэту павінен падняць пытаньне аб павялічэньні водпуску разьездных сродкаў акруговым упаўнаважаным сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі.

Старшыня Зьезду Сялянскіх Таварыстваў Узаемадапамогі **Л. Адзінцоў.**

Сакратар Зьезду Сялянскіх Таварыстваў Узаемадапамогі **П. Стрыкаў.**

18 сакавіка 1928 г.

---

## В. ПА ДАКЛАДУ НАРОДНАГА КАМІСАРЫЯТУ ЗЕМЛЯРОБСТВА АБ ЧАРГОВЫХ ЗАДАЧАХ ВЯСЕНЬНЯЙ СЕЛЬСКА-ГАСПАДАРЧАЙ КАМПАНІІ І ЎДЗЕЛЕ Ў ЁЙ СЯЛЯНСКІХ Т-ВАЎ УЗАЕМАДАПАМОГІ.

Выслухаўшы даклад Нам. Народнага Камісара Земляробства т. Каровікава аб чарговых задачах вясеньняй сельска-гаспадарчай кампаніі і ўдзеле ў ёй сялянскіх т-ваў узаемадапамогі, V Усебеларускі Зьезд Сялянскіх Т-ваў Узаемадапамогі пастанаўляе:

1. Ужыць рашучыя захады ва ўсёй сыстэме сялянскіх т-ваў узаемадапамогі БССР да выкананьня Палажэньня аб дзяржаўна-грамадзкім насенным натуральным фондзе БССР (З. З. БССР 1926 г., № 45, арт. 168 і Бюлетэнь СНК БССР 1926 г., № 13 (22), стар. 7—8).

2. Працу па ўтварэньні насеннага фонду весьці з такім разьлікам, каб на працягу пяці бліжэйшых гадоў утварыць пры кожным раённым камітэце сялянскага таварыства ўзаемадапамогі насенны фонд ня менш 2000 п., пры кожным сельскім камітэце ня менш 1000 пуд, а усяго ў БССР ня менш 1700 тыс. пуд. (замест каля 400 тыс. пуд. гэтага году).

3. Працу па будаваньні насенных магазынаў для захоўваньня насенных фондаў весьці з такім разьлікам, каб на працягу бліжэйшых двух гадоў мець па аднаму магазыну пры раённым камітэце ў сярэднім на 4000 п. і па аднаму магазыну пры кожным сельскім камітэце ў сярэднім на 2000 п., і хадайнічаць перад Урадам БССР аб водпуску на гэтую мэту бясплатнага лесу.

4. Для забясьпечаньня запатрабаваньня бядняцкіх гаспадарак у рамонце сельска-гаспадарчага інвэнтару, пачаць сыстэматычную працу па арганізацыі сеткі майстэрняў па рамонту сельска-гаспадарчага інвэнтару пры раённых камітэтах з такім разьлікам, каб на працягу двух бліжэйшых гадоў мець арганізаванымі 100 раённых майстэрняў, з якіх ня менш 50 пабудаваць у 1928 г.

5. Для забясьпечаньня бядняцкіх гаспадарак у вясеньнюю пасеўную кампанію патрэбным інвэнтаром (машынамі і прыладамі), узмоцніць сетку існуючых пракатных і ачышчальных пунктаў і папоўніць іх патрэбнымі машынамі і прыладамі, адначасна пашырыўшы сетку гэтых пунктаў праз арганізацыю новых пунктаў, біручы курс на ўтварэньне навокал пракатных і зернаачышчальных пунктаў машынных таварыстваў.

Ужыць рашучыя захады да поўнага скарыстаньня інвэнтару пракатных і зернаачышчальных пунктаў у пасеўную кампанію гэтага году, забясьпечваючы ў першую чаргу інвэнтаром пунктаў бядняцкія і чырвонаармейскія гаспадаркі.

6. У тэрміновым парадку ўжыць рашучыя захады да ўзмацненьня загатоўкі насеньня ў сыстэме сялянскіх т-ваў узаемадапамогі, поўнасьцю скарыстаўшы ўсе грашовыя сродкі камітэту на папаўненьне насеннага фонду з тым, каб своечасна поўнасьцю задаволіць запатрабаваньні ў насеньні гаспадаркі членаў т-ваў і ў першую чаргу бядняцкія і чырвонармейскія гаспадаркі. Загатоўленае насеньне, улічваючы ня зусім здавальняючую якасьць пасеўнага матар'ялу ўраджаю 1927 г., асабліва па засьмечанасьці, абавязкова прапушчаць праз зернаачышчальныя машыны камітэтаў зямельных органоў і сельска-гаспадарчай капярацыі. У раёнах з заражэньнем насеньня галаўнёю абавязкова трэба пратручваць насеньне, зварочваючыся за дапамогаю ў гэтай справе (атрыманьне фармаліну, купаросу, патрэбных парад) да раённых агранамічных працаўнікоў. Пры разьмеркаваньні насеньня строга кіравацца палажэньнем аб дзяржаўна-грамадзкім насенным фондзе.

7. Для дапамогі бядняцкім і чырвонаармейскім гаспадаркам, якія ня маюць патрэбнай працоўнай сілы, рабочай жывёлы і інвэнтару, усе сялянскія т-вы ўзаемадапамогі павінны ўзмоцніць і пашырыць у пэрыяд вясеньніх сельска-гаспадарчых работ і пры зборы ураджаю арганізацыю працоўнай дапамогі рабочаю сілаю і жывёлаю (талака), увязваючы гэтую працу з ячэйкамі КП(б)Б, ЛКСМБ і сельскімі саветамі.

8. Зьвярнуць асаблівую увагу ўсіх камітэтаў сялянскіх т-ваў узаемадапамогі на патрэбу значнага пашырэньня ў гэтым годзе грамадзкіх апрацовак і засеваў з тым, каб праз гэтую супольную апрацоўку і засеў у далейшым пашырыць сетку вытворчых капэрацыйных і каляктыўных аб'яднаньняў.

9. Грунтуючыся на дырэктывах урадавых органаў аб патрэбе пашырэньня пасеўнай плошчы, камітэты сялянскіх т-ваў узаемадапамогі павінны сачыць за тым, каб уся плошча, годная для пасеву была засеена. Калі будзе наглядацца, што заможная частка сялянства будзе пакідаць пуставаць годныя землі, то трэба ставіць пытаньне перад зямельнымі органамі аб далейшым скарыстаньні гэтых зямель.

10. Практыка мінулых гадоў паказала, што нездавальняюча скарыстоўваюць шмат якія камітэцкія вучасткі, у далейшым трэба ўжыць захады да больш гаспадарчага скарыстаньня такіх вучасткаў, у паасобку праз ужываньне на іх спосабаў культурнай апрацоўкі і засеваў, пры дапамозе агранамічнага пэрсаналу, практыкуючы закладку на гэтых вучастках агрыкультурных паказальных вучасткаў.

11. Уся праца т-ваў па правядзеньні вясеньняй сельска-гаспадарчай кампаніі павінна цесна увязвацца з мерапрыемствамі і агульнымі плянамі па правядзеньні сельска-гаспадарчай кампаніі, асабліва ў раёнах.

12. Абавязаць усе раённыя камітэты на працягу ўсяе кампаніі трымаць цесную сувязь з раённымі крэдытнымі таварыствамі, каб пры разьмеркаваньні грашовых пазычак і сродкаў вытворчасьці, ў першую чаргу былі забясьпечаны бядняцкія і чырвонаармейскія гаспадаркі.

13. Улічваючы патрэбу пашырэньня мерапрыемстваў па кантрактацыі пасеваў у гэтым годзе, асабліва тэхнічных культур (лёну, бульбы, насеньня траў), лічыць патрэбным, каб таварыствы ўзаемадапамогі правялі працу па ўцягненьні сваіх членаў у справу кантрактацыі пасеваў, асабліва бядняцкіх гаспадарак, паводле існуючых умоў

па кантрактацыі і наглядамі за выкананьнем умоў кантрактацыі з боку гаспадарак, якія закантрактавалі свае пасевы.

14. Прасіць Народны Камісарыят Земляробства ўжыць захады да своечаснай дастаўкі загатаўляючымі органамі насеньня на месца, а таксама і дачы камітэтам сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі крэдыту на гэтую мэту.

Старшыня Зьезду Сялянскіх Таварыстваў
Узаемадапамогі **Л. Адзінцоў.**

Сакратар Зьезду Сялянскіх Таварыстваў
Узаемадапамогі **П. Стрыкаў.**

18 сакавіка 1928 г.

---

## 45. Пытаньні і адказы.

### Запытаньне Заслаўскай Раённай Зямельнай Камісіі.

ПЫТАНЬНЕ **7.** Як трэба сплачваць пры адабраньні лішкаў зямлі з карыстаньня вялікіх гаспадарак за адышоўшую канюшыну першага году: ці сплачваць трэба па ацэнцы камісіі толькі за затрачанае насеньне, ці за затрачанае насеньне і ўкос канюшыны, ці першы ўкос павінен скарыстоўвацца тым грамадзянінам, які сеяў канюшыну, і як трэба сплачваць за адышоўшую канюшыну другога году?

АДКАЗ. Калі пры адабраньні лішкаў зямлі ад вялікіх гаспадарак адойдзе да новай гаспадаркі нескарыстаны ўкос канюшыны першага году, то ранейшы землякарыстальнік мае права скасіць першы год усю канюшыну, а за іншыя гады ніякай сплаты ён не атрымоўвае.

Калі-ж адыходзіць зямля, засеяная лубінам, то ранейшай гаспадарцы новы землякарыстальнік павінен сплаціць нескарыстаныя выдаткі.

Разьмер, тэрміны і парадак гэтай сплаты павінны быць паказаны ў земляўпарадчым праэкце, паводле арт. 173 Зямельнага Кодэксу.

### Запытаньне Аршанскай Акруговай Зямельнай Камісіі.

ПЫТАНЬНЕ **8.** Ці можа акруговая зямельная камісія прыватнай пастановаю прапанаваць раённай зямельнай камісіі прыняць да разгляду заяву аб падзеле без аплаты яе судовай пошлінаю, бо заяўнік паказвае, што ён ня мае ніякай магчымасьці аплаціць гэты збор.

АДКАЗ. На падставе арт. 2 інструкцыі пра парадак спагнаньня судовых збораў зямельнымі камісіямі, судовая пошліна спаганяецца зямельнаю камісіяю тады, калі падаецца іск. Калі-ж іскавая заява пры яе падачы ня будзе аплачана судоваю пошлінаю, то яна пакідаецца бяз руху, а істцу даецца 7 дзён для таго, каб унясьці пошліну. А калі гэты тэрмін зыдзе, то іскавая заява, калі пошліна ня будзе ўнесена, зварочваецца скардніку (артыкул 60 інструкцыі). Незаможныя працоўныя, на падставе 31 артыкулу інструкцыі пра парадак спагнаньня судовых збораў, могуць зварочвацца ў зямельныя камісіі з просьбамі аб зьняцьці з іх збораў. З гэтай прычыны акруговая зямельная камісія ня можа прыватнаю пастановаю прапанаваць раённай зямельнай камісіі прыняць іскавую заяву без аплаты яе судоваю пошлінаю, а можа толькі прапанаваць раённай зямель-

най камісіі абмеркаваць пытаньне, ці можна зьняць з заяўніка судовыя зборы па незаможнасьці.

## Запытаньне Крычаўскай Раённай Зямельнай Камісіі.

ПЫТАНЬНЕ 9. Як быць у тых выпадках, калі грамадзяне розных раёнаў, сельскіх саветаў і вёсак жадаюць замяніць цалкам свае гаспадаркі з будынкамі на аснове сваяцтва і як разумець пры абмеркаваньні магчымасьці мены зямлі словы — „зямельныя вучасткі“, ці цэлыя гаспадаркі, ці толькі асобныя палоскі, якія ўваходзяць у склад гэтых гаспадарак?

АДКАЗ. Паводле артыкулу 26 Зямельнага Кодэксу забараняецца ўсякая пераўступка права карыстацца зямлёю, апроч арэнды ў парадку артыкулу 30 Зямельнага Кодэксу і мены з дазволу зямельных органаў. Для таго, каб ня даць магчымасьці прыкрыць продаж ці дарэньне зямлі менаю, апошняя дазваляецца, адпаведна з агульным сэнсам артыкулу 26 Зямельнага Кодэксу і паводле тлумачэньня Асобай Калегіі Вышэйшага Кантролю № 5 за 20 сакавіка 1926 года па журналу № 6, у інтарэсах скасаваньня церазпалосіцы, дальназямельля і іншых недахопаў землякарыстаньня. Такім чынам, мена толькі на аснове сваяцтва, якая не выклікае палепшаньня землякарыстаньня, дазваляцца не павінна.

Пад словамі „зямельныя вучасткі“ можна разумець паасобныя палоскі, а таксама і цэлыя гаспадаркі, калі такою менаю можна зьнішчыць недахопы землякарыстаньня, напрыклад, для ўтварэньня сельскагаспадарчага калектыву могуць мяняцца цэлымі гаспадаркамі несумежныя землякарыстальнікі.

## Запытаньні Заслаўскай Раённай Зямельнай Камісіі.

ПЫТАНЬНЕ 10. Ці можна ў выпадках выключэньня з падворных сьпісаў, зробленага наўмысна, каб атрымаць зямлю на правох безьзямельнага насельніцтва, зараз-жа пасьля выключэньня сельскімі саветамі з падворных сьпісаў лічыць вышаўшых членаў двара безьзямельнымі і надзяляць іх зямлёю?

АДКАЗ. Калі выхад з складу данага двара толькі аформлен рэгістрацыяй яго ў сельскім савеце, але запраўды ня зроблен і зьяўляецца фіктыўным, то такі выхад павінен лічыцца не запраўдным, як дагавор, заключаны, каб абыйсьці закон (артыкул 30 Грамадзянскага Кодэксу). Такі наўмысны выхад з складу двара не дае вышаўшаму члену двара права на землянадзяленьне, як безьзямельнага.

ПЫТАНЬНЕ 11. Як трэба зямельным органам рэагаваць на хадайніцтва членаў двара аб выключэньні іх з яго складу, калі гэтыя хадайніцтвы робяцца наўмысна, каб атрымаць зямлю ў якасьці безьзямельнага?

АДКАЗ. Органам, да якога грамадзяне могуць зварочвацца з хадайніцтвамі аб выключэньні з складу двара, зьяўляецца сельскі савет (артыкул 70 Зямельнага Кодэксу). Сельскі савет павінен рэгістраваць усе зьмены, якія адбываюцца ў складзе двара. Для гэтага ён можа і павінен сачыць за тым, каб гэтыя зьмены ў складзе двара адпавядалі сапраўднасьці. Калі-ж выхад з складу двара зьяўляецца фіктыўным і заяўшчык, які падаў заяву аб выхадзе, сапраўды

жыве ў складзе двара альбо ўдзельнічае ў яго працы і ня жыве і не працуе ў іншым месцы, то сельскі савет павінен адмовіць у рэгістрацыі такой фіктыўнай зьмены ў складзе двара.

## Запытаньні Бягомльскай Раённай Зямельнай Камісіі.

ПЫТАНЬНЕ 12. Ці датычацца артыкулы 271 Грамадзянскага Працэсуальнага Кодэксу і 245 Інструкцыі Народнага Камісарыяту Зямляробства за 12 сьнежня 1925 году пра забарону прадаваць пералічаныя ў гэтых артыкулах прадметы да таго выпадку, калі спагнаньне робіцца на карысьць выходзячага з гаспадаркі члена двара?

АДКАЗ. Абмежаваньне магчымасьці продажу маемасьці сельска-гаспадарчага двара выклікана патрэбаю забясьпечыць далейшае правільнае вядзеньне гаспадаркі. Гэтыя абмежаваньні маюць абавязковы характар для ўсіх выпадкаў. Такім чынам член двара, які выходзіць з яго складу, ня мае права на продаж прадметаў, пералічаных у артыкуле 245 Інструкцыі Народнага Камісарыяту Земляробства за 11 сьнежня 1925 году і ў артыкуле 316 (ранейшы 271) Грамадзянскага Працэсуальнага Кодэксу ў новай рэдакцыі за 2 лютага 1928 года.

ПЫТАНЬНЕ 13. Калі кампэнсацыя з выплатаю ратамі прысуджана такому члену двора, які выходзіць з яго складу, то ці мае ён права, да канчатковай выплаты яму прысуджанай сумы, жыць у хаце двара, з якога выходзіць?

АДКАЗ. Пры выхадзе члена з двара спыняецца сувязь яго з дваром і юрыдычная (выключэньне з сьпісу членаў гэтага двара) і фактычная (ён павінен пакінуць тэрыторыю двара і ня ўдзельнічаць у яго працы). Калі прысуджаецца быўшаму члену выплата з двара, то гэтым ён ставіцца ў адносінах да двара ў становішча ўсякага іншага староньняга спагнальніка і аклад тэрміну спагнаньня не дае права ісцу карыстацца не належачай яму маемасьцю і, у паасобку, домам таго двара, з якога ён адышоў. У выключных выпадках зямельная камісія можа назначыць тэрмін, у які быўшы член двара павінен высяліцца з яго дому.

ПЫТАНЬНЕ 14. Паводле § 1-га абежніку Народнага Камісарыяту Земляробства БССР за 16 мая 1925 году № 105, пад каштоўнымі ляснымі вучасткамі на сялянскіх землях разумеюцца тыя вучасткі, на якіх ёсьць ня менш 200 штук дрэў ад пяцёх вяршкоў таўшчынёю. Паўстае пытаньне, як быць тады, калі на 8 сялянскіх шнурох ёсьць адзін кавалак лесу плошчаю каля 2 дзесяцін з дрэвамі ад 5 да 9 вяршкоў у колькасьці 370 штук? На кожны шнур з гэтага вучастку лесу пападае ад 0,23 да 0,33 дзесяціны і колькасьць дрэў менш 200 штук. Грамадзяне, на шнурох якіх знаходзіцца гэты вучастак, хочуць самі скарыстаць яго, а ўся вёска хоча скарыстаць лес для ўсіх грамадзян вёскі.

АДКАЗ. Абежнік № 105 тычыцца такіх вучасткаў менш 1 дзесяціны, якія зусім абасоблены і навокал мяжуюцца з сельска-гаспадарчымі ўжыткамі. Калі-ж паасобныя кавалкі лесу на шнурох розных гаспадароў злучаны і ўтвараюць масыў больш 1 дзесяціны, то гэты масыў павінен перадавацца ў лясы мясцовага значэньня па тыпавому дагавору на агульных падставах і да яго абежнік № 105 не падыходзіць.

## Запытаньне Віцебскай Акруговай Зямельнай Камісіі.

ПЫТАНЬНЕ 15. Калі надыходзіць канчатковы момант праверкі і папраўкі пасямейных сьпісаў па земляўпарадчых справах, пасьля якога ўсе зьмены ў дварох, такія, як сьмерць, нараджэньне, шлюб і прымацтва, не павінны быць прыняты пад увагу?

АДКАЗ. На падставе артыкулу 169 Зямельнага Кодэксу да тых пор, пакуль ня будзе падпісан пратакол паказаньня праэкту земляўпарадкаваньня, земляўпарадчык павінен уносіць у праект, калі гэтага хочуць стораны, мэтазгодныя зьмены і папраўкі. Зьмены ў пасямейных сьпісах, якія ўносяцца на падставе шлюбу, сьмерці, прымацтва і інш., у сваю чаргу выклікаюць зьмены ў зямельных правох, а гэта адбіваецца на цэлым праекце. Калі-б унасіць гэтыя зьмены пры паказаньні праекту, то гэта вельмі шкодна адбівалася-б на ходзе земляўпарадкаваньня, бо доводзілася-б бясконца папраўляць праект, што шкодзіла-б земляўпарадкаваньню. З гэтай прычыны ў яго інтарэсах трэба эдзначыць, што канчатковым момантам праверкі і ўнясеньня зьмен у пасямейныя сьпісы зьяўляецца час пасьля расцэнкі зямель і перад складаньнем праекту. У гэты час павінен быць склікан агульны сход усіх грамадзян з удзелам прадстаўнікоў раённага выканаўчага камітэту і сельскага савету і земляўпарадчыка. На гэтым сходзе канчаткова зацьвярджаецца пасямейны сьпіс.

## Запытаньні Лупалаўскай Раённай Зямельнай Камісіі Магілеўскай акругі.

ПЫТАНЬНЕ 16. Пастановаю Асобай Калегіі Вышэйшага Кантролю па справе № 874—1926 году растлумачана, што галава гаспадаркі бяз ведама і згоды няпоўнапраўных членаў сям‘і ня мае права здаваць зямлю ў арэнду. На практыцы ўжываецца, што дагавор падпісвае толькі гаспадар дому. З якога матар‘ялу раённы выканаўчы камітэт пры рэгістрацыі дагавору можа высьвятліць аб згодзе на здачу зямлі іншых паўнапраўных членаў двара?

АДКАЗ. Паводле артыкулу 66 Зямельнага Кодэксу прадстаўніком двара па яго гаспадарчых справах прызнаецца гаспадар. З гэтай прычыны пры рэгістрацыі дагавору на арэнду зямлі, падпісанага гаспадаром, раённы выканаўчы камітэт не павінен пытаць згоды іншых членаў двара. Але таму, што здача зямлі ў арэнду зьяўляецца часовым адмаўленьнем ад зямлі, члены двара могуць заявіць з свайго боку пратэст у раённы выканаўчы камітэт супроць здачы зямлі ў арэнду. Калі перад рэгістрацыяю дагавору такі пратэст будзе заяўлен, то раённы выканаўчы камітэт павінен адмовіць гаспадару ў рэгістрацыі арэнднага дагавору, кіруючыся ў даным выпадку па падабенству артыкулам 18 Зямельнага Кодэксу. Калі-ж у раённы выканаўчым камітэце ня будзе пярэчаньняў з боку членаў двара супроць здачы зямлі ў арэнду гаспадаром, то гэта будзе сьведчыць аб згодзе членаў двара на дагавор.

ПЫТАНЬНЕ 17. На якім пасяджэньні раённая зямельная камісія спыняе справы, што паступаюць ад народнага суду, аб выдзеле часьці маемасьці з недрабімай гаспадаркі, калі ісьцец адмаўляецца атрымаць выплату?

АДКАЗ. З таго, што растлумачыла Асобая Калегія Вышэйшага Кантролю (распарадчае пасяджэньне 22 сакавіка 1927 г. па журналу № 24) відаць, што раённая зямельная камісія па справах аб падзелах павінна высьвятліць, ці жадае іосьцец выйсьці са складу недрабімага двара і атрымаць выплату, а калі адмовіцца іосьцец ад гэтага, павінна быць адмоўлена ў іску. Для гэтага такая справа разглядаецца толькі ў судовым пасяджэнні, ды і наогул раённыя зямельныя камісіі ня маюць распарадчых пасяджэньняў.

ПЫТАНЬНЕ **18.** Ці мае мае права зямельная камісія, паводле артыкулу 30 Інструкцыі за 11 сакавіка 1925 году, штрафаваць старшыню альбо сакратара сельскага савету за адмаўленьне даць тлумачэньне па справах?

АДКАЗ. Штрафаваць, паводле артыкулу 30 Інструкцыі за 11 сьнежня 1925 году, можна ў законных выпадках толькі асоб, якія ведаюць справу. Імі зьяўляюцца розныя спэцыялісты, напрыклад, аграном, каморнік, мэліяратар і інш. Старшыня альбо сакратар сельскага савету па тых справах, у якіх яны ўдзельнічалі па сваёй пасадзе і па якой ад іх патрабуецца зямельнаю камісіяю заключэньне, ня могуць лічыцца знаўцамі справы і іх нельга штрафаваць паводле артыкулу 30 Інструкцыі. Можна падымаць пытаньне аб іх адказнасьці за адмаўленьне ад дачы тлумачэньня у адміністрацыйным парадку ў раённым выканаўчым камітэце альбо ў Пракурора.

ПЫТАНЬНЕ **19.** Ці абавязкова пасылаць копію завочнай пастановы раённай зямельнай камісіі асобе, якая, атрымаўшы позву, на суд не зьявілася?

АДКАЗ. Паводле артыкулу 83 інструкцыі за 11 сьнежня 1925 году старанам, якія ня прысутнічалі пры разглядзе справы ў першай інстанцыі, павінна быць паслана копія рэзалюцыі зямельнай камісіі.

ПЫТАНЬНЕ **20.** У пункце 26 інструкцыі пра парадак спагнаньня судовых збораў адзначана: запрашальныя павесткі раённых зямельных камісій уручаюцца праз сельскі савет бясплатна. Як-жа быць тады, калі павесткі пасылаюцца па пошце і на тэрыторыі раёну?

АДКАЗ. Артыкул 26 інструкцыі за 20 мая 1926 г. прадугледжвае бясплатнасьць усіх паслуг сельскіх саветаў ў справе ўручэньня павестак. Паслугі гэтыя складаюцца з дастаўкі павесткі, уручэньня яе, ўзяцьця расьпіскі і адсылкі ў раённую зямельную камісію. Калі бываюць выпадкі, што сельскія саветы зносяцца з раённым выканаўчым камітэтам паміма пошты, то такім-жа шляхам перасылаюцца і павесткі. Калі-ж трэба паслаць павесткі поштаю, то ў такім выпадку можна патрабаваць грошы на паштовыя выдаткі, кіруючыся артыкулам 25 інструкцыі.

Атрыманыя на паштовыя выдаткі грошы павінны выдаткоўвацца толькі на беспосрэднае прызначэньне і ня могуць быць выданы на іншыя мэты.

Адказы на пытаньні 7—20 даюцца Асобаю Калегіяю Вышэйшага Кантролю па Зямельных Справах пры НКЗ БССР (журнал пленарнага пасяджэньня № 34 за 22 лютага 1928 г.).

# Да справы самаабкладаньня.

Цяпер ва ўсім Саюзе Савецкіх Рэспублік, у тым ліку і ў БССР, праводзіцца самаабкладаньне сельскага (местачковага) насельніцтва. Правілы гэтага самаабкладаньня вызначаюцца ў законах і інструкцыі, якія зьмешчаны у гэтым №-ры Бюлетэню. Мы тут крыху спынімся на пытаньні, для якой мэты праводзіцца самаабкладаньне і якое значэньне надаецца яму.

Ад старага парадку мы атрымалі ў спадчыну ўбогую, няпісьменную, някультурную вёску. За 10 год з Кастрычнікавае рэвалюцыі шмат зроблена, каб зьнішчыць гэтую беднасьць і няпісьменнасьць, каб вывясьці савецкую вёску на шлях сталага гаспадарчага і культурнага дабрабыту. Зруйнаваная за часы імпэрыялістычнай і грамадзянскай вайны, Савецкая дзяржава штогод адпушчала і адпушчае значную частку сваіх даходаў на палепшаньне жыцьця сялянства, на падняцьце сялянскай гаспадаркі, на народную асьвету і на іншыя патрэбы вёскі. Але Кастрычнікавая рэвалюцыя, вызваліўшы сялянства ад улады абшарнікаў—капіталістых, разам з тым прабудзіла ў ім нячуваную ахвоту да асьветы, да культуры, да палепшаньня свае гаспадаркі. Патрэбы вёскі растуць штогод. Калі 10 гадоў назад большасьць сялян нядбайна адносілася да таго, ці астануцца іх дзеці няпісьменнымі, ці не, дык цяпер кожны з іх зразумеў, якое значэньне мае асьвета і кожны прагнецца аддаць сына або дачку ў школу. Раней агранома ў вёсцы бачылі раз у некалькі гадоў, а цяпер шмат паасобных гаспадароў і нават цэлыя вёскі трымаюць з агранамічнымі станцыямі сталую сувязь, карыстаюцца іх ведамі і радамі да паляпшэньня гаспадаркі. Вёска добра зразумела значэньне і выгады больніц, вэтэрынарных пунктаў, шляхоў, мастоў і іншых культурна-гаспадарчых мерапрыемстваў і попыт на ўсе гэтыя рэчы хутка расьце.

Гэта адбіваецца ў першую чаргу на тых мясцовых бюджэтах, якія складаюцца ў раёнах і акругах. Каб поўнасьцю здаволіць усе штогодныя заяўкі іх на культурна-гаспадарчыя патрэбы, нехапіла-б усіх даходаў дзяржавы.

Савецкая Ўлада прагнецца як мага больш здаволіць культурна-гаспадарчы попыт сялянства, дае на гэта значную частку сваіх сродкаў. Даволі зазначыць, што сумы, якія штогод адпушчаюцца на палепшаньне сельскай гаспадаркі, перавышаюць сумы, якія зьбіраюцца па сельска-гаспадарчым падатку. Было-б у нас больш грошай —можна было-б і больш адпусьціць на гэтую мэту. Але бюджэт нашай дзяржавы прымушае нас скарачаць уласныя патрэбы; нельга кінуць усе сродкі на сельскую гаспадарку, бо для разьвіцьця гэтай самай гаспадаркі трэба падымаць прамысловасьць, павялічваць колькасьць і прадукцыю фабрык і заводаў. Інакш кажучы, дзяржава кожны рубель з сваіх даходаў пільна разьмяркоўвае, каб не абрэзаць ніводнай галіны нашага гаспадарства, каб усе бакі нашага эканамічнага дабрабыту расьлі паступова.

Сялянства добра разумее, што нельга патрабаваць немагчымага, не спадзяецца ў кожным разе на дапамогу з скарбу, а шукае спосабаў задаволіць свае патрэбы з уласных сродкаў. Праводзіцца самаабкладаньне. Грамадзянства ўмаўляецца і супольна будуе масты, папраўляе шляхі, арганізоўвае школы і гэтак далей. Гэтая справа

ідзе з году ў год, і такім чынам вёска сама латае тыя дзіркі, якія пакуль што ня можа залатаць дзяржава.

Аднак ня ўсюды і не заўсёды справа самаабкладаньня праходзіць добра. Агульныя ўмовы спрыяюць ёй, бо даходнасьць сельскай гаспадаркі шпарка падвышаецца, падатак астаецца амаль ня ў сталым разьмеры і, такім чынам, штогод павялічваюцца лішкі грошай у вёсцы і магчымасьці выкінуць рубель—другі на грамадзкую справу. Бедната і серадняк у большасьці ахвотна адчыняюць кашэль на гэтую мэту. Інакш адносіцца да гэтага заможнік, або кулак. Ён заўсёды лічыць за лепшае захаваць свой рубель у кішэні і, калі магчыма, падмазацца да агульнага катла з ложкаю, а ня з сольлю. Больш таго, ёсьць і такія кулакі, якія наўмысна прагнуцца раскідаць справу самаабкладаньня на задаволеньне грамадзкіх патрэб, бо кожны посьпех савецкай вёскі стаіць у іх як косьць у горле сабакі. Колькі раз бывала, што адзін спраўны кулак адбіваў ахвоту да самаабкладаньня ў цэлай вёскі.

З другога боку здаралася і так, што грамадзяне пастановяць правясьці самаабкладаньне, а калі пачнецца раскладка, дык больш заможныя гаспадары так усё перакруцяць, што самі плацяць аднолькава, а то і менш за самых бедных. Ня дзіва, што пасьля такой спробы бедната ды серадзякі чэшуць патыліцы і заракаюцца на будучы час удзельнічаць у грамадзкіх справах.

Усе гэтыя недахопы былі таму, што ня было вызначана сталага, добрага і аднолькавага для ўсіх мясцовасьцяй парадку самаабкладаньня. І цяпер, калі патрэба ў самаабкладаньні асабліва ўзрасла, Ўрад узяўся за гэтую справу і выдаў адпаведны закон.

Спынімся крыху на галоўных пунктах гэтага закону.

Перш-за-ўсё Ўрад дасканальна вызначыў пералік мерапрыемстваў, на якія дазваляецца самаабкладаньне. Гэта зроблена для таго, каб папярэдзіць правядзеньне пад відам самаабкладаньня незаконных збораў на патрэбы адміністрацыйнага характару. Закон гаворыць, што на кошт самаабкладаньня могуць прымацца толькі тыя справы, з якіх насельніцтва атрымоўвае беспасрэдную карысьць: школы, больніцы, агранамічныя і вэтэрынарныя пункты, хаты-чытальні і іншыя ўстановы, што падвышаюць культурны і гаспадарчы ўзровень селянства. Катэгарычна забараняецца самаабкладаньне на патрэбы адміністрацыйныя: ўтрыманьне сельскіх саветаў, раённых выканаўчых камітэтаў, канцылярый і інш.

Вельмі важнае значэньне мае парадак прыняцьця самаабкладаньня. Закон зазначае, што пытаньне аб самаабкладаньні вырашаецца агульным сходам. Каб гэты сход быў правадзейным, патрэбна прысутнічаць на ім ня менш паловы грамадзян, што маюць права голасу. Магчыма, у першы раз сход не адбудзецца. Тады для правадзейнасьці другога сходу патрэбна, каб сабралася ня менш 1/3 усіх грамадзян, што маюць права голасу. Пры гэтым, калі простая большасьць галасоў выказалася за самаабкладаньне, дык яно абавязкова для ўсіх грамадзян вёскі (мястэчка), у тым ліку і для тых, якія галасавалі супроць, або ўхіліліся ад прысутнасьці на сходзе.

Гэта трэба крыху растлумачыць, бо некаторыя незразумелыя альбо занадта хітрыя грамадзяне разважаюць гэтак: калі самаабкладаньне—дабравольная справа, дык як можна лічыць яго абавязковым для тых, хто ня прысутнічаў або галасаваў супроць. Мы на гэта адказваем проста: няма ніводнай вёскі, дзе не патрэбна самаабкладаньне на тую ці іншую мэту. Але таксама ня знойдзецца ніводнае

вёскі, дзе ўсе грамадзяне згаджаліся-б на самаабкладаньне. Ня цяжка зразумець, што больш заможныя гаспадары будуць больш за ўсіх ухіляцца ад агульнай справы. На што яму папраўляць шлях, калі ў яго добрыя коні і выцягнуць калёсы па якой хочаш дарозе. На што яму школа, калі ў яго досыць грошай, каб наймаць прыватнага настаўніка для сваіх дзяцей. А калі іншыя згодзяцца і паправяць шлях або пабудуюць школу, дык ён ахвотна і па шляху паедзе і ў школу дзяцей сваіх пашле.

Коратка кажучы, патрэбы, на якія праводзіцца самаабкладаньне, больш цікавяць беднату і серадняка, чымся заможнага гаспадара. І калі-б Урад дапусьціў гэткі парадак, што пастанова аб самаабкладаньні зьяўляецца абавязковай толькі для тых, хто выказаўся за яе, дык кулак і заможнік паехалі-б на карку ў бедняты і серадняка і ўся справа была-б сарвана. Гэтага Савецкая ўлада не дапусьціць ніколі і для таго закон вызначае: калі большасьць за самаабкладаньне, дык меншасьць павінна ўдзельнічаць у гэтай справе.

Самаабкладаньне—справа патрэбная, бо задавальняе балючыя патрэбы вёскі. Аднак нельга аглядацца толькі на патрэбы, трэба лічыцца і з магчымасьцямі. Часам сход, не разгледзеўшы справы з усіх бакоў, можа прыняць пастанову аб самаабкладаньні на такую мэту, што патрабуе шмат сродкаў не па кішэні насельніцтва. Зразумела, нічога добрага з гэтага ня выйдзе. Для таго, каб забясьпечыць ажыцьцяўленьне мэтаў самаабкладаньня, закон зазначае: нельга прыймаць да самаабкладаньня суму большую за 35 проц. ад сумы ўсіх падаткаў, якія плаціць насельніцтва данай вёскі. Напрыклад, калі з насельніцтва вёскі за год налічана 1.000 руб. падаткаў, дык нельга прыняць да самаабкладаньня больш 350 рублёў.

Але можа быць, што ў паасобных вёсках або сельскіх саветах, з гэтых 35 проц. нельга задаволіць патрэбу, і насельніцтва згаджаецца даць па самаабкладаньні больш. У такім выпадку трэба прасіць акруговы выканаўчы камітэт, каб ён дазволіў падвысіць разьмер самаабкладаньня. Адпаведнае хадайніцтва паднімаюць праз раённы выканаўчы камітэт, і акруговы выканаўчы камітэт павінен вырашаць яго неадкладна.

Урэшце вельмі важнае значэньне мае парадак раскладкі самаабкладаньня. Уся фінансавая палітыка Савецкай ўлады пабудавана на такім агульным правіле: хто больш мае, павінен больш плаціць. Тое самае і ў самаабкладаньні.

Возьмем такі прыклад: на самаабкладаньне прынята будаваньне школы. Які-небудзь бедняк можа атрымаць ад гэтай школы больш карысьці, чымся заможнік, бо ў яго, напрыклад, 3 дзяцей, а ў заможніка—толькі адно. Ня гледзячы на тое, заможнік павінен даць на школу больш грошай, чымся бедняк, бо ў яго іх больш ёсьць. Закон аб самаабкладаньні вызначае, што паасобныя грамадзяне ўдзельнічаюць у самаабкладаньні прапарцыянальна тым сумам падаткаў, якія плаціць кожны. Напрыкад, да самаабкладаньня прынята 200 р. Усе грамадзяне плацяць падатку разам 1.000 р. Такім чынам на кожны рубель падаткаў прыходзіцца ў сярэднім 20 кап. па самаабкладаньні. З гэтай сумы і падлічваецца самаабкладаньне для паасобных гаспадарак. Хто плаціць па падатках 50 р., дык па самаабкладаньні павінен даць 10 р., а хто плаціць па падатках 5 р., дык па самаабкладаньні павінен даць 1 рубель.

Хто і колькі павінен даць па самаабкладаньню—гэта падлічвае сельскі (местачковы) савет з дапамогаю камітэту ўзаемадапамогі.

Пры гэтым у прапарцыянальную раскладку самаабкладаньня яны могуць унесьці наступныя зьмены: тым гаспадаркам, якія плацяць па падатках больш 100 р. кожная, можна падвысіць напалову вылічаную суму самаабкладаньня; паасобным незаможным гаспадаркам можна зьменшыць або зусім зьняць налічаныя з іх сумы самаабкладаньня. У выніку гэтых паправак павінна захавацца прынятая сходам агульная сума самаабкладаньня.

Мы бачым, што закон аб самаабкладаньні мае дзьве галоўныя задачы: 1) вырашыць дабравольны пачын насельніцтва ў задаволеньні культурна-гаспадарчых патрэб яго; 2) разьмеркаваць цяжар самаабкладаньня ў адпаведнасьці з платаздольнасьцю паасобных грамадзян.

Вядомая рэч, яшчэ ня кожны селянін добра зразумеў гэтыя задачы закону. Мы маем весткі, што кулакі ў некаторых вёсках надбіваюць серадняка супроць самаабкладаньня, агітуюць нават паміж беднаты. Чаму яны гэта робяць, гэта зразумее кожны: кулак у выплатах па самаабкладаньні павінен прымаць вялікі ўдзел. Гэта яму не падабаецца. Але, каб перамагчы кулакоў, трэба растлумачыць бяднейшым і сярэднім гаспадарам сэнс, задачы і спосаб раскладкі самаабкладаньня. Трэба арганізаваць беднату навокал справы самаабкладаньня і зьбіць кулака з яго пазыцыі. Толькі ў гэтым выпадку мы можам спадзявацца на канчатковы пасьпех самаабкладаньня.

Шмат залежыць ад самага сельскага савету. Насельніцтва можа быць падрыхтавана да самаабкладаньня і згаджаецца на яго. Аднак, калі раённы выканаўчы камітэт або сельскі савет ня ўважаць важнасьць гэтай справы і замест найбольш балючых высунуць па самаабкладаньню другародныя патрэбы, альбо ня здолеюць растлумачыць карысьць самаабкладаньня, яно можа правaліцца. Таму, раней чым склікаць агульны сход, сельскі савет павінен высьвятліць найбольш неадкладныя і карысныя патрэбы насельніцтва і прапанаваць самаабкладаньне ў першую чаргу на гэтыя патрэбы. Апроч таго, трэба загадзя растлумачыць справу беднаце, падрыхтаваць яе дапамогу і толькі тады можна ставіць пытаньне на агульны сход.

Не апошняе значэньне мае складаньне каштарысу на патрэбы самаабкладаньня. Можна так раздуць каштарыс, што самы зацікаўлены ў самаабкладаньні грамадзянін адмовіцца ад яго. Так сама і з выдаткамі. Кожны рубель па самаабкладаньні трэба выкарыстаць добра, каб не знайшлося ніводнага грамадзяніна, які гаварыў-бы, што, вось грошы зьбіралі, а карысьці мала, толькі кішэні свае панабілі. Трэба памятаць, што ў справе самаабкладаньня ёсьць шмат злаўмысных працаўнікоў. Варожы Савецкай Уладзе элемэнт выкарыстае кожную памылку, кожнае дробнае злачынства, каб раздуць агітацыю супроць самаабкладаньня і супроць Улады. І мы будзем бязьлітасна змагацца з такою агітацыяю, а таксама з злачынствам і нядбаласьцю ў справах самаабкладаньня.

Зразумела, у першы год, закон аб самаабкладаньні ня можа быць бяз некаторых недахопаў. Іх магчыма высьвятліць толькі пры практычным правядзеньні самаабкладаньня і з дапамогаю самага насельніцтва і мясцовых работнікаў. Мы лічым патрэбным і запрашаем сялян-актывістаў і ўвесь нізавы апарат пісаць у газэты і ў Народны Камісарыят Фінансаў, адзначаць на сходах усе адмоўныя бакі і недахопы новага закону. Кожная правільная заўвага будзе з падзякаю прынята да ведама і выкарыстана на будучы час.

Начальнік Падатковага Кіраўніцтва НКФ БССР **М. Кардашэнка.**

---

*Адказны Рэдактар: РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ.*

